Выходзіць з 1932 года.




Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

6 СНЕЖНЯ 2002 г. № 48/4182 КОШТ 335 РУБ.


АКЦЫЯ!

## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

2

*Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ:*

**"У адказ на шалёны наступ бездухоўнасці, масавай культуры, усяго гэтага псеўдацывілізаванага хамства, пошласці, дзікасці і нялюдскасці мы павінны паставіць сваю штодзённую працу — слова"**

3



**Праект — беларуска-расійскі: стварылі "Дон Кіхота" масквічы, а іграюць беларусы. Прычым і першыя, і другія — людзі вядомыя. Зоркі.**

10-11



ФЭСТЫ

# АБЛІЧЧА ЛЮБОВІ

*IX Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад — 2002", які праходзіў у Мінску з 23 па 29 лістапада, стаў мерапрыемствам сапраўды сенсацыйным. Па-першае, сёлета ў праграму кінафэсту трапілі фільмы, якія не супраць мець на сваім фестывалі вядомы расійскі кінапрадзюсер Марк Рудзінштэйн. Па-другое, на фестывалі мо ўпершыню, на думку трох журы (гледачоў, кінематаграфістаў, кінапрэсы), пераможцам выйшаў адзін і той жа фільм...*




Працяг тэмы на стар. 4



ПРЭЗЕНТАЦЫІ



# А ПЕСНІ... ЗАСТАНУЦЦА?

*"І такі-і-ія тэксты прападалі!" — што называецца, з пачуццём азваўся голас побач. Значыць, радасць "са слязамі на вачах" наведала ў кіназале кагосьці яшчэ і паяднала-зблізіла нас, гледачоў дзіўнага сеанса. Экран маскіравала заслона. Прэм'ерай быў не фільм, а новая праграма Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі.*

Працяг тэмы на стар. 13

## КОЛА ДЗЁН

**2 сакавіка 2003 года пройдуць выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. Сёння ж выбарчая кампанія знаходзіцца на сваім першым этапе — да 3 снежня ішло вылучэнне кандыдатаў у склад тэрытарыяльных выбарчых камісій. У нашай краіне 1679 мясцовых Саветаў, адпаведна, такая ж колькасць камісій і будзе сфарміравана. З 22 снежня пачнецца вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты, якое закончыцца 20 студзеня 2003 года. Вылучыцца кандыдатам можна трыма спосабамі. Першы — кандыдатаў вылучаюць мясцовыя кіруючыя органы палітычных партый. Другі спосаб — па ініцыятыве працоўных калектываў колькасцю не менш за 150 чалавек у абласны ці Мінскі гарадскі Саветы, колькасцю не менш за 75 чалавек — у раённыя і гарадскія Саветы. Трэці спосаб — шляхам збору подпісаў. Для таго, каб стаць кандыдатам у дэпутаты Мінскага гарадскога або абласнога Савета, трэба сабраць 150 подпісаў, для раённага ці гарадскога ўзроўняў — 75, а для сельскага — 20 подпісаў. Грамадскія аб'яднанні ў вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты не ўдзельнічаюць. З 20 па 30 студзеня 2003 года адбудзецца рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты.**

### *ПОСПЕХ ТЫДНЯ*

Паспяхова прайшлі Дні культуры Рэспублікі Беларусь на Украіне. Выступленні беларускіх артыстаў праходзілі пры аншлагах. Добрыя водгукі атрымала выстаўка выяўленчага мастацтва з фондаў Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Міністры культуры Беларусі і Украіны абмеркавалі пытанні правядзення Дзён культуры Украіны ў Беларусі ў наступным годзе. Зараз прапрацоўваецца пытанне аб стварэнні ў Мінску на базе кінатэатра "Кіеў" Цэнтра ўкраінскага кінематографа. Плануецца, што ў Кіеве таксама будзе створаны Цэнтр беларускага кіно.

### *АБ'ЯВА ТЫДНЯ*

З 1 снежня аб'яўлены конкурс на гімн Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Згодна з палажэннем аб конкурсе, тэкст гімна павінен быць на беларускай мове. У конкурсе могуць узяць удзел усе жадаючыя. Пераможцы атрымаюць грашовую прэмію.

### *УЗНАГАРОДА ТЫДНЯ*

Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі прафесара Міхала Фінберга ўпершыню ўзнагароджаны дыпломам лаўрэата тэлефестывалю "Песня года—2002". Гэты фестываль даўно любімы і папулярны не толькі ў Расіі, але і ў Беларусі.

### *ЗАВЯРШЭННЕ ТЫДНЯ*

У нашай сталіцы і абласцях завяршылася мадэрнізацыя таксафоннага парка, мэта якой была адаптаваць старыя гарадскія таксафоны для работы з універсальнымі таксафоннымі карткамі. Універсальныя карткі — гэта электронныя пластыкавыя карткі тыпу "еўрачып", якія адрозніваюцца ад ранейшых больш дасканалай аховай ад падробак і па іх можна тэлефанаваць у любую краіну свету. Намінал картак — 20; 100; 500 і 700 тарыфных адзінак.

### *ПАДВЫШКА ТЫДНЯ*

Згодна з рашэннем Мінгарвыканкама ўведзены ў дзеянне новыя тарыфы на праезд пасажыраў у аўтобусах на мінскіх прыгарадных маршрутах. Цяпер за адзін кіламетр праезду на звычайных рэгулярных маршрутах у аўтобусах агульнага тыпу трэба будзе плаціць — 30 рублёў, у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — 31,9 рублёў. На рэгулярных хуткасных маршрутах у аўтобусах агульнага тыпу — 39 рублёў, у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — 41,5 рубля. Падаражэлі браніраванне і папярэдні продаж білетаў — цяпер гэтыя паслугі каштуюць 250 рублёў за кожны білет.

### *СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ*

Паводле сцвярджэння кіраўніка Праграмы ААН па ВІЧ/СНІДу Пітара Паёта, на сённяшні дзень у свеце інфіцыраваны 42 мільёны чалавек. Што асабліва страшна, адзначаецца рэзкае павелічэнне колькасці ВІЧ-інфіцыраваных жанчын. У гэтым годзе ад СНІДу загінуць 3,1 мільёна чалавек. Усяго ж за час эпідэміі СНІДу на нашай планеце ад яго памерла 25 мільёнаў чалавек.

### *ХАМЕЛЕОН ТЫДНЯ*

Амерыканская валюта, як хамелеон, мяняе свой колер і першыя 20-доларавыя купюры новага тыпу трапяць у людскія рукі ўжо восенню наступнага года. Гэта будуць банкноты не зялёнага колеру, а больш багатай расфарбоўкі. Крыху пазней з'явяцца і новыя 50 і 100-доларавыя купюры.

**АКЦЫЯ**

# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы абавязаны памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Здэцца, ні асаблівых доказаў, ні асаблівых тлумачэнняў сказанае не вымагае, а рэаліі будзённага жыцця, звыклага стаўлення да свайго і замежнага сведчаць пра іншае: многія загадзя прагаджаюцца, што "сваё" не дацягвае да нечыіх там стандартаў, што "ў іх" і цукар саладзейшы, і вада смачнейшая, і розумы разумнейшыя... І калі задумацца, пашукаць прычыны сваёй згоды з тым, што навязваецца звонку, з-за мяжы, то тлумачэнне адно: "карцінка" дужа прывабная, мажлівасці вымалёўваюцца самыя неверагодныя!

І ўсё ж, праўда, якой бы горкай каму ні падалася, у іншым. Амерыканцам, да прыкладу, і ў галаву не прыйшло б перажываць з тае прычыны, што іх дзяржава існуе ўсяго нейкіх там два стагоддзі, — сцягамі ЗША хутка ўжо ўся планета акрыецца, бо паўсюдна, па ўсёй зямлі, знаходзяцца свой нацыянальны інтарэс. А мы? А мы, маючы тысячагадовую гісторыю і нават у савецкую эпоху (хто б там што ні гаварыў!) дасягнуўшы росквіту Беларусі, зацята працягваем змушаць дзяцей завучваць напамяць: "бо я мужык, дурны мужык", не ўлічваючы ні рэалій новага часу, новага стагоддзя, ні зменаў (ужо нават на генетычным узроўні) у светаадчуванні і мысленні новага пакалення.

З мужыцкага (хоць і не толькі з мужыцкага) роду мы — няхай нават так. Але ж стагоддзе — амальцэлае стагоддзе! — мінула пасля горкага прызнання паэта, і ці не час агледзецца, угледзецца ў пражытае — страчанае і набытае за гэты час, вылучаючы тое, за што паважалі і паважаюць нас у свеце?

**Мы, беларусы, з веку ў век атрымлівалі ў спадчыну не адно мужнасць, пра што сведчыць уся наша гісторыя, не толькі працавітасць і талерантнасць, пра якую хто з захапленнем, хто з асуджэннем любіць пагаварыць і сёння, але і духоўнасць, вечную прагу духоўнага ўдасканальвання, якой шчодра дзяліліся з усімі.** Найперш — з братамі сваімі славянамі. І пацвярджэнняў таму ў любы з часоў багата, хоць ніхто ніколі (на жаль ці на шчасце — не нам судзіць) не вёў кнігі падрахункаў дароў духоўных, не выстаўляў рахункаў суседзям, блізкім ці далёкім, за шчодры ўнёсак у іх культуры, у станаўленне іх дзяржаўнасці. Больш за тое! — беларусы ніколі не прэтэндавалі на першародства (хоць ёсць падставы!), на працягу ўсёй гісторыі не імкнуліся ні сабраць раздадзенае, ні вярнуць зрабаванае.

Добра гэта? Кепска? Ужо ж, справа не ў ацэнках, учарашніх ці сённяшніх: падзвіжніцтва, духоўны подзвіг і адне асобы часам ацаніць немагчыма — як жа, якімі словамі пра духоўны подзвіг народа гаварыць? Як яго ацэньваць?

Калі зыходзіць са звыклых мерак і ўяўленняў, Беларусь — сэрца нашага кантыненту, сэрца славянскага свету, і з'яўляецца прарадзімаю славянскага роду, пра што мы хоць і нячаста, з асаблівае патрэбы, але ўзгадваем, — прычына, як і місія народа беларускага, чыста духоўная. Вызначаная як не на пачатку ўсіх часоў, калі вызначаліся не толькі магнітныя полюсы Зямлі, але і месцы зазямлення духоўных магнітаў — своеасаблівых "рэтранслятараў духа", духоўнага святла, сучаснаю мовай кажучы. Некалі гэта будзе даказана навукова, сёння доказы мае толькі адкрытае гэтаму Святлу сэрца.

**Ад сэрца, што ўзгараецца любоўю да людзей і свету — праз сэрца Зямлі — да сэрца Бога... Вось шлях чыстае малітвы — і гэта адзіны шлях духоўнага ўдасканальвання.** Як для любога чалавека, так і для любога народа. Мы — беларусы, "белая косць" зямлі славянскае — і адно таму не згінулі ў вяках, і адно таму абавязаны выжыць, выстаяць, вытрываць усе крыўды і несправядлівасці, усе нягоды і навалы ў будучым. Можна аб гэтым не задумвацца, можна адварочвацца — лёс, які выпаў, павінен вяршыцца, шлях, які вызначаны, павінен адольвацца. І лепш, ведаючы прадвызначанае, ісці, адольваць яго годна і ўпэўнена, не кідаючыся з боку ў бок на кожныя змены, на кожны пусты абяцанак лепшага — сыцейшага — жыцця. **Ніякае "лепшае" жыццё нас не задаволіць, ніякія дасягненні "на чужым полі" не апраўдаюць: тут наш дом, тут нашы карані, тут наша будучыня.**

Давайце ж скажам гэта ўсяму свету ўголас — усе разам! Давайце — разам! — напішам кнігу "Мы — беларусы!", дзе выкажам усё, чым ганарыліся нашы продкі, чым ганарыліся нашы бацькі, чым — у сабе, у сваёй радаводнай і ў радаводнай краіны — ганарымся мы, нашчадкі страшнага XX стагоддзя. Нам, кожнаму, ёсць чым ганарыцца, не азіраючыся ні на дужэйшых, ні на багацейшых. **Наша сіла — у працавітасці і адданасці сваёй сям'і, свайму роду, сваёй зямлі. Наша багацце — чысціня духоўных памкненняў і гатоўнасць падзяліцца лепшым ад свайго, кроўнага, са сваімі братамі.**

Калі мы не будзем падыгрываць і падпяваць тым, хто служыць сілам разбурэння, па слепаце ці па наіўнасці разлічваючы на абгрызены кавалачак чужога "пірага", калі будзем сцвярджаць тую мараль, тыя духоўныя вартасці, якія Гасподзь нам запаведаваў, з намі будуць лічыцца, нас будуць паважаць. І нічога не давядзецца выдумляць, выдумляючы, з пальца высмоктваючы нацыянальную ідэю.

Усё, што нам трэба: не даць сябе падмануць, не верыць у "чысціню" памкненняў — там, дзе "чысціня" аплачваецца рознымі замежнымі грантамі і прэміямі, не верыць у "занепакоенасць" лёсам народа тых, хто паўсюдна прыніжае свой народ, яго мінулае і яго сённяшні выбар свайго шляху развіцця, не верыць у адшмальцаваныя да бляску "ідэалы", якія могуць мяняцца і мяняюцца ў адпаведнасці са зменаю ўлады ці кан'юнктуры, чыёй бы "святой вадой" яны ні крапіліся.

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: мы — беларусы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim @ tut. by.**

## ІДЗЕ ПАДПІСКА!

Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на першае паўгоддзе 2003 года на "ЛіМ". Звяртаем вашу ўвагу, што на сённяшні дзень тыднёвік прадаецца не ва ўсіх кіёсках, таму лепей за ўсё падпісацца, каб потым не ездзіць па горадзе ў пошуках патрэбнага вам нумара газеты. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў, на паўгоддзе — 15000 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў, на паўгоддзе — 24000 рублёў.

**Ведамасны індэкс — 63857.**

**ПРЭЗЕНТАЦЫІ**

## СВЯТЛО Ў АКНЕ – СВЯТЛО Ў ДУШЫ

Прэзентацыя кнігі Навума Гальпяровіча "Святло ў акне" адбылася ў кнігарні "Светач" на праспекце Машэрава. Ладзіла яе выдавецтва "Мастацкая літаратура". Адкрываючы імпрэзу, паэт Алесь Пісьмянкоў звярнуў увагу прысутных на адметнасць, гарманічнасць і ўнутранае святло вершаў Навума Гальпяровіча. Ён прачытаў уласныя паэтычныя радкі, прысвечаныя калегу і сябру.

Пра высокі дух паэзіі Н. Гальпяровіча гаварылі ў сваіх выступленнях старшыня СБП Алесь Пашкевіч, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя" Віктар Праўдзін, галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" Віктар Шніп.

На завяршэнне аўтар кнігі "Святло ў акне" прачытаў свае вершы, выказаў падзяку за цёплыя словы ў свой адрас. Тут жа наведвальнікі кнігарні маглі набыць кнігі з аўтографамі паэта.

**Н. К.**

# ДАКАЖА ТОЛЬКІ СЛОВА



Лягчэй за ўсё было б абурыцца, пакрыўдзіцца, на што мы вялікія майстры, ды, у рэшце рэшт, не звярнуць увагі. Але ўся бяда ў тым, што проста адмахнуцца лягчэй, чым задумацца, на чым грунтуюцца такія думкі, чаму яны актыўна насаджаюцца ў грамадстве і ці ёсць ва ўсім гэтым хоць невялікая доля праўды.

Неяк так атрымалася, што атмасфера ў нашым сённяшнім літаратурным асяроддзі часам нагадвае банальную кухонную сварку. А паколькі людзі творчыя валодаюць багатай фантазіяй, багаццем вобразных выяўленчых сродкаў, якіх толькі публічных зняваг, плётак, ды і ўсякай іншай брыдоты не вылілася апошнім часам на старонкі нашага друку...

З энергіяй, дастойнай куды лепшага прымянення, нашы творцы, вядомыя і не вельмі, абцяжараныя і не абцяжараныя пасадамі, былымі заслугамі, званнямі і лаўрэацтвам, накінуліся адзін на аднаго. А ў нефармальным, так бы мовіць, ужытку пайшлі гуляць скабрэзныя і злосныя эпіграмы, навешвацца ярлыкі, якія з-за іх бязглуздасці і пошласці я проста не хачу паўтараць.

А што, уласна кажучы, літаратура? Яна нібы адышла на другі план, нягледзячы на гучныя заявы пра клопат аб яе развіцці.

Я наўмысна не кажу пра чыста знешнія падзеі, якія выклікалі гэтую актыўнасць, бо, як вядома, з'езды ці рэарганізацыі праходзяць, начальнікі мяняюцца, а літаратура, калі яна ёсць, застаецца. А яна ў нас, безумоўна, ёсць. І не толькі модным цяпер Курэйчыкам ці эпатажным Сысом вызначаецца. Бяда, праўда, у тым, што маюць рацыю "прадзвінутыя" — раскрыцца, паказаць яе народу, чытачу мы не ўмеем, ды захапіўшыся ўнутранымі разборкамі, і не хочам. І выклікаем тым самым іронію, пасміханне, здзек.

А з чаго, панства, уласна кажучы, здзекуецца? З магутных пранікнёных радкоў Купалы, Коласа, тонкай лірыкі Багдановіча, рамантычнай экспрэсіўнасці Караткевіча, жывапіснай пластыкі Стральцова, Карамазава, глыбокай філасофіі Быкава, Барадуліна, Танка, Вярцінскага, лірызму Брыля, песеннасці Гілевіча, эпічнасці Адамчыка, Пташнікава, Чыгрынава, Казько?..

Ох, і дастаецца часам нашай літаратуры і літаратарам ад самых "прадзвінутых" журналістаў... І "балота", маўляў, "ціхі вір", і вядомыя толькі ў сваім сямейным коле, і няма цікавых "прагрэсіўных" твораў...

А чаго варты такі, да прыкладу, "пасаж" — "я вяду актыўны сацыяльны вобраз жыцця, але ні разу не сустракала на сваім шляху ніводнага маладога беларускага паэта або празаіка. А ў Маскву паехала..." І гэта напісана не ў якім-небудзь маргінальным выданні, а ў самай масавай цэнтральнай газеце, якая, зрэшты, дзеля справядлівасці, шмат робіць па прапагандзе гэтай самай "балотнай" беларускай літаратуры.

Ды і што модныя масквічы Сарокін, Пелевін, Ерафееў, якія нават па вызначэнні іх прыхільнікаў, — "плот у падваротні" — у параўнанні з сучаснымі пошукамі Разанава, Дранько-Майсюка, Глобуса, Федарэнкі, Купрэева, Станкевіча, Куртаніч, Рублеўскай, Багданавай, Казлова, Рублеўскага, Сіўко, Маракова — пералік можна доўжыць. А нашы "традыцыяналісты" — Баравікова, Гардзей, Пісьмянкоў, Марук могуць годна прадставіць нашу літаратуру ў любым еўрапейскім і не толькі еўрапейскім доме.

Я мог бы назваць і маладзейшых — Хадановіча, Дарафейчук, Бабурэвіч, Будовіч, Сівец, Слінко, Лайкова, Гарачку... Бачыце, не стаўлю задачу агляду, а проста прывёў першыя прозвішчы, што ў памяці, але і тут карціна атрымліваецца зусім, мякка кажучы, не такая, якой уяўляюць наша "ціхае балота" сучасна адукаваныя суайчыннікі.

Дык, у чым прычына такога самапрыніжэння, іроніі ў стаўленні да роднай літаратуры, роднага слова досыць вялікай колькасці людзей у роднай краіне? Адказаць, безумоўна, поўна і глыбока, гэтак упохапак, не бяруся, але ўласныя меркаванні выкажу.

У першую чаргу — у няўменні авалодаць новымі тэхналогіямі прапаганды, "раскруткі", лянoце, абыякавасці, у праявах сярмяжнай местачковай пыхі, самазадаволенасці, самадастатковасці. Вось і атрымліваецца, што звацца геніем" у сямейным коле" бывае для многіх зусім нармальна. Трэба паламаць гэтае замкнёнае кола, гэтыя контуры добраахвотнай рэзервацыі, выйсці на шырокі разлог з годнасцю і смеласцю.

А мы ўласнымі рукамі часам спрыяем таму, каб нас ведалі як мага менш. Хіба гэта метад — забіранне "ў стол" рукапісаў, ігнараванне ўласных выданняў таму, што яны трапілі "не ў тыя рукі?" Ці з другога боку — вайна з новымі, "нефармальнымі" выданнямі, імкненне іх замоўчваць, не заўважаць іх існавання?

Хіба там не тыя ж самыя аўтары, хіба там не наша мова, хіба нам не патрэбна, каб нашы творы ведалі ў самых розных колах нашага грамадства?

Загартаваўшыся ў супрацьстаянні, многія нашы калегі пішуць толькі ў "свае" газеты і часопісы, і не столькі, уласна кажучы, пра літаратуру, колькі пра самое супрацьстаянне, абліваючы брудам былых сяброў і паплечнікаў.

А сустрэчы з чытачамі? Яны носяць выпадковы, стыхійны характар, выкарыстоўваючыся, часам, у тых жа самых мэтах групаўшчыннай барацьбы. З'явіўся цэлы пласт "юбілейных міжсабойчыкаў", калі ў вузкім коле сяброў і дзесятка-паўтара выпадковых школьнікаў ідзе суцэльны хваласпеў і кампліментарый, для староннняй публікі — сумны і нецікавы.

Згубілася ж пастаянная сувязь з бібліятэкамі (яна ёсць, але носіць той жа выпадковы, стыхійны характар), з вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, са сродкамі масавай інфармацыі, з кнігарнямі. Пісьменнікі за рэдкім выключэннем не бываюць на "тусоўках" падчас адкрыцця выстаў, прэм'ер у тэатрах, на канцэртах, спектаклях, у маладзёжных клубах. Іх тут значна апярэдзілі "бумбамлітаўцы", якім толькі іх ваяўнічае пустазвонства не дае стаць зоркамі нацыі.

Нейкая спроба разарваць гэтае зачараванае кола ўсё ж ёсць. Спашлюся на ўласны досвед. Калі прыйшоў працаваць на Беларускае радыё, сутыкнуўся з такімі ж, калі не горшымі хваробамі, якія пачалі лячыць, дзеля справядлівасці, яшчэ да майго прыходу. Гэта тая ж занудлівасць, вузкае кола "сваіх" аўтараў, адсутнасць творчага пошуку, нежаданне ўбачыць шырокую панараму літаратурнага працэсу, вызначыць прыярытэт.

Сёння для скептыкаў і іраністаў магу сказаць славутай фразай Жванецкага — "не дачакаецеся!" Асвятленне і прапаганда нашай літаратуры на Беларускім радыё набывае сістэмны, мэтанакіраваны маштабны падыход. Пачынаючы з праекта "Ад роднае зямлі, ад гоману бароў", прысвечанага Янку Купалу і Якубу Коласу, заканчваючы начнымі "Кароткімі гісторыямі". Не хачу паўтарацца, бо пра гэта ў "ЛіМе" пісалася не раз, не хачу перабольшваць высілкі свае і калег, але зазначу, што радыё дае унікальную мільённую аўдыторыю, чаго не можа дасягнуць ніводная газета, ніводны часопіс, тым больш літаратурны.

Таму, калі да слухачоў прыйшлі праграмы "Брама", "Сентыментальнае паляванне", "Палітра", "Авансцэна", дзе з самых розных пунктаў гледжання аналізуецца, прапагандуецца беларуская літаратура, дзе гучаць галасы і творы айчынных аўтараў, то гэта, спадзяёмся, адзін з першых крокаў вяртання нашаму мастацкаму слову ўсенароднай трыбуны, людской павагі і любові. І я не крыўдую і не адказваю тым, хто з іроніяй, неразуменнем ці варожасцю ставіцца да гэтых высілкаў. Як кажуць, не прывыкаць, бо калі працаваў у Саюзе пісьменнікаў, не раз у адказ на імкненне зрабіць што-небудзь па ўдасканаленні прапаганды роднай літаратуры, сустракаў падобную рэакцыю з боку некаторых калег.

Нам трэба падтрымаць нашы выданні: і "ЛіМ", і "Полымя", і "Маладосць", і "Крыніцу", і "Нёман", і тых, хто стварае нармальны літаратурны працэс, і маральна, і матэрыяльна. І выступаць супраць групаўшчыны, запалітызаванасці, хамства і варажнечы. У адрозненне, скажам, ад расійскіх калег, нас, розных і не зусім згодных адзін з адным, яднае наша беларуская мова, выпакутаваная і перададзеная нам у спадчыну вялікімі папярэднікамі. Наша слова — гэта і наша годнасць у свеце. І наша самабытнасць, і наш набытак. "Бі сваіх, каб чужыя баяліся", — гэта не для нас. І тады не будуць абзываць нас "балотам" і "ціхім вірам", тады не будуць іранічна пасміхацца з беларускага наймення "пісьменнік".

У адказ на шалёны наступ бездухоўнасці, масавай культуры, усяго гэтага "псеўдацывілізаванага" хамства, пошласці, дзікасці і нялюдскасці мы павінны паставіць сваю штодзённую працу — слова. Слова пра свой народ, пра высокія і светлыя ідэалы, пра простыя, але глыбокія і сапраўдныя чалавечыя пачуцці, пра тое, што жывіць душу, што дазволіць не скарыцца пачварным выявам штучна выкармленай чалавечай нізкасці, д'ябальскага спусташэння істоты.

У гэтай нябачнай барацьбе, як і ва ўсе часы існавання чалавецтва, павінна перамагчы гуманнае і высокае. Інакш — грош нам усім цана!

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

ЛІМ-ЧАСАПІС

## ГОСЦІ З УКРАІНЫ

Па ініцыятыве пасольства Украіны і Саюза беларускіх пісьменнікаў 28 лістапада ў Мінск з культурніцкай місіяй прыбыла дэлегацыя ўкраінскіх пісьменнікаў.

29 лістапада ўкраінскія пісьменнікі наведалі Літаратурны музей Максіма Багдановіча і Музей гісторыі беларускай літаратуры, усклалі кветкі да помніка Тарасу Шаўчэнку.

Ля помніка вялікаму Кабзару бралі слова: Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны ў Беларусі Анатоль Дронь, украінскія госці — Раман Лубкіўскі, Олеся Мамчыч, Пятро Засэнко, а таксама Г. Бураўкін, В. Іпатава і Э. Акулін.

Днём украінская дэлегацыя наведала філфак БДУ і Беларускі гуманітарны ліцэй, дзе прайшлі творчыя сустрэчы.

Вечарам у вялікай зале Дома літаратара адбылася святочная вечарына: "Тарас Шаўчэнка, Янка Купала, Якуб Колас: спадчына і сучаснасць" з удзелам беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. На вечарыне выступілі: старшыня СБП АлесьПашкевіч, Анатоль Дронь, Пятро Засэнко, Міхайла Наенко, Юрый Заўгародні, Олеся Мамчыч, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін і Сяргей Законнікаў .

Упрыгожыў імпрэзу песнямі на словы Тараса Шаўчэнкі хор "Крыніца" беларуска - украінскага аб'яднання "Ватра". Вялі вечарыну Антаніна Хатэнка і Таццяна Бей.

30 лістапада ўкраінскія пісьменнікі ўсклалі кветкі да помнікаў Янку Купалу і Якубу Коласу на Вайсковых могілках і наведалі музей - запаведнік "Вязынка".

•

26 лістапада ў вялікай зале Дома літаратара прайшла літаратурна-музычная вечарына "Восеньскі марафон" з удзелам маладых беларускіх паэтаў і бардаў. Свае вершы і песні слухачам прапанавалі : П. Астравух, В. Кустава, М. Лайкова, М. Адам, К. Самуйла, З. Станкевіч, С. Патаранскі, В. Трэнас, І. Сіроткін. У вечарыне ўзялі ўдзел: старшыня СБП А. Пашкевіч, народны паэт Беларусі Н. Гілевіч, Л. Дранько – Майсюк, А. Пісьмянкоў, Н. Гальпяровіч, Р. Сітніца, А. Масарэнка. Вялі вечарыну Я. Лайкоў і В. Хількевіч.

**Я. А.**

## МЫ — У «ФОРУМЕ»

Маскоўскі часопіс "Форум" (заснаваны Міжнароднай асацыяцыяй фондаў міру, наклад — 10000 асобнікаў) у сваім апошнім нумары апавядае пра дружбу трох славянскіх народаў — рускіх, беларусаў і ўкраінцаў. На пытанні часопіса адказвае, у прыватнасці, старшыня Гомельскага аблвыканкама Аляксандр Якабсон. Старшыня абласнога Савета дэпутатаў, кандыдат эканамічных навук, старшыня праўлення таварыства Кірылы Тураўскага Валерый Сяліцкі прапанаваў чытачам артыкул "Славянскае адзінства і сучаснасць".

На старонках часопіса надрукаваны і літаратурныя творы пісьменнікаў нашай вобласці — апавяданне Васіля Ткачова "Бубен", вершы Ізяслава Катлярова, Соф'і Шах, Аляксандра Бардоўскага, Мікалая Яроміна і Таісы Мельчанкі.

## УСЁ ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ

Творчы вечар светлагорскай паэтэсы Соф'і Шах адбыўся ў Гомелі. Прымеркаваны ён да 55-годдзя з дня яе нараджэння. На сустрэчу з прыхільнікамі сваёй творчасці, якая ладзілася ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Герцана, Соф'я Мікалаеўна прыйшла з новай кнігай "Прызнанне", якая выйшла ў "Беларускім кнігазборы". Гэта — трэці вянок вянкоў санетаў Соф'і Шах. Сэнс і змест яго — у самой назве кнігі. Аўтар, для якой жанр вянка вянкоў санетаў стаў натуральнай формай паэтычнага асэнсавання жыцця, і на гэты раз звяртаецца да традыцыйна сваёй тэматыкі: вернасці служэння роднай зямлі, каханаму, дачцэ. І, як заўсёды, захоўвае пры гэтым шчырую спавядальнасць, псіхалагічную дакладнасць і натуральнасць.

Пра творчасць паэтэсы шчыра і надзвычай цёпла гаварылі дырэктар бібліятэкі Таццяна Власава, старшыня абласной пісьменніцкай арганізацыі Васіль Ткачоў, загадчык кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны, прафесар Іван Штэйнер, загадчыца аддзела культуры гарвыканкама Людміла Альхавікова, мастакі Святлана Курашова, Роберт Ландарскі і Мікалай Казакевіч, паэты Фелікс Мысліцкі, Таіса Мельчанка і Ларыса Раманава.

Ізяслаў Катляроў, які лепш за ўсіх ведае творчасць сваёй жонкі, прачытаў яе творы ў сваіх перакладах і падкрэсліў, што Соф'я Шах, паколькі чалавек яна надзвычай апантаны і працавіты, зробіць яшчэ багата ў літаратуры, пакіне свой адметны след. Тым больш, што і сама яна прызнаецца: "Усё яшчэ наперадзе ў жыцці".

## ЮБІЛЯР ЧЫТАЎ ВЕРШЫ

Так склаўся лёс, што апошнія гады гамяльчанін ВасільГабееў жыве ў Падмаскоўі. Нарадзіўся ж ён у вёсцы Пыцькаўка Буда-Кашалёўскага раёна. У гады Вялікай Айчыннай вайны ваяваў на Паўднёва-Заходнім, Ленінградскім, Заходнім і 1-м Беларускім франтах, прымаў удзел у абароне Кіева і Ленінграда, у вызваленні Варшавы і ўзяцці Берліна. Пасля вайны доўгі час служыў у Савецкай Арміі. Палкоўнік у адстаўцы.

І ўвесь час, як помніць сябе, гэты чалавек пісаў вершы. І толькі на беларускай мове, хаця служыць даводзілася ў самых розных кутках былога СССР. Ён з'яўляецца аўтарам кніг паэзіі "У імя жыцця" і ""З дарог вайны".

А ўсё гэта я пералічваю з аднае нагоды — Васілю Габееву споўнілася 80 годоў. Адзначыць гэты юбілей ён прыехаў у Гомель, дзе у яго шмат сяброў. Багата добрых слоў было сказана ў адрас юбіляра. Ад імя абласной пісьменніцкай арганізацыі Васіля Хрысанфавіча шчыра і цёпла павіншаваў яе кіраўнік Васіль Ткачоў.

Ну, а потым юбіляр чытаў вершы. На роднай беларускай мове.

**В. Б.**

# АБЛІЧЧА ЛЮБОВІ

(Пачатак на стар. 1)

...Напэўна, упершыню за многія гады існавання кінафестывалю "Лістапад"сёлета большасць яго фільмаў-удзельнікаў былі аб'яднаны адзінай тэмай — тэмай любові. Любові да пэўнага мужчыны ці жанчыны, да жыцця, радзімы, мастацтва і ўвогуле чалавецтва.

Напрыклад, украінскі рэжысёр Кіра Муратава ў сваім новым фільме "Чэхаўскія матывы" даводзіць, што ніхто нікога не любіць, а трэба, неабходна любіць. І гэта не праўда, што цяпер грубы час, не прыдатны для любові, час заўсёды аднолькавы, заўсёды грубы, гэта людзі розныя — разважаюць яе чэхаўскія героі. А персанажы трагікамічнай стужкі А. Канчалоўскага "Дом дурняў" (дарэчы, у Мінску гэты фільм убачылі раней за Маскву, дзе яшчэ толькі чакаецца прэм'ера фільма) падаюцца "хворымі людзьмі" перадусім таму, што прагнуць любіць тады, калі навокал ідзе вайна (дзеянне стужкі адбываецца ў Чачні), калі людзі розных нацыянальнасцяў бязлітасна забіваюць адзін аднаго. Галоўная гераіня фільма, якую сыграла маладая актрыса (і жонка рэжысёра) Юлія Высоцкая (дарэчы, родам з Беларусі) кажа, што кожны чалавек жыве толькі таму, што нехта любіць і моліцца за яго. Ды і яе маналог падчас бамбёжкі "дома дурняў" гучыць як малітва: "Я люблю цябе агонь — не забівай мяне..."

Аблічча любові... Іх было шмат на экране. Ад радасных, узнёслых, камічных да роспачных, тужлівых, трагічных. Ужо пачынаючы з першых конкурсных фільмаў, у кіназале залунала мроя любоўных расчараванняў, пакутаў, радасцяў. Не цяжка было заўважыць, што ў сюжэтных кампазіцыях пераважаюць любоўныя трохкутнікі, нялёгкія стасункі паміж двума мужчынамі, закаханымі ў адну жанчыну. Так, з лёгкім гумарам, шчырай павагай да жыцця, людзей зняў свой новы фільм "Зязюля" Сяргей Рагожкін (Расія). Што можа быць камічней за сітуацыю, калі два мужчыны розных нацыянальнасцяў трапляюць падчас вайны ў "палон" жанчыны-хутаранкі, якая ўжо засумавала па каханні!! Рускі афіцэр Іван, фінскі снайпер-смяротнік Віле, маладая жанчына Ганна з племені саамі — у побыце, зносінах яны не разумеюць адзін аднаго, нібыта разгубленыя будаўнікі Вавілонскай вежы. І толькі веданне мовы любові робіць герояў людзьмі з адной планеты, пакалечанай нянавісцю вайны. (На фестывалі "Лістапад-2002" фільм "Зязюля" атрымаў тры галоўных прызы: Гран-пры — Прыз сімпатый гледачоў ("Золата "Лістапада"), Спецыяльны прыз Прэзідэнта РБ "За гуманізм і духоўнасць у кіно" (прысуджаецца па адзінадушным рашэнні трох журы), а таксама прыз "За лепшую жаночую ролю" (актрыса Ані-Крысціна Юсса)).

У новым фільме Валерыя Тадароўскага "Палюбоўнік"(Расія) шчымлівая, сумная гісторыя яшчэ аднаго любоўнага трохкутніка — пасля смерці жонкі муж нечакана даведваецца, што ў яе быў палюбоўнік — разгортваецца ў Мінску. Менавіта ў пустым, адзінокім трамвайчыку пад нумарам 7 спяшалася да палюбоўніка непачутая мужам жанчына. Мінскі трамвай робіцца ў фільме сімвалам руху жыцця, спасціжэння адзіноты, жаху непаразумення паміж людзьмі. Гэты рэжысёр любіць моцныя акцёрскія дуэты. Калі ў папярэдняй карціне "Краіна глухіх" гэта быў тандэм дзвюх актрыс, то ў новай карціне — двух цудоўных акцёраў: Алега Янкоўскага і Сяргея Гармаша. З'яўленне палюбоўніка жонкі ў жыцці персанажа А. Янкоўскага, — гэта тужлівы шлях у глыбіню ўласнага сэрца, якое мо ніколі не любіла, і толькі цяпер уцяміла, што хоча любіць. Сумны і адначасова іранічны фільм складаецца са шчырага, жорсткага дыялога мужчын, які захапляе, узрушае тонкімі псіхалагічнымі штукарствамі (фільм атрымаў Спецыяльны дыплом журы гледачоў — "Срэбра "Лістапада").

Стужка Алі Хамраева "Бо Ба Бу" (Узбекістан) зроблена ў жанры паказкі. На прыкладзе любоўнага трохкутніка ( і зноў — двух мужчын і адной жанчыны) мы бачым стаўленне людзей да Любові, Прыгажосці ўвогуле. Для адных любоў — гэта танная забаўка. Для іншых — узнёслая мара, найкаштоўнейшы, кволы сасуд. Барацьба ў пустыні бацькі (Бо) і сына (Бу) за авалоданне жанчынай (Ба) — гэта спрадвечная барацьба зла і дабра, жорсткасці і дабрыні. А. Хамраеў разважае, што будзе з людзьмі, калі Любоў знікне з іх жыцця, будзе знішчана імі. Роспач! Туга! (Фільм узнагароджаны Спецыяльным дыпломам журы кінематаграфістаў "За лепшае выяўленчае рашэнне".)

Аблічча любові... Колькі іх адбілася на экране. Любоў да Радзімы — адна з галоўных тэм фільма "Сімфонія маўчання" Вігена Чалдраняна (Арменія). Калі ў мінулай карціне гэтага рэжысёра "Госпадзе, памілуй" галоўны герой — кінарэжысёр, які шукае грошы на сваю карціну, то ў новай стужцы ён — ужо заможны бізнесоўца з Лос-Анджэлеса, які прыязджае ў родную Арменію, каб памерці на бацькаўшчыне, "благо творя" (ён купляе псіхіятрычную бальніцу, у якой некалі сам быў пацыентам). Тут журы кінапрэсы справядліва ўганаравала акцёра М. Пагасяна прызам "За лепшую мужчынскую ролю"...

А слоганам сёлетняга фестывалю маглі б стаць словы чэхаўскіх герояў: "Пакуль будзем любіць, будзем жыць!"

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**







Фота Кастуся ДРОБАВА











# ЗВАРОТ ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч!

Мы, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі нашай дзяржавы, хочам унесці сваю лепту ва ўмацаванне міру на Зямлі, выхаванне ў народа, асабліва моладзі, пачуцця патрыятызму і любові да сваёй Радзімы. З гэтай мэтай намі падрыхтавана і праведзена акцыя "Захаваем мір на Зямлі".

Мы перакананыя, што сёння творчая інтэлігенцыя, работнікі культуры і мастацтва здольныя ўплываць на выхаванне сапраўды духоўных каштоўнасцяў у чалавека.

Людзі ніколі не павінны забываць сваёй гісторыі. Без ведання мінулага няма будучыні. Нам глыбока неабыякава, якое пакаленне прыйдзе на змену нам, у чые рукі будуць перададзены шматвяковыя каштоўнасці, назапашаныя беларускім народам. Падтрымліваючы Вашу ідэю, Аляксандр Рыгоравіч, аб тым, што Беларусь павінна быць дзяржавай, дзе намеры і справы народа накіраваныя на ўсебаковае ўмацаванне нашай незалежнай Айчыны, мы разумеем сваю ролю ў гэтай высакароднай справе, перш за ўсё ў выхаванні чалавека з багатым духоўным патэнцыялам. Мы заклікаем усе творчыя саюзы падтрымаць нашу акцыю "Захаваем мір на Зямлі" яшчэ і таму, што кожны мастак, акцёр, рэжысёр, музыкант, харэограф, скульптар, здольны сёння найбольш ярка і даступна данесці да свядомасці людзей сапраўдныя духоўныя каштоўнасці. Мы заклікаем таксама сродкі масавай інфармацыі пераглядзець свае адносіны да інфармацыйна-забаўляльных праграм для моладзі. Тэлевізійны і радыёэфір павінны скарацiць патокі насілля, пошласці, безгустоўнасці і хамства, якімі пастаянна нашпігоўваюць нашу моладзь.

Трэба зрабіць усё, што залежыць ад дзяржавы, для таго, каб дапамагчы маладому пакаленню зрабіць правільны выбар у жыцці. Без вырашэння гэтай праблемы, мы глыбока ў гэтым перакананыя, мы страцім духоўны ўплыў на пакаленне людзей, якое ідзе за намі.

Мы прапануем, каб акцыя "Захаваем мір на Зямлі" стала доўгатэрміновай справай для кожнага прадстаўніка творчых саюзаў нашай краіны.

Вечныя чалавечыя каштоўнасці, як любоў і павага да сваёй краіны, патрыятызм, міралюбнасць, стваральная праца, павінны стаць нормай для кожнага жыхара нашай дарагой Беларусі.

**Уладзімір ГАСЦЮХІН, народны артыст Рэспублікі Беларусь, заслужаны артыст Расіі, акцёр і рэжысёр**
**Уладзімір КРЫВАБЛОЦКІ, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, член Саюза мастакоў Беларусі**
**Творчая група "Чысты голас":**
**Людміла ЧЫСЦЯКОВА, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь**
**Андрэй ПЫЖЫК, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь**
**Юрый РУДЗЕВІЧ, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь**
**Аляксандр КАСЦІЦЫН, лаўрэат Нацыянальнай прэміі Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне"**
**Валерый ПРЫГУН, лаўрэат Нацыянальнай прэміі Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне"**
**Акім ТЫШКО, лаўрэат міжнародных конкурсаў**

# «МАГУТНЫ ТРЫПЦІХ»

У Балгарыі выйшла ў свет гожае паэтычнае выданне "Магутны трыпціх" — выбраныя творы трох беларускіх класікаў. Выдавецкі праект гэтага прэзентабельнага томіка ў супервокладцы прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама 110-годдзю Максіма Багдановіча.

Нашых сусветнавядомых паэтаў пераклалі на балгарскую мову Андрэй Германаў, Найдзен Вылчаў, Хрысто Папоў, Іван Давыдкаў, Перван Стэфанаў ды Зоя Васілева. З апошняй мне давялося пазнаёміцца яшчэ напачатку "перабудовы". Зоя прыязджала на Беларусь для ўдасканальвання сваіх ведаў у беларускай мове. Гэта яшчэ раз гаворыць пра тое, што выпадковых людзей сярод перакладчыкаў не было. Пра што, паводле водгукаў нашых балгаразнаўцаў, сведчыць ўзровень мастацкіх перакладаў, сабраных у гэтым аб'ёмным, у тры сотні старонак, томе. Да прыкладу, вось гэтыя, яшчэ са школы помныя, радкі з Якуба Коласа:

*"Ти течет далече, Ньоман,*
*ден след ден и век след век —*
*разкажи в света огромен*
*как живее тук човек".*

Альбо — гэтая шчымлівая лірыка з Максіма Багдановіча:

*"Светна Венера над нас бузутешна,*
*тръгнах кьм своите спомени аз...*
*Помниш ли, че и когато те срещнах*
*светна Венера над нас?"*

І, нарэшце, несмяротнае — з Янкі Купалы:

*"Радост той рядко е виждал. А иде*
*му с глас да запее, честит*
*до премала...*
*Свойта Родина щастлива да види —*
*щастлив да се чувства Янка Купала".*

Напэўна, кожны прыхільнік краснага пісьменства беспамылкова згадае назовы працытаваных тут вершаў. І гэта таксама гаворыць пра высокі прафесіяналізм балгарскіх перакладчыкаў і, безумоўна, пра геніяльнасць саміх першатворцаў гэтай Паэзіі...




Несумненна, што без актыўнага ўдзелу і матэрыяльнай падтрымкі нашай амбасады ў Рэспубліцы Балгарыя падобны мастацкі праект наўрад ці стаўся б магчымым. Як паведаміў штотыднёвіку Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Балгарыя Аляксандр Пятроў, апроч прэзентацыі гэтай кніжкі, што адбылася 25 лістапада 2002 года ў Сталічнай бібліятэцы Сафіі, яшчэ былі наладжаны і літаратурныя вечарыны ў гарадах Ловеч, Павлікені, Горна Арахавіца, а таксама супрацоўнікамі беларускай амбасады ініцыяналіся шматлікія публікацыі ў балгарскай перыёдыцы...

Дзякаваць Богу, што цяпер нас маюць за роўных, што нарэшце мы пачалі займаць "свой пачэсны пасад між народамі". І не ў апошнюю чаргу дзякуючы менавіта творчай вядомасці нашых вялікіх класікаў.

"А болей... Што ж там болей жадаць ад *песняроў?"*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



**Захарава, 19**

РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***

***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***

***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл. 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

# ЯШЧЭ НЕ ПОЗНА ПАДПІСАЦЦА!

***Шаноўныя чытачы! У вас яшчэ ёсць два тыдні, каб падпісацца на часопісы Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва".***
***Нагадаем рэквізіты для падпіскі.***

## "Полымя"

| Падпісная цана | Ведамасная (індэкс — 00141) |
|---|---|
| Індывідуальная (індэкс — 74985) | |
| **на 1 месяц — 2500 рублёў,** | **на 1 месяц — 3500 рублёў,** |
| **на 3 месяцы — 7500 рублёў,** | **на 3 месяцы — 10500 рублёў,** |
| **на 6 месяцаў — 15000 рублёў.** | **на 6 месяцаў — 21000 рублёў.** |

## "Маладосць"

| Падпісная цана | Ведамасная (індэкс — 00137) |
|---|---|
| Індывідуальная (індэкс —74957) | |
| **на 1 месяц — 2600 рублёў,** | **на 1 месяц — 3800 рублёў,** |
| **на 3 месяц — 7800 рублёў,** | **на 3 месяцы — 11400 рублёў,** |
| **на 6 месяцаў — 15600 рублёў.** | **на 6 месяцаў — 22800 рублёў.** |

## "Крыніца"

| Падпісная цана | Ведамасная (індэкс — 74940) |
|---|---|
| Індывідуальная (індэкс — 74824) | |
| **на 1 месяц — 2500 рублёў,** | **на 1 месяц — 3500 рублёў,** |
| **на 3 месяц — 7500 рублёў,** | **на 3 месяцы — 10500 рублёў,** |
| **на 6 месяцаў — 15000 рублёў.** | **на 6 месяцаў — 21000 рублёў.** |

## "Нёман"

| Падпісная цана | Ведамасная (індэкс — 00238) |
|---|---|
| Індывідуальная (індэкс —74968) | |
| **на 1 месяц — 2500 рублёў,** | **на 1 месяц — 3500 рублёў,** |
| **на 3 месяцы — 7500 рублёў,** | **на 3 месяцы — 10500 рублёў,** |
| **на 6 месяцаў — 15000 рублёў.** | **на 6 месяцаў — 21000 рублёў.** |

## "Всемирная литература"

| Падпісная цана | Ведамасная (індэкс — 00135) |
|---|---|
| Індывідуальная (індэкс — 74863) | |
| **на 1 месяц — 2500 рублёў,** | **на 1 месяц — 3500 рублёў,** |
| **на 3 месяцы — 7500 рублёў,** | **на 3 месяцы — 10500 рублёў,** |
| **на 6 месяцаў — 15000 рублёў.** | **на 6 месяцаў — 21000 рублёў.** |

●

**Намеснік дырэктара рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва", паэт Павел Вераб'ёў і супрацоўнік установы, паэт-песеннік Іван Цітавец сустрэліся з навучэнцамі Беларускага тэхналагічнага універсітэта. Госці расказалі аб творчых планах калектыву тыднёвіка "Літаратура і мастацтва", часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Крыніца", "Нёман", "Всемирная литература", прачыталі вершы, прадэманстравалі запісы песняў беларускіх кампазітараў на словы Івана Цітаўца.**

**Ва універсітэце ўмеюць цаніць мастацкае слова і добрую песню. Тут працуюць літаратурны клуб "Ветліца" і фальклорны гурт "Акавіта".**

●

**Паэты Павел Вераб'ёў, Іван Цітавец і кампазітар Уладзімір Турчынскі наведалі горад шахцёраў Салігорск. Яны выступілі са сваімі творамі перад навучэнцамі прафесійных тэхнічных вучылішчаў № 72 і № 104, педагагічнага каледжа, сярэдняй школы № 4.**

●

**Сустрэчы з мінскімі аўтазаводцамі... Яны заўсёды праходзілі ў пісьменнікаў з рабочымі на высокім узроўні ўзаемнай зацікаўленасці. І, вядома, галоўную ролю ў арганізацыі такіх сустрэч іграла заводская бібліятэка. Гасцямі бібліятэкі ў свой час былі Янка Брыль, Іван Шамякін і многія іншыя беларускія пісьменнікі.**

**Днямі рэдакцыя часопіса "Нёман" мела гонар далучыцца да віншаванняў гэтай шаноўнай рабочай бібліятэкі, якой якраз у лістападзе споўнілася 55 год. На завод прыехалі намеснік галоўнага рэдактара часопіса Міхась Пазнякоў і загадчык аддзела крытыкі Яўген Каршукоў. Выступілі перад прафсаюзамі работнікі завода. Міхась Пазнякоў расказаў аб творчых планах рэдакцыі на наступны год, аб рабоце яе аддзелаў прозы, паэзіі, публіцыстыкі і крытыкі.**

**У канцы сустрэчы супрацоўнікі рэдакцыі адказалі на пытанні і заклікалі прысутных падпісацца на часопіс "Нёман", так як ён друкуе на сваіх старонках мастацкія творы з улікам густу шырокага чытача.**

**Н.К.**

## ЛІМ-ЧАСАПІС

# УСІМІ ФАРБАМІ «ВЯСЁЛКІ»

**Ужо стала добрай традыцыяй: кожны юбілей "Вясёлкі" адзначаць выданнем новай кнігі. Не стаў выключэннем і гэты год. Нядаўна выйшаў у свет чарговы (чацвёрты ў гісторыі!) зборнік "Вясёлка", прымеркаваны да 45-годдзя папулярнага дзіцячага часопіса.**

**Укладальнік Тамара Тарасава, як гасцінная гаспадыня, запрасіла на "вясёлчыны" імяніны лепшыя апавяданні, казкі, вершы, п'есы, пацешкі, скорагаворкі, лічылкі, загадкі старэйшых і маладзейшых аўтараў, якія друкаваліся ў часопісе за апошнія пяць гадоў.**

**Адкрываецца чытанка юбілейным прысвячэннем аднаго з патрыярхаў сучаснай беларускай літаратуры Сяргея Грахоўскага:**

*І першы дождж, і капяжы*
*У шыбы стукаюць і ў рамы,*
*Разносяць слонкі і стрыжы*
*Па Беларусі тэлеграмы —*
*У вёскі, гарады, пасёлкі*
*І ўсё далей, далей, далей,*
*Што ў яскравае "Вясёлкі"*
*Такі вясёлы юбілей...*




**Тэматычная і жанравая разнастайнасць зборніка падкрэслена самімі назвамі раздзелаў: "Няхай часцей смяюцца дзеці", "Дзе схавалася вясёлка?", "Ехаў Бай праз лясок, знайшоў казак вазок", "Тэатр Васі Вясёлкіна", "Пацешкі — вясёлыя ўсмешкі".**

**Любоў да маці, да Радзімы, да роднай мовы, як вядома, пачынаецца з маленства. Гэтая аксіёма знайшла шырокае адлюстраванне ў творах для дзяцей беларускіх паэтаў.**

*Словы з кніжак,*
*Словы з вуснаў...*
*Кожны дзень —*
*што чарадзей,*
*столькі песень беларускіх*
*ты пачуеш ад*
*ад людзей!*

**(Генадзь Пашкоў)**

*У ёй абсяг бароў былінных*
*І поля мудрая душа.*
*То мова доктара Скарыны,*
*То мова дзеда Талаша.*

*Яна — жыцця першаснова.*
*Яна — стагоддзяў зорны дым.*
*Калі забудзем, згубім мову,*
*Што скажам праўнукам сваім?*

**(Леанід Дайнека)**

**Дзеці — заўтрашні дзень нашай краіны. І якім ён будзе — у многім залежыць ад нас. Напэўна, гэтай прычынай і тлумачыцца той факт, што для юнага пакалення сёння плённа пішуць як дзіцячыя, так і дарослыя пісьменнікі. Мяркуйце самі...**

**З цікавымі, запамінальнымі творамі ў "Вясёлцы" выступаюць празаікі Я. Брыль, І. Шамякін, І. Навуменка, У, Ліпскі, У. Юрэвіч, А. Кудравец, А. Жук, А. Васілевіч, Н. Маеўская, У. Паўлаў, У. Ягоўдзік, А. Бутэвіч, А. Бадак, Л. Рублеўская, Р. Ігнаценка і іншыя. Нямала цікавых знаходак у паэтычных творах Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, У. Карызны, В. Зуёнка, А. Пісьмянкова, М. Маляўкі, М. Чарняўскага, В. Гардзея, К. Камейшы, А. Камароўскага, В. Шніпа, М. Скоблы, М. Пазнякова, В. Жуковіча, У. Мацвеенкі, Н. Галіноўскай, А. Канапелькі і многіх іншых.**

**Драматургія прадстаўлена творамі Г. Аўласенкі, Р. Бензерука, Т. Барадзёнак і М. Захаранкі. П'есы гэтых аўтараў будзе карысна не толькі прачытаць, але і паставіць на школьнай сцэне.**

**Шмат у кнізе дасціпнага гумару. І гэта не дзіўна: "Вясёлка" павінна быць вясёлай. Гэтаму яе абавязвае сама назва.**

**А вось юбілейную "сукенку" з ілюстрацый стварылі вядомыя мастакі Я. Ларчанка, Ю. Алісевіч, Т. Беразенская, С. Волкаў, І. Ліпскі, А. Лось, У. Пашчасцеў, Н. Сустава, У. Сытчанка.**

**"Вясёлка" зайграла ўсімі фарбамі вясёлкі!.. А набыць яе можна ў кнігарнях, альбо ў аддзеле маркетынгу выдавецтва "Мастацкая літаратура".**

**Уладзімір МАЗГО**

## КРЫТЫКА

# ЗАЕЗДЗІЛА СЛУЖБА ПАЭТА

Перада мною на стале — паэтычныя зборнікі літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук, вядомага беларускага вучонага, якому ў мінулым годзе споўнілася 70. Іван Чыгрын — чалавек незвычайны. Бо далёка не кожны навуковец піша вершы, прычым неблагія. Мала таго: выдае свае кніжкі ў недзяржаўным выдавецтве, адкладваючы на гэта грошы з уласнай кішэні — са зберажэнняў, якія застаюцца ад пенсіі.

А пазнаёмілася я з творчасцю Івана Чыгрына пасля сустрэчы з гэтым паэтам і вучоным у Доме літаратара, на ўроку памяці Масея Сяднёва. У падарунак ад навукоўца я атрымала некалькі ягоных зборнікаў, выдадзеных "Беларускім кнігазборам". Гэта кніжкі "Трыба" і "Бераг" (1998), "Люблю вясну" (2000), "Вынікі падсумоўваліся ў панядзелак" (2001). Я па-добраму пазайздросціла іх аўтару, якога напаткаў усё ж вельмі шчаслівы творчы лёс. Усё сваё жыццё літаратуразнавец І.Чыгрын пісаў вершы, лічыў падобны занятак нечым накшталт хобі, не меў надзеі данесці гэтыя творы да шырокага чытача. І вось толькі цяпер да іх аўтара прыйшла вядомасць, яго пісьменніцкая дзейнасць атрымала грамадскае прызнанне.

Праўда, у перыядычным друку вершы І.Чыгрына часта з'яўляліся і раней. Але ж уласны зборнік лірыкі — гэта зусім іншае, чым невялічкая падборка ў перыёдыцы. Таму я шчыра радуюся поспеху пісьменніка і віншую яго з выхадам тых кніг. Хай і надалей ён сустракае творчыя ўдачы і набыткі! Але давайце звернемся непасрэдна да паэтычнай творчасці І.Чыгрына і паглядзім, пра што і як ён піша. Галоўнае, што яго вершы 60—70-х гадоў сучасныя і цяпер. Да таго ж, вельмі прываблівае чытача бясспрэчная наяўнасць у аўтара грамадзянскай пазіцыі. А яе, гэтую пазіцыю, недастаткова проста мець. Трэба яшчэ і быць здольным яе выказаць. Ды так, каб любога, што называецца, закранула за жывое. Адразу скажу: І.Чыгрыну гэта ўдаецца. Як, напрыклад, у радках, напісаных у далёкім 1981 годзе:

*Таварыш чорту збыў душу.*
*А я вачэй падняць не смею.*
*.................................*
*Таварыш чорту збыў душу.*
*Таварыш піша, я кашу.*

Або вось гэтыя радкі — чым яны не сучасныя:

*Не абцерціся ніколі ад поту.*
*Аніколі не сустрэцца так са славай.*
*Здольных плаваць — прымушаюць лётаць.*
*Здольных лётаць — прымушаюць плаваць.*

(1984)

Як бачым, талент у І.Чыгрына — пераважна сатырычны. Ён выяўляецца найбольш поўна ва ўменні паказаць падзеі і з'явы з крытычнага боку, асвятліць іх недасканаласці і недахопы, асудзіць адмоўнае (на думку аўтара) і апець станоўчае. Тут паэт выступае і як публіцыст, пішучы пра самае надзённае, і як майстар афарыстычнага выказвання (безумоўна, І.Чыгрын мог бы паспрабаваць выступіць у ролі аўтара "белых" вершаў ці нават пачаць пісаць рытмізаваную прозу. А чаму б яму не скласці зборнік кароткіх выслоўяў?). Між іншым, пісьменніку добра ўдаецца знаходзіць трапныя словы, якія дапамагаюць яму ўкладваць у фразу філасофскі сэнс. Напрыклад, у такіх радках:

*Лепш мець ворагаў адкрытых,*
*Чымся тых, хто друг нібыта.*

(верш датаваны 2000-м годам).

Мне асабліва спадабаліся ў І.Чыгрына вершы, прысвечаныя маральна-этычным праблемам, як вось гэты:

*Яго пратэст быў, як гром, кароткі —*
*Пятля на глотку.*
*Яны рагаталі доўга-доўга —*
*З'елі ворага.*

(Карацелька", 1978 г.)

І ён — далёка не адзіны прыклад таго, як паэт змагаецца — сілаю мастацкага слова — з недахопамі ў чалавечых адносінах, у грамадскім жыцці, у нашым побыце. Карацей, І.Чыгрын у сваёй творчасці ідзе не "ад людзей", а наадварот — да іх. Ён не хаваецца ад свету ў асабістых перажываннях і адчуваннях, і гэта выдатна. Таму што, як паказвае літаратурная практыка, смела гаварыць пра свае погляды і перакананні ў сваіх творах можа толькі таленавіты чалавек. А туляга-баязлівец ніколі не дасягне ў сваёй пісьменніцкай дзейнасці ніякіх значных вышыняў (справа ў тым, што дазіраваная праўда — ужо няпраўда).

Іван Чыгрын піша не толькі пра актуальныя праблемы свайго часу і чалавечыя ўзаемаадносіны. Адна з яго ўлюбёных тэм — прырода. Прыгажосць родных краявідаў заўсёды хвалюе чулае сэрца паэта, натхняе яго на творчасць — як у радках:

*Пагорак. Восень. Я і неба.*
*Знікае даль пад коўдрай срэбнай.*
*Рве хмары дзень. Ляцяць лісты.*
*Шарэюць ля ракі кусты.*

## НАЎЗБОЧ

# РАЗБУДЗІЎ ТРЫВОГУ ТРЫЯЛЕТ

Як ні дзіўна, кніжак у нас выходзіць даволі шмат. Праўда, сціплых, тоненькіх і малымі накладамі. Але ўсё адно, чытаць ёсць што. Было б каму. А вось з гэтым у нас, як заўсёды, і асабліва сёння, праблемы вялікія. І маю вам сказаць, што з часам будуць яшчэ большыя. Незалежна ад дэмакратыі, галоснасці і свабоды слова...

Колькі іх цяпер у нас і ў Расіі выдаецца — тоўстых, у каленкорах, пазалотай акантаваных — кніжак!

Але культурныя і адукаваныя чытачы альбо не звяртаюць на іх увагі альбо "адказваюць" падобным іх "напісацелям" так: а "на фіг" нам уся гэтая плойма вашых кніжак з прастытуткамі, наркотыкамі, крывёй і стралянінай?! Мы хацелі б займець лепш адну, але добрую кніжку, ну, калі не "з друкарні пана Марціна Кухты", то хоць бы з выдавецтва "Мастацкая літаратура" альбо "Кнігазбору" спадара Кастуся Цвіркі...

Можа ўзнікнуць падобны завочны дыялог ці не? Безумоўна, можа. Як, скажам, у Пушкіна ў "Размове кнігапрадаўца з паэтам" а яшчэ лепш — у някрасаўскім "Паэце і грамадзяніне":

*"Нет, ты не Пушкин. Но покуда*
*Не видно солнца ниоткуда,*
*С твоим талантом стыдно спать..."*

Таму спадар Цвірка і трымае нос па ветры. Былі б спонсары ды таленавітыя аўтары. З апошнімі, праўда, недазбор, (я маю на ўвазе, вядома ж, не серыйную класіку) аднак жа, трэба прызнаць, выдавецтва намагаецца трымаць сваю марку.

Дзякуючы нашаму беларускаму руплівцу і прадпрымальніку спадару Валянціну Дубатоўку за кароткі тэрмін там пабачылі свет ажно два паэтычныя зборнікі гарадзенца Юркі Голуба: "Поруч з дажджом" і "Зажураны камень" (якія адметныя назовы кніжак!). Пра першую з іх я ўжо пісаў у сваім аглядным артыкуле "Недавершаная Беларусь" (ён аніяк не знойдзе свайго друкаванага ўвасаблення, ані ў дзяржаўных, ані ў незалежных выданнях). Але — гэта прыватнае, хоць і характэрнае адлюстраванне нашага сучаснага літаратурнага працэсу — як левага, так і правага накірунку.

Дык вось — "Зажураны камень". Кніжка трыялетаў. Дарэчы, і загаловак да гэтага майго тэксту ні што іншае як рэмінісцэнцыя з Ю.Голуба: "Трывогу разбудзіў радок".




Трэба адразу агаварыцца, што пасля Максіма Багдановіча, пастаяннымі "спажыўцамі" літаратурных вершаваных формаў у нашым красным пісьменстве з'яўляюцца Юрка Голуб і Эдуард Акулін... Астатнія нашы паэты выкарыстоўвалі нетрадыцыйныя віды верша толькі ў выпадку іх неабходнасці для фармавання своеасаблівага зместу альбо тады, калі сам змест, як кажуць, "не дацягваў" і захаваць яго ў прыстойным "выглядзе" можна было толькі ў "маўзалеі" незвычайнай формы...

Ва ўсім павінна быць мера і гармонія. Калі ж паэт прапануе чытачу цэлую кніжку з 55 (пяцідзесяціпяці) трыялетаў, ён павінен быць упэўнены ў іх высокай мастацкай вартасці і сваёй прафесійнай паэтычнай культуры. Уявіце сабе, што вас запрасілі на выставу беларускіх палявых кветак: вы прыходзіце, а там — адныя васількі!.. Па адным, кустамі, меншыя, большыя, але — васількі!

Прыгледзьцеся, з якіх розных, шматколерных і дзіўных кветак "сплёў" свой "Вянок" для мілай яго сэрцу Беларусі Максім Багдановіч!.. (Хоць той самы васілёк і быў у яго вызначальным, але квітнеў ён сярод жыта ды іншых красак нашай зямлі...)

Крый Бог, каб хто падумаў, што я праціўнік фармалістычнай вершаванай творчасці. Зусім не. З разумовым задавальненнем я прымаю да галавы, скажам, эксперыментальныя пошукі, а ўрэшце і яркія неадназначныя знаходкі Алеся Разанава і нечаканыя для нашай літаратурнай нівы ўсходы вершатэкстаў Андрэя Хадановіча... І рэч не ў форме маёй любові да паэзіі, а ў стаўленні да яе саміх аўтараў. Юрка Голуб — таленавіты паэт, выбітны сваёй грамадзянскай пазіцыяй і глыбокі сваім жыццёвым досведам. Яго творчы вопыт у вершаванай форме даволі значны, можна сказаць, ён праходзіць асобнымі цыкламі амаль праз усе яго вершаваныя зборнікі. Трыялет жа — яго асаблівая паэтычная прыхамаць, хоць не абмінаў ён і шмат якія іншыя віды верша. Прынамсі, і ў папярэднім сваім зборніку "Поруч з дажджом" (уганараваным літаратурнай прэміяй СБП імя А.Куляшова за мінулы год) трыялету быў аддадзены ўвесь яго заключны раздзел. Ён і складае трэцюю частку цэльнага зборніка "Зажураны камень", астатняе — з больш даўняга... Сам зборнік вызначаецца нетрадыцыйным фарматам і "трыма абзацамі" прадмовы самога аўтара. Аддаўшы сваю даніну ўхвалы Максіму Багдановічу, пра сябе, аддамо належнае нашаму паэту, ён піша сціпла, сцісла і самакрытычна: "Выбіраю для сябе рызыкоўную спробу: адчыніць даўнейшую законную раму трыялета ўласным дотыкам. "Зажураны камень". Гэта найменне, акрэслены абсяг, існасць — толькі таго".

Зазначу, дарэчы, што і рэдагаваў кніжку не абы-хто, як тое нярэдка яшчэ бывае ў нашых недзяржаўных, а сёння ўжо й дзяржаўных выдавецтвах, а адзін з найбольш таленавітых і любімых мной сучасных паэтаў Юрась Пацюпа, якому той жа спадар Дубатоўка мог бы таксама паспрыяць у выданні па сутнасці першай ягонай кніжкі (брашура-фарматная "Ноч" выйшла пры бібліятэцы часопіса "Маладосць" ажно дзесяць гадоў таму, у 1991-м, што праўда, ледзь не ў пяць разоў большым накладам, чым трохсоценны тыраж гэтых трыялетаў Ю.Голуба).

Ды ёсць жа ў паэта-вучонага і палымяныя словы пра каханне, сям'ю, асабістыя інтымныя перажыванні:

*Любога вабіць ненарокам*
*З гадамі даўнімі спаткацца.*
*Прыеду да сябе здалёку,*
*Пабуду ля свайго юнацтва.*

І многа, многа іншых выдатных радкоў...

У мяне ўзнікла пытанне: чым навуковец-пісьменнік наогул, І.Чыгрын у прыватнасці, адрозніваецца ад сваіх калег-ненавукоўцаў? Паспрабую адказаць на яго наступным чынам. Такая паэзія, думаецца, не можа не быць інтэлектуальнай, — у якой абгрунтавана і вывярана кожнае слова. Як і сапраўднае мастацтва: хіба ў аснове яго развіцця — не пошук суладнасці, гармоніі? Тады навошта шукаць у творах літаратуразнаўца І.Чыгрына нейкія хібы, недахопы? Тутя спынілася на лепшым з яго творчых набыткаў. А жыццё, праз якое прайшоў гэты мудры і высакародны чалавек, было складанымі часам цяжкім настолькі, што зайздросціць яму, і сапраўды, неяк не выпадае. Калі меркаваць па гэтым урыўку з верша "Накіды да партрэта вучонага"

*Як прыкаваны да галеры...*
*Зноў саджуся за гэтым сталом.*
*Раскладаю старанна паперы,*
*Закрываю наглуха дзверы*
*І вяслую пяром, як вяслом.*

*Не зайздросьце мужам вучоным,*
*Не заглядвайце ў іх кашалёк.*
*У марскім у бязмежжы шалёным*
*Нат для самых галоваў шалёных*
*Даль ёсць даль, а паход не намёк.*

Тым больш што на вокладцы кожнага са сваіх паэтычных зборнікаў Іван Чыгрын прыводзіць біяграфічныя звесткі пра сябе: нарадзіўся на Слонімшчыне, настаўнічаў, скончыў аспірантуру і працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Абараніў кандыдацкую, напісаў і выдаў пяць манаграфій пра беларускую літаратуру, пяць кніжак вершаў. Пяць і пяць — што ні кажыце, а ёсць у гэтым нейкае суладдзе!

**Святлана ЯВАР**

---

Працытую найлепшы, на маё меркаванне, твор са зборніка "Зажураны камень" — "Матылёк":

*Мне ваш шыкоўны капялюшык*
*Здалёку матыльком відзён.*
*Як воблачка мінулых дзён,*
*Мне ваш шыкоўны капялюшык.*
*Хаця даўно не маладзён,*
*А варта вочы зноў прыплюшчыць,*
*Мне ваш шыкоўны капялюшык*
*Здалёку матыльком відзён.*

Працуючы ў "кананічнай" і па сутнасці статычнай літаратурнай форме, галоўнае, — пазбегнуць прафанацыі, не зрабіцца гэткім станочнікам-прафесіяналам. Бо як ты ні распінайся, а да пэўнай формы ў большасці выпадкаў змест усё ж падганяць даводзіцца (абразаць, стругаць, шліфаваць і не заўсёды на карысць мастацкай вартасці самога твора).

Яркі таму прыклад — трыялет "Лес":

*Нібы ў тэатры абсурду,*
*Дыбяцца ў лесе карчы.*
*Ты памаўчы. Не крычы,*
*Нібы ў тэатры абсурду.*
*Шмат для скрушэння прычын,*
*З кожнаю горна, прычым...*
*Нібы ў тэатры абсурду,*
*Дыбяцца ў лесе карчы.*

Дзеля справядлівасці скажу, што ўсё ж большасць трыялетаў у зборніку з лепшага паэтычнага раду, таму як бы наўмысна "засвечваць негатыў" таленавітага паэта ў мяне няма аніякай патрэбы. Карысці — тым больш. Усё, што я хацеў сказаць тут і дзеля чаго пісаў гэты тэкст, можна сфармуляваць проста і ясна, як тое зрабіў калісьці ў кароткім уступе да сваёй першай кніжачкі сам Юрась Пацюпа: *"Павіннае змяняецца ад зборніка да зборніка тут змяняецца ад верша да верша, у кнізе кадзіруецца ці не ўся творчая наступнасць. Папраўдзе — мне ўвогуле не ўласціва спыняцца на знойдзенай форме.*

*"Калі надыходзіць ноч — кожны запальвае сваё святло", — казаў Геракліт. Але я не ведаю, которая зараз гадзіна. Я не ведаю, што знойдзе чытач у маіх вершах, бо змест іх рэлятыўны".*

У нашым выпадку — усё наадварот. Не той паэт, не той узрост... Не першая, але, дасць Бог, далёка не апошняя кніжка... Неардынарная біяграфія Юркі Голуба дазваляе спадзявацца на новае, не абцяжаранае, хай сабе й літаратурнай фармальнасцю, адкрыццё.

Хоцьяк зазначае ён сам ужо ў іншым вершы:

*Як ні круці,*
*але чамусьці не відно*
*зайздроснікаў*
*такой біяграфіі.*

**ЛеГал**

## АНКЕТА ШТОТЫДНЁВІКА "ЛіМ"

**ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!**

**Адказы на пытанні анкеты мы жадалі б атрымаць не пазней як 1 студзеня 2003 года.**

**1. Што вы прачыталі ў гэтым годзе з беларускай літаратуры (рукапісы, публікацыі, кніжкі)?**

**2. Што перачыталі са "старога" і адкрылі ў ім новае!**

**3. Што найбольш уразіла з прачытанага!**

**4. Назавіце свой суб'ектыўны рад любімых вамі сучасных пісьменнікаў (да 10 чал.), паэтаў (да 10 чал.), крытыкаў (да 5 чал.).**

**5. Над чым працуеце сёння, якія маеце літаратурныя і жыццёвыя клопаты, і дзе што сваё мяркуеце надрукаваць у бліжэйшы час!**



Нарадзіўся ў 1927 годзе ў Жлобінскім раёне. У 1959 годзе скончыў Літінстытут імя М. Горкага ў Маскве.

Працаваў рэдактарам у выдавецтвах "Беларусь" і "Мастацкая літаратура", а таксама галоўным рэдактарам тыднёвіка "ЛіМ". Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Віцэслава Нэзвала (1983 г.).

### Хведар ЖЫЧКА:

1. Вялікага выбару цяпер у мяне няма — новых беларускіх кніг выдаюць мала, яны дарагія, каб папаўняць імі сваю бібліятэку. Даводзіцца задавальняцца часопіснымі публікацыямі. Люблю чытаць паэзію, асабліва маладых паэтаў, каго яшчэ не ведаю. Прачытаю верш-другі — і ўжо ўяўляю аўтара, бо ў паэзіі ад сябе не ўцячэш і ад чужога вока не схаваешся. Гэта празаік можа, як у туман, нырнуць у бясконцыя разважанні, успаміны, вадзіць чытача за нос, абяцаючы яму нешта паказацыі, нічога не паказаўшы, кінуць яго на раздарожжы. Неяк летам, здаецца, у "Полымі", чытаў я даўжэзны аповед пра тое, як нейкі бэйбус уцёк ад жонкі у курортны горад і там з красуняй і з такімі ж, як сам, "вольнадумцамі" на шырокую нагу бавіў час: піў-гуляў, спакушаў жанчын, катаў іх на таксі, частаваў дарагімі напоямі, здымаў нумары-люксы ў гатэлях, дарыў французскія духі. І кабжа быў талковы, разумны багацей, дык не! Мяркуючы па ягонай гаворцы, паводзінах і густах, ён — пень-пнём. Не верыцца, што з такім розумам і спрытам можна зарабіць нейкую там піцёрку, а ён шпурляе на падносы афіцыянтаў, у лапы гатэльных служак і ў шапкі таксістаў тоўстыя пачкі долараў.

Падобныя апавяданні з ліпавымі багацеямі, да якіх аўтары "прывязвалі" для гумару "ці то азербайджанцаў, ці то чачэнцаў" (нібыта ў нас ужо ўсе дурні перавяліся), чытаў я і ў газетах, у тым ліку і ў "ЛіМе".

2. Якраз вось гэта не адкрыў я, а проста ясней убачыў, перачытваючы "старое" — летапісныя зборнікі, творы старажытных славянскіх прапаведнікаў і пісьменнікаў: Іларыёна Кіеўскага, Лукі Жыдзяты, Клімента Смаляціча, Кірылы Тураўскага, Уладзіміра Манамаха, Майсея Наўгародскага і многіх іншых. Чытаў і параўноўваў з вернападданай лірыкай песняроў сталінскай эпохі. Вельмі цікава.

Увогуле я не дзяліў літаратуру на "старую" і "новую": усё, што чытаю ўпершыню і з цікавасцю, — для мяне новае, сучаснае. Скажам, біблейскае выслоўе: "Называючы сябе мудрымі, ашалелі" (Пасланне рымлянам, 1, 22). Пра каго гэта сказана? Ці ж не пра нашых вучоных-генетыкаў, якія намагаюцца метадам кланіравання стварыць бяздумнага і беспачуццёвага чалавека-звера, будучага раба. А можна тыя словы адрасаваць і аматарам перакройваць палітычную мапу свету ці аўтарам праекта павароту сібірскіх рэчак. Многа "ашалелых" было, ёсць і будзе на свеце...

3. Гэта вось найбольш і ўразіла мяне — вымушаная слепата пісьменнікаў, наўмысная абыякавасць да лёсу свайго народа і менавіта той часткі народа, якая нясе на сваіх плячах увесь клопат развіцця нацыі, эканомікі і культуры дзяржавы. Па сутнасці гэткія "вольныя" летапісцы "вольных" паводзін людзей з'яўляюцца прадаўжальнікамі імперскай ідэалогіі нядаўняга "нерушымага Саюза": гэтак жа люта ненавідзяць і знішчаюць усё нацыянальнае, беларускае і прапагандуюць усё чужое нашаму народу — ад мод на адзенне, танцаў і гульняў да самага святога — мовы, музыкі, маралі.

Цудоўныя людзі былі нашы далёкія продкі — і працавітыя, і прыгожыя душой; любілі зямлю, клапаціліся пра хлеб і сваю будучыню, умелі выхоўваць моладзь, дбалі, каб іхнія сыны і дочкі былі не толькі смелымі і ўмелымі, але і стрыманымі ва ўсім. "Дзявіца бо пагубляе красу сваю бляднею (блудам, а муж сваё мужаство татбою (зладзействам)", — павучаў у сваім "Слове" Даніла Заточнік.

Мы ж баімся сказаць яcна і адкрыта сваім чадам, да чаго прывядуць іх распуста і разбэшчанасць, нястрыманасць і ўсёдазволенасць. І сёння ўжо відавочна, што ў недалёкім будучым грамадству давядзецца горка расплачвацца за непавагу да свайго мінулага, за непамяцтва народных традыцый. Шчыра кажучы, бяда прыйшла ўжо ў наш дом: развальваюцца сем'і, співаюцца не толькі мужчыны, але і жанчыны, дзеці зневажаюць бацькоў, падлеткі рабуюць кватэры.

4. Во чаго захацелі! Гэта ж усё роўна, як пытацца ў шаўца: хто ў іхнім мястэчку лепш за яго шые боты? Не, збаўце мяне ад напасцяў!

5. Працую, але над чым — не скажу, бо не звык выхваляцца і прадаваць шкуру яшчэ не забітага мядзведзя. А пра свае клопаты скажу, што знаходжуся цяпер у самым небяспечным становішчы, калі амаль усе жыццёвыя клопаты засталіся ззаду, а амаль усе літаратурныя клопаты апынуліся наперадзе (я ж яшчэ не выдаў ніводнага зборнічка выбраных твораў). У выдавецкіх шафах і дома без руху і без надзеі ляжаць вершы, паэмы, аповесці, апавяданні, артыкулы, успаміны, дарожныя нататкі, пераклады. І галоўны мой клопат — выдаць хоць якую долечку ўсяго гэтага. Дзесяць гадоў чакаў і так не дачакаўся ўключэння ў план аднатомніка выбранай прозы, хаця ён і значыўся ў загадзе Старшыні Дзяржкамвыда (яшчэ М. І. Дзяльца). У тэматычным плане "Мастацкай літаратуры" на гэты (2002) год значыцца мая аповесць "Косць твая і плоць твая" (10 арк.). Кніга, як мне сказалі, адрэдагавана, але не выйдзе, бо не сабрала патрэбнага для тыражу заказу...

Я не скарджуся, наадварот, шчыра ўдзячны выдавецкім і камітэцкім чыноўнікам за тое, што яны абралі менавіта такую форму — бяскроўнага забойства беларускай літаратуры і роднай мовы. Маглі б пайсці і далей, — я яшчэ не забыў (і ніколі не забуду!) таго дня, калі сваімі кволенькімі ад бясхлеб'я і нішчымніцы ручанятамі выдзіраў з падручніка лісты, на якіх было надрукавана апавяданне Цішкі Гартнага "Дойдзем, сынок". Настаўнік браў у нас тыя лісты, камячыў і бязлітасна шпурляў у распаленую грубку.

Тады я нічога не ведаў пра аўтара, шкада было толькі апавядання, якое паспеў прачытаць са слязамі на вачах — так было шкада таго хлопчыка Міхалку...

Сёння я ўжо што-нішто ведаю і пра лёс Цішкі Гартнага, і пра тых яго "добразычліўцаў", якія "дапамаглі" пісьменніку дайсці да яго апошняга прыстанку. Гэта і абнадзейвае!

---



Нарадзілася ў 1974 годзе ў Чэрвені Мінскай вобласці. Скончыла БДУ, а ў 1999 годзе аспірантуру. У 2000 годзе ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" выйшла кніга артыкулаў "Сентыментальнае пазнаванне". Кандыдат філалагічных навук.

### Ірына ШАЎЛЯКОВА:

1. Мэтанакіравана і метадычна, натхняючыся энтузіязмам колішніх нёманцаў, асабліва В. Болтача, і раз-пораз згадваючы пра трывалацсь і трывушчацсь як адзнакі крытычнага прафесіяналізму, прачытала ўвесну ўсю прозу і паэзію "Крыніцы", "Маладосці", "Нёмана" і "Полымя"; уражанняў хапіла на ўсе летнія змушаныя "вакацыі" і напружаную працоўную восень.

2. З'ўляючыся невылечным кнігаманам, адначасова чытаю некалькі твораў (як правіла, яны належаць да розных нацыянальных традыцый, літаратурных эпох альбо стылёвых накірункаў) – і ўжо гадоў пяць амаль нічога не перачытваю дзеля асалоды. Аднак выкладчыцтва вымагае вяртання да тых ці іншых тэкстаў, больш ці менш падрабязнага іх аднаўлення ў памяці. У выніку такіх змушаных зваротаў з нязмушаным імпэтам перачытваю Максіма Гарэцкага, Андрэя Мрыя, Уладзіміра Караткевіча, Янку Брыля, Алеся Жука, Алеся Разанава і немалую колькасць іншых пісьменнікаў.

3. Раман-дакумент Алеся Пашкевіча "Пляц Волі", аповесць "Бязлітасны мой воін" Алены Брава, гутарка Андрэя Дынько з Анатолем Кудраўцом у "ARCHE-пачатку", прыгодніцкі "Шчарбаты талер" Андрэя Федарэнкі, "віртуальна-рукапісная" кніга прозы Вольгі Куртаніч, "Земля и люди" Уладзіміра Бутрамеева, "Большое путешествие малышки" Алены Паповай, – моцна ўразілі (уражваюць). Паэтычны зборнік "На востраве чароўнай амазонкі" Алеся Пісарыка, аповесць Андрэя Федарэнкі "Нічые", апавяданне Ніны Пракопчык "Арыстакратка", вобразы-матывы і вобразы-настроі перадз'ездаўская "пáлемікі" ў "ЛіМе" – уразілі не менш моцна. Але па-іншаму.

4. Калі абмежаваць свае зменлівыя густы айчыннай літаратурнай прасторaю, і не ўблытвацца ва ўдакладненне паняцця "сучасная літаратура", і не пакутаваць над непамыснасцю спалучэння "любімы крытык", тады можна (у алфавітным парадку) прызнацца ў

— захопленасці прозаю Максіма Клімковіча, Анатоля Кудраўца, Міколы Купрэева, Людмілы Рублеўскай, Юрыя Станкевіча;

— прыцягальнасці паэзіі Міхася Баярына, Леаніда Дранько-Майсюка, Андрэя Хадановіча;

— (паколькі аб'ектыўна, шчыра кажучы, мая суб'ектыўная літаратурная прага наталяецца спецыфічным чынам, дык ахвярую пяць празаічных і пяць паэтычных "месцаў" на гэтую частку прыватнага "пантэона") у нязменнай зацікаўленасці літаратуразнаўчымі працамі, культуралагічнымі доследамі і крытычнымі тэкстамі Івана Афанасьева, Валянціна Акудовіча, Юрася Барысевіча, Пятра Васючэнкі, Ганны Кісліцынай, Уладзіміра Конана, ЛеГала, Евы Лявонавай, Міхася Мушынскага, Яўгена Рагіна, Людмілы Сіньковай, Любы Тарасюк, Міхася Тычыны, Таццяны Шамякінай, Івана Штэйнера (шкада, заўчасна скончыліся "месцы").

5. Выкладаю вельмі розныя і новыя для мяне дысцыпліны ў недзяржаўнай ВНУ – гэта вымагае штодзённай (насамрэч – штоночнай) падрыхтоўкі да лекцый і семінараў, распрацоўкі вучэбных праграм, сплачвання куратарскага "доўгу" і г.д.). Працую над праектам аўтарскай радыёпраграмы. Дай Бог нашаму цяляці ваўка з'есці.

# КУПАЛЫ НЕПАЎТОРНЫ РАДОК

**Цудоўны падарунак аматарам паэзіі Янкі Купалы падрыхтавала выдавецтва "Тэхналогія": пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску яно выпусціла кніжку народнага песняра "Зніч любові". Да выхаду гэтага зборніка палякі спрычыніліся невыпадкова, бо творы, прадстаўленыя ў ім, у свой час былі напісаны па-польску. Цяпер жа пад адной вокладкай сабраны арыгіналы і пераклады на беларускую мову, зробленыя Уладзімірам Мархелем. Тым самым перакладчык па сутнасці запрашае тых, хто добра ведае абедзве з гэтых моў — польскую і беларускую: чытайце, даражэнькія, і параўноўвайце, наколькі мне ўдалося справіцца з гэтай няпростай задачай. ! зазначае: "Польскамоўныя вершы былі невыпадковым эпізодам у творчасці вялікага паэта, і іх сённяшняе ўзнаўленне па-беларуску — усяго толькі спроба адказаць на пытанне: а як жа напісаў бы Янка Купала гэтыя творы на роднай мове!"**

**А каб адказаць на яго, трэба ведаць і тыя абставіны, пры якіх Іван Дамінікавіч пісаў па-польску. А яны мала чым адрозніваюцца ад тых, што спадарожнічалі ў свой час і іншым аўтарам. На гэта У. Мархель і звяртае ўвагу ў "POST SCRIPTUME": "Іншамоўныя (не ўласна беларускія) і двухмоўная (польская і беларуская) творчасць пісьменнікаў Беларусі мела даволі развітыя традыцыі ў мінулым. Польскамоўная паэзія Янкі Купалы — пэўная даніна гэтым традыцыям беларускага літаратурнага жыцця", але "шлях ад іх засваення да іх пераадолення ён прайшоў надзвычай хутка. І гэта быў подзвіг яго чалавечага духу, подзвіг, які не мог не здзейсніцца, бо ў ім ужо магутна і таленавіта пачынала біцца сэрца прарока, чаканага выпрабавальнай гісторыяй беларускага адраджэння".**

**У кнізе ўсяго 24 творы — тыя, што ў свой час сам Я. Купала перадрукаваў на машынцы і сабраў у асобны сшытак, а таксама лірычны жарцік "Кабеце" і верш "Малітва", які Сцяпан Александровіч знайшоў у часопісе "Ziarno", апублікаваны пад крыптанімам І. L. Астатнія творы, што Я. Купала змяшчаў у польскім друку, па перакананні У. Мархеля, "наўрад ці будуць калі атрыбутаваныя". Дый таго, што трапіла ў зборнік "Зніч любові", дастаткова, каб упэўніцца, што і польскамоўны Я. Купала — паэт, які ўжо на час напісання гэтых вершаў, валодаў немалымі задаткамі таленту. А калі б пісаў іх па-беларуску, несумненна, блізка да таго, як пераўвасобіў гэта перакладчык.**

**Адзін з прыкладаў — верш "У маёвую ноч":**

***О, якая цудоўная ноч, ані хмар, ні імглы,***
***Глядзіць месяц вясёла на поле і бор;***
***У надсветы імкнуць чараўнічыя думкі і сны,***
***Гімнаў шчасця ў душы азываецца хор.***

**А гэта "Беларус". Як бы подступы да спасціжэння таго мужыка, пра долю якога пясняр неўзабаве скажа такое пераканаўчае слова, пакуль быццам першыя штрыхі, але гэта ўжо Купалавы штрыхі:**

***Бачу: ідзе вось змарнелы цень нейкі,***
***Бедная світка спіну ахінае,***
***І галава над лахманам сівая,***
***Ногі крывыя ў лапцях старэнькіх.***

**І яшчэ безыменны верш, у якім мужык скардзіцца на сваю долю:**

***Хто з вас, другі, хто з вас, браці,***
***Можа плач мой, жаль суняці,***
***Сцішыць енк бядачы?***
***Мне б у песні ўцех шукаці,***
***Ды на леры граць на сваце.***
***З песняй толькі плачу.***

**У кнізе "Зніч любові" сапраўды ажывае па-беларуску непаўторны радок Я. Купалы, які з-за абставін спачатку гучаў на польскай мове. Дзякуючы перакладчыку, прамаўляе так сам пясняр.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



**Таіса БОНДАР**



# «ЗАПАВЕДАНА КОЖНАМУ — ЖЫЦЬ...»

***

*Хто жыў, той засведчыць, як свет сатанеў*
*Без Бога, а розум расхістваў асновы,*
*Хоць знаў, што агрэсія выкліча гнеў*
*Прыроды, ва ўсім падуладнае Слову.*

*Не слову — Закону. Хто жыў насамрэч,*
*Прызнаць не збаіцца, што страчана мэта:*
*Агрэсія розуму — страшная рэч,*
*А сёння яна завалодала светам.*

*Яна, а не чыстая радасць быцця*
*На ўлонні Прыроды, у згодзе з Прыродай.*
*Мы з ёю — адно, а шукаем працяг*
*У вымудрах думкі бяссіла-халоднай.*

*І думка, калі прасачыць карані,*
*Зліваецца з сонечным ветрам Бязмежжа.*
*Забытыя сны... Змарнаваныя дні...*
*Нічога не ўтрымвае часу мярэжа.*

*Нічога, нікога з былых ці жывых*
*Не верне Гасподзь на спрадвечныя сцежкі*
*Да дня пакаяння за ўсё і за ўсіх,*
*Калі зазіхціць над Зямлёй Яго ўсмешка.*

***

*Розум — дасканалы інструмент*
*І для боскіх спраў, і для злачынных.*
*Мо адчайвацца й няма прычыны,*
*Покуль нас трывае гэты свет.*

*Ён жыве не па зямных законах,*
*Створаны Ўсявышнім для жыцця —*
*З намі ці без нас, і нам няўцям,*
*Што занатавана на іконах.*

*Што? Святло нязведанага? Шлях?*
*Ці падказка шляху для нашчадкаў?*
*Мы — над прорвай, і ніводнай кладкі,*
*Што дапамагла б адолець жах.*

*Розум — не памочнік там, дзе веру*
*Жах, ці грэх, на момант патушыў,*
*І разбіцца, і ўзляцець душы —*
*Калі ўбачыць іншы, новы бераг.*

***

*Біярытм... Біярост... Біячас...*
*Адпаведнасць задуме і меры.*
*Хто пытаецца — чуе адказ,*
*Хто шукае — знаходзіць свой бераг.*

*Запаведана кожнаму — жыць,*
*Значыць, проста агледзься і ўспомні,*
*Дзе, калі ты паспеў заслужыць*
*Новы шанец дагнаць сваё сёння.*

*Дзень спрасоння бурчыць на цябе,*
*Папракае за сон і ляноту,*
*Але сонца вось-вось разаб'е*
*Цішыню і ўпражэцца ў работу.*

*Біярытм... Бег змяняецца сном,*
*Сон у яву Зямлі пераходзіць...*
*Час пакіне няўзведзеным дом*
*На пяску, ля падножжа стагоддзя.*

***

*Мы — свет вар'ятаў? Свет самазабойцаў?*
*Бог адарыў жыццём усё і ўсіх,*
*Заззяўшы Сонцам, асвяціўшы Сонцам*
*Мільярды год, што сцяты намі ў міг.*

*У міг пазнання*
*(дзе мы? з кім мы? хто мы?),*
*У міг старой сіроцкае тугі,*
*Дзе спаміны нагадваюць фантомы,*
*Што ў роспачы блукаюць між магіл.*

*Ні ўзад, ні ўперад...*
*Цем, магілы, зоркі,*
*З якімі больш не ўмеем размаўляць.*
*Яшчэ не зжыўшы долі сваёй горкай,*
*Ужо не ў сілах злу супрацьстаяць.*

*І выпарэнні зла вось-вось патушаць*
*Прасцяг, адкрыты толькі што для ўсіх.*
*І дзе тады знайсці прытулак душам?*
*Дзе ўзыдзе Сонца —*
*у наступны міг?*

***

*Зноў адно з размытых ветрам слоў*
*Зачапіла нейкі спомін даўні:*
*Край бяссоння, танец жуpавоў*
*У ружовым мроіве світання...*

*Крылы, крылы, крылы! Не агнём —*
*Рухам праяўляецца бясконцасць,*
*Неба бела-белае радно*
*Прасціраецца насустрач Сонцу...*

*Даўні спомін? Але дзе, калі*
*Звідзелася гэтая карціна?*
*Ні мяне няма там, ні Зямлі —*
*Толькі Неба,*
*толькі танец дзіўны...*

***

*Імя — не шчыт для помыслаў слабых...*
*Няшмат імёнаў, з часам безаблічных,*
*Жыве ў прапамяці людзей, ці кніг*
*У пыльнай цемры сховішчаў сталічных.*

*І ўжо ж, не гэта сёння мне шчыміць*
*За крок ад вечнасці, на раздарожжы:*
*Трымціць, і ўсё танчэе тая ніць,*
*Што век зямны нітуе з Царствам Божым.*

*Знак долі несмяротнай? Знак канца?*
*Адказ не ў тым, што Неба пасміхнецца,*
*Па волі літасцівага Тварца*
*Агучваючы ўсплёскі, ўспышкі сэрца.*

*Занатаваныя маім пяром,*
*Яны абудзяць рэха праз стагоддзі —*
*І ўспыхне прастрань, і азвецца гром,*
*І сцішыцца на міг усё ў Прыродзе.*

*Ні ўсплёску ветра ў крылах галубоў,*
*Ні смеху лісцяў пад дажджом, ні песні...*
*І не жыццё маё — мая любоў*
*У гэты міг прасветлены ўваскрэсне!*

***

*Чуткі, плёткі, даносы, вянкі —*
*Круг за кругам, ад смерці да смерці...*
*І адпрэчыць усё не з рукі,*
*І прыняць — потым бруду не сцерці.*

*Вось і топчам, каўтаючы млосць,*
*Збіты шлях між надзеяў пазбытых:*
*Ёсць жа скрозь толькі тое, што ёсць,*
*Каб вярнулася ўсё, што не зжыта.*

*І вяртаецца! Помнім ці не,*
*А няжжытае колісь зжываем,*
*Пражываем наноў, як раней,*
*На зямлі, паміж пеклам і раем.*

***

*Гасподзь — са мной.*
*Са мной — цяпер і тут.*
*Чуваць, як дыхаюць прасторы Неба,*
*Як тчэцца вера ў нясканчоны цуд*
*Уваскрасення, як бруіцца срэбра*
*Бяссонных слёз між камянёў пакут.*

*Што камяні, як за плячыма лёс*
*І думка ўсе запоны адалела?*
*Што скаргі й слёзы, як без гэтых слёз*
*Рака жыцця зямнога абмялела б*
*І шлях калючай цішаю зарос?*

*Гасподзь са мной. Чаго ж яшчэ прасіць?*
*Чаго жадаць? Я знаю: сілы стане*
*Утрымваць, утрымаць у пальцах ніць*
*Расою акрапленага світання,*
*Пакуль жыве душа, пакуль баліць...*

***

*Пасланніца Неба, вястунка душы,*
*Абпаленай прагаю гэтае стрэчы,*
*Прайшла, не скрануўшы аблогу цішы,*
*У вечар, праз цішаю скованы вечар.*

*Былое азвалася. Змрок адступіў.*
*Успыхнулі ўзоры на вогненным жэзле,*
*Усё шчэ нябачным, агонь акрапіў*
*Люстэрка нябёсаў — і водсветы счэзлі.*

*Ні вэлюма зор, ні асколкаў цішы,*
*Ні жэзла, ні небам зашклёнага заўтра...*
*Бязгучча. Бязмежжа прасцягаў душы.*
*Самота — як плата за ўсё і расплата.*

***

*Я дужая! дужая! дужая! —*
*Даводжу сабе і самоце,*
*Самота ж упарта выстуджвае*
*І ноч, і тугу аб палёце,*
*І кліч мой,*
*скамечаны пространню*
*Раней, чым азвалася восень...*
*Не простымі стрэчнымі — сёстрамі*
*Былі мы, дык што адбылося?*

*Працята стралою нябачнаю*
*Не сэрца, а неба над намі?*
*Так цёмна,*
*бы шлях ужо страчаны,*
*Так зябка,*
*бы вымерзла памяць.*
*І нельга сагрэцца ні згадкаю,*
*Ні думкай, што ўсё яшчэ будзе...*
*Каго ж асцярожна, з аглядкаю,*
*Душа мая моліць аб цудзе?*



Фота Г. ЛІХТАРОВІЧА

# ТРЫЦЦАЦЬ ДОЛАРАЎ

## Апавяданне

Перадзім'е прыйшло сёлета вельмі рана, яшчэ ў пачатку кастрычніка падзьмуў моцны вецер, зрываючы і сыплючы густым дажджом дробны бярозавы ліст, яшчэ не зжаўцелыя лісты клёна, на зямлі валяліся цёмна-карычневыя, бліскучыя плады каштана. Не паспеў вецер сарваць з дрэў усяго іхняга хараства, як на яшчэ жоўтыя кроны ўпаў снег і застыў на лістах, на камлях, укрыў белым покрывам дол. Не гатовыя да такой ранняй зімы людзі не ведалі, што апранаць, як бараніцца ад нечаканага холаду. І Вера, перабраўшы ў шафе адзенне, убачыла, што ёй няма чаго ўздзець акрамя старой сіняй курткі, якую купіла гадоў пятнаццаць назад і ў якой выцерліся ўжо і колер, і абшлагі рукавоў. Яна некалькі гадоў наогул нічога новага сабе не купляла, калі з'яўлялася якая капейка, набывалася нешта дачцэ. Дачка — студэнтка, а там, ва універсітэце, дзяўчаткі так апранаюцца, так апранаюцца. Яе то Каця вельмі не модпічае, няма за што, але не хочацца ж, каб дачка выглядала горш за ўсіх. Так што часцей за ўсё Вера насіць Каціны абноскі.

Ды каб жа толькі на апратку дачцэ ішлі заробкі, то Вера як-небудзь асіліла б, але трэба яшчэ плаціць за вучобу — семсот доларáў у год! А дзе тых долараў набярэшся, калі зарплата ў паліклініцы — дзе Вера працавала медыцынскаю сястрою — усяго восемдзесят тысяч. Вось і пакінула яна паліклініку, уладзілася ў прыватную фірму. Фірма абслугоўвала хворых на даму, сваякі плацяць за догляд. Тут выходзіць, канечне, болей, чым у паліклініцы, за тыдзень набягае недзе доларáў трыццаць. Ды пры Верыных патрэбах і гэтага, вядома, не хапае. Але яна пнецца, пнецца, каб даць дачцэ адукацыю, каб тая смялей пайшла па жыцці, не ведала беднасці, у якой існавала сама Вера. Паднімала дачку адна, муж, як кажуць, аб'еўся груш. Разышліся, калі Каці было толькі тры гады, знайшоў прыгажэйшую. Ды Вера моцна яго і не судзіла — нельга жаніцца, выходзіць замуж вельмі маладымі, не зведаўшы ўсіх спакус жыцця. А яны пажаніліся — ёй было васемнаццаць, а яму дваццаць. Здавалася, моцна кахалі адно аднаго, а потым муж агледзеўся, што на свеце шмат прыгожых жанчын і наогул — сябры, віно, волю, а ён ужо зацугляны. Вось і парваў тыя цуглі, Вера цяпер і сама не ведае — дзе ён, ці злавіў, нарэшце, сваю жар-птушку.

Дачка вучылася ў лінгвістычным універсітэце, Вера з зачараваннем слухала, як часам Каця па тэлефоне гаварыла з сяброўкамі па-англельску, па-французску. Разумела — не дарма выжыльвацца, зарабляючы на даччыную навуку. Ведаючы замежныя мовы, цяпер можна ўладзіцца на добрую работу, так што дай Бог дачушцы шчасця.

Вера бегла да свайго чарговага падапечнага — мужчыны гадоў пад шэсцьдзесят. Слабы народ пайшоў — мужчыны. Гэты не так даўно, можна сказаць, паміраў, дактары махнулі на яго рукою, адправілі з бальніцы дадому, каб з дому перабіраўся ў іншы свет. Але тут ён неяк акрыяў, да яго вярнулася фізічная сіла, ён ужо сам хадзіў, не кепска еў, толькі з галавою нешта сталася — не пазнаваў дзяцей, нават часам і жонку, гаварыў рознае глупства, нельга было аднаго пакінуць у хаце — мог газ адкрыць, кран адкруціць і не закруціць, ды ці мала яшчэ чаго мог нашкодзіць. Вось Веру да яго і нанялі, бо і жонка, і дзеці ягоныя працавалі.

Затуляючыся ад ветру са снегам каўняром сваёй курткі, Вера перабегла вуліцу, ускочыла ў пад'езд патрэбнага дома, націснула кнопку ліфта. Пакуль даехала да сёмага паверху, крыху сагрэлася — тут хоць не дзьмуў халодны вецер.

У кватэры жонка хворага, жанчына гадоў пяцідзесяці, высокая, танклявая, з макіяжам на хударлявым твары, чакала ўжо яе. Як толькі Вера ўвайшла — пачала апранацца, збіраецца на работу.

— Ён цяпер спіць, усю ноч гуляў, хадзіў па кватэры, — сказала пра мужа. — Прачнецца — вы пакарміце яго, я пакінула сняданак на стале на кухні. Ну, я пабегла, — сказала яна, нацягваючы скураныя чорныя пальчаткі. — Гэта ж трэба — такі холад, снег, і так нечакана.

— Добра, Тамара Адамаўна, усё зраблю, не хвалюйцеся.

Сын і дачка гаспадыні, мусібыць, яшчэ раней пайшлі на сваю работу. Хворы — Максім Міхайлавіч, у мінулым начальнік цэха на заводзе, спаў на шырокай канапе ў зале. З-пад коўдры была відаць толькі яго галава — лысая, у вянку сівых валасоў, вочы заплюшчаныя, рот крыху разяўлены, твар нездарова ружовы.

Вера распранулася, выняла з сумкі хатнія пантофлі, якія заўсёды насіла з сабою, калі ішла да чужых людзей; скінула боты, ступіла ў пантофлі, апранула белы халат, які вісеў тут жа, на вешалцы. Выняла з сумкі і поліэтыленава мяшэчак, у якім ляжаў бутэрброд з доктарскаю каўбасой. Яна спяшалася, не паспела дома паснедаць, можа, зараз вып'е чаю з бутэрбродам.

Яна падышла да хворага, папраўіла на ім коўдру. Ён моцна спаў, і пакуль ён спаў, Вера вырашыла перакусіць, пайшла на кухню, паставіла чайнік.

Гады тры ходзіць яна вось так па кватэрах, дагядае хворых, часам дагледае да самага іх канца. Так было мінулы раз, перад тым, як трапіла сюды.

Бабулька, гадоў пад восемдзесят, ляжала пасля інсульту. Палавіна цела ў яе была спаралізавана, яна не магла гаварыць і больш года была паміж жыццём і смерцю. Вера карміла яе, выносіла з-пад яе судна, мыла бялізну і саму хворую, апранала ў чыстае. Толькі Вера магла зразумець — што хоча сказаць старая сваім мармытаннем, рухам адной, крыху паслухмянай, рукі.

Дачка хворай перадала ўвесь клопат пра матку ў Верыны рукі, сама нават рэдка заходзіла ў пакой, дзе ляжала старая, нават уначы да яе не падыходзіла, ведала, што раніцою прыйдзе сястра і навядзе парадак. Не выказвалі спачування да старой жанчыны ні зяць, ні двое ўнучкі. Калі і бывалі ў іх які клопат — то ці доўга яшчэ бабуля будзе займаць у кватэры цэлы пакой. Усе ў сям'і чакалі бабулінай смерці і толькі, мусібыць, Вера хацела, каб бабуля пражыла даўжэй, пакуль яна жыла — Вера мела заробак, тыя ж трыццаць долараў у тыдзень. А не адразу падвернецца новая работа, часам даводзіцца доўга чакаць, не адна яна працуе ў фірме.

Яна задумалася, п'ючы чай, і не адразу заўважыла, што на парозе кухні стаіць Максім Міхайлавіч — у чорных трусах, у блакітнай майцы і няўцямна на яе пазірае.

— Ты хто такая? — спытаў ён.

Не адзін раз тлумачыла яму Вера, хто яна такая і што тут робіць. Але вырашыла нагадаць яшчэ раз.

— Я медыцынская сястра, мяне прыслалі да вас з паліклінікі, каб я вас дагледала...

Так дамовіліся яны з жонкаю хворага тлумачыць яму Верыну тут прысутнасць.

— Дык чаго ты тут сядзіш?

— Ну, вы спалі, але добра, што прачнуліся, зараз мы з вамі памыемся і я падам вам сняданак.

Яна адставіла ўбок свой недапіты чай, адклала недаедзены бутэрброд, паднялася.

Ён паслухмяна пайшоў за ёю ў ванны пакой, памыўся. Яна падала яму хатнія штаны, кашулю, і ён паслухмяна апрануў іх. Сеў за стол. Вера паставіла перад ім сняданак, наліла чаю ў кубак, сачыла, каб ён не перакуліў кубак, не абліўся гарачым чаем, бо рухі ў яго былі няпэўныя, няўмелыя, як у малога дзіцяці.

— А цяпер мы з вамі паголімся, — сказала Вера, калі Максім Міхайлавіч скончыў снедаць.

Яна і гаварыла з ім, як з малым дзіцем, так, каб ён разумеў яе і каб нічым яго не пакрыўдзіць.

Усадзіўшы на кухні яго на табурэт, яна пачала намыльваць крэмам для галення яго твар, узяўшы станок з лязом, пачала асцярожна галіць. Ён не супраціўляўся, і скора яго твар пасля галення, пасля адэкалону, якім папырскала яго Вера, пасвяжэў і нібы памаладзеў.

Дзіўна, часам гэты чалавек нічым не выказваў сваёй хваробы, быў нібыта здаровы, нармальны, а часам выяўляў усё сваё нездароўе. Вера старалася быць з ім цярпліваю, уважліваю, не пярэчыць яго просьбам і жаданням, калі яны былі ў межах разумнага, але наогул ён быў непрадказальны.

Пасля снедання і галення Максім Міхайлавіч сеў у крэсла, што стаяла пры канапе, і задумаўся. Ён мармытаў нешта сабе, потым падняўся і шпарка пайшоў па кватэры. Ён абыходзіў пакоі, быццам нечага шукаючы, адчыніў шафу для адзення, пачаў выцягваць шуфлядкі стала, зазіраць пад ложкі, пад канапу.

— Вы нешта шукаеце? — спытала ў яго Вера.

— Ага... мой кашалёк... Таммае грошы і дакументы, а мне ж трэба ўладжвацца на работу... Дзе мой кашалёк? — уставіўся ён на Веру.

Свой кашалёк шукаў ён не першы раз, Вера ведала, дзе ён ляжыць і хутка падала яму.

Ён узрадавана ўхапіў знаходку, зноў сеў у крэсла, адшпіліў кашалёк. Там ляжалі, спецыяльна пакладзеныя туды, непатрэбныя цяпер дакументы і некалькі грашовых купюр. Ён некалькі разоў пералічыў тыя купюры і раптам заявіў з адчаем:

— Мяне абакралі! Тут было шмат грошай, а засталіся толькі чатыры паперкі!

— Ну што вы, — мякка сказала Вера. — Хто тут мог вас абакрасці?

— А гэты хлопец, што ходзіць тут кожны вечар? Чаго ён тут ходзіць? Вось ён і ўкраў мае грошы!

— Ніякі чужы хлопец тут не ходзіць, тут ходзіць толькі ваш сын і ён нічога ў вас не ўкраў... І наогул — вам пара прыняць лякарства. — І Вера выняла з карабка дзве белыя таблеткі, прынесла з кухні ў кубку вады, падала хвораму. Ён паслухмяна праглынуў таблеткі, запіў вадою, потым зашпіліў кашалёк, прытуліў да сябе, не распранаючыся, лёг на канапу з тым кашальком, укрыўся коўдраю з галавою.

У таблетках быў сродак да заспакаення, і Вера падумала, што, можа, ён скора засне зноў. Сядзела каля канапы, чакала. Хворы не варушыўся, і яна падумала, што ён сапраўды заснуў і можна тым часам прыгатаваць яму абед.

Яна пайшла на кухню, абірала бульбу, скрэбла моркву і прыслухоўвалася да таго, што рабілася ў зале. Нейкі час было там ціха, але вось пачулася валтузня, нешта стукнула. Вера пабегла да хворага. Ён устаў і апранаўся — надзеў ужо пінжак, шнураваў чаравікі.

— Куды гэта вы сабраліся? — спытала Вера.

— Пайду ў міліцыю, заяўлю, што мяне абакралі.

Яго нельга было выпускаць з кватэры. Ці мала куды ён мог пайсці, і не знайсці дарогу дадому. І наогул — у якую гэта міліцыю ён сабраўся, ён і таго ўчастка не знойдзе.

— Максім Міхайлавіч, — спакойна сказала яму Вера. — Па-першае, ніхто вас не абакраў, а па-другое — вам нельга выходзіць з дому...

— А ты што тут за камандзір! — узлаваўся хворы. — Паставілі мне камандзіра! Куды хачу, туды пайду, ты мне не ўказ, — і ён памкнуўся да выхаду.

Вера прыхінулася спіною да дзвярэй.

— Нікуды я вас не пушчу! І што гэта вы надумалі, на дварэ сёння снег, мароз, а вы ў адным пінжачку! — яна хацела напалохаць яго холадам, але гэта не спужала хворага.

— Нічога, мне цёпла... І пусці мяне! — ён пачаў адцягваць Веру ад дзвярэй. — Пусці, кажу!

Але Вера трымалася моцна, затуляла сабою і дзверы і спіхнуць яе з месца было, здаецца, немагчыма. Яны некалькі хвілін валтузіліся, хворы рваўся да дзвярэй, Вера яго не пускала і раптам ён моцна, з усяго размаху, ударыў Веру па шчацэ. Удар быў моцны, балючы, Вера сцялася, але ад дзвярэй не адступіла. А Максім Міхайлавіч раптам быццам нечага спужаўся, на твары яго з'явілася нешта жывое, чалавечае. Ён адышоў ад дзвярэй, не распранаючыся, лёг на канапу, зноў укрыўся з галавою коўдраю і заціх.

Вера дакранулася рукою да шчакі. Адчувала, як наліваецца пад вокам гузак. Пайшла ў кухню, намачыла ручнік, прыклала холад да гузака. Трымаючы мокры ручнік пад вокам, апусцілася ў крэсла каля канапы. Шчака балела, і разбірала крыўда, што вось так яе ўдарылі і разам з тым апаноўвалі развагі.

Божа мой, розум чалавечы, гэты кавалачак мяса ў чэрапе... Як ён там створаны?.. Часам, калі няма ў яе работы і яна можа даўжэй паляжаць у ложку, з глыбокай памяці, без яе жадання, выплывае раптам мелодыя песні, якую спявалі ў яе маладосці. Потым аказваецца, што яна памятае ўсе словы той песні. І наогул, часам успамінаецца тое, што, здавалася, забылася навек. Прыйшло на памяць, як яе, малую, гадоў шасці ці сямі айчым у калідоры — жылі ў камуналцы — паставіў у куце на калені на гарох. Якое ж яна, малое дзіця, магло ўтварыць злачынства, каб панесці такую кару? І гэта засела недзе ў звілінах. Можа, таму яна другі раз замуж не выйшла, каб не паставіў айчым яе Кацю на калені на гарох...

Мазгі чалавечыя... таямніца з таямніц... Колькі ў іх сядзіць інфармацыі, куды да іх таму камп'ютэру... І што з імі адбываецца, калі раптам перастаюць нармальна слу-жыць, як цяпер вось Максіму Міхайлавічу? Яна і крыўдавала на яго за той удар і разумела — крыўдаваць не варта — хворы чалавек, сам не разумее, што робіць.

Ён сцішана ляжаў пад коўдраю. Можа, заснуў? Сядзела, адпачывала, як пасля цяжкай работы. Натузалася з ім каля дзвярэй, ён жа дужы. Але на вуліцу не пусціла.

Доўга сядзець не даводзілася, трэба было ісці на кухню, гатаваць абед падапечнаму. Долары дарма не плоцяць. Рэшту дня хворы быў спакойны, то ляжаў, то хадзіў па кватэры, кашалька ў яго ў руках не было, мусібыць, недзе схаваў.

Пачынала цямнець, снег, што так нечакана пакрыў дол, дахі дамоў, пачаў раставаць і барабаніў па бляшаных карнізах пад вокнамі, пырскаў вадою на шыбы. І вецер, здаецца, аціх, на вуліцы, мусібыць, пацяплела — што ж, яшчэ толькі пачатак кастрычніка.

Прыйшла гаспадыня з работы. Распранаючыся, спытала:

— Ну, як вы тут?

Вера памкнулася было расказаць пра прыгоду, потым перадумала.

— Усё нармальна...

— Як ён сябе паводзіў?

— Як заўсёды, зноў грошы лічыў, казаў, што яго абакралі.

Гаспадыня ўздыхнула.

— Гора маё...

Калі выйшлі з калідорчыка на святло, гаспадыня ўбачыла ў Веры сіняк пад вокам.

— Што гэта ў вас, адкуль?

Вера зноў памкнулася было сказаць праўду, і зноў перадумала.

— Ведаеце, я гэту ноч амаль не спала, нешта павяло ўбок і выцялася аб палічку, што вісіць на кухні.

— Я гэту палічку сама не люблю, — сказала гаспадыня, — некалі прасіла Максіма Міхайлавіча, каб перавесіў, а потым, як усё пачалося, было ўжо не да палічкі.

Вера яшчэ ўдзень вырашыла пагаварыць з гаспадыняю, хоцьёй было і нявыгадна тое, што збіраецца прапанаваць, але не ўсё ж жыццё шукаць выгаду.

Хворы цяпер глядзеў тэлевізар, ці ўсё ён разумеў з таго, што бачыў і чуў, толькі яму было відома, але глядзеў уважліва і, здаецца, з цікавасцю.

Гаспадыня скінула апратку, у якой хадзіла на работу, апранула халат, пайшла на кухню. Вера рушыла за ёю. Прысела на табурэтку каля стала.

— Тамара Адамаўна, што я хацела вам сказаць... — пачала і заціхла, быццам думаючы — гаварыць ці не гаварыць.

Гаспадыня таксама села на табурэтку, уважліва паглядзела на Веру.

— Я вас слухаю...

І Вера наважылася.

— Ведаеце, Максім Міхайлавіч у такім стане... Можа, варта было б уладкаваць яго ў Навінкі... І вам было б лягчэй...

На твары гаспадыні адбілася пакута, яна нервова захінула халацік, уздыхнула.

— Не, не... Ведаеце, ён нядаўна быў зусім нармальны чалавек... Гэта хвароба яго скалечыла... І цяпер... Цяпер жа ў яго бываюць толькі прыступы, а запхні яго ў той дом... Там канчаткова можа звар'яцець... Не, не...

Вера адчула няёмкасць. Быццам зрабіла нялюдскую прапанову, сама засаромелася таго, што сказала.

— То прабачце... Прабачце, калі ласка... Канечне, шкода... Свайго чалавека шкода.

Яна паднялася, пайшла ў прыхожую апранацца. Зняла свой белы халат, хатнія пантофлі, паклала ўсё ў сумку. Апранула сваю старую куртку.

— То бывайце здаровы, — развіталася з гаспадыняю.

— Бывайце здаровы, да заўтра.

— Да заўтра...

Вера пакіравалася да ліфта.



**Лідзія АРАБЕЙ**

# АД ЭСКІЗА ДА КАСЦЮМА

**Каралеўская мантыя і сялянскія лапці, рэнесансныя парадныя строі і сціплыя душагрэйкі, вясельны ўбор і ваенны кіцель... Усё гэта можна ўбачыць у нядаўна створаным Музеі гісторыі беларускага кіно, дзе працавала выстава "Касцюм у беларускім кіно". Экспанаты для яе адабралі і падрыхтавалі мастакі па касцюмах студыі "Беларусьфільм" на чале з Алай Грыбавай. У экспазіцыю трапілі працы Наталлі Сардаравай, Ніны Гурло, Людмілы Торшынай, Элеаноры Сямёнавай, Алы Грыбавай.**

**Цэнтрам кампактнай, але досыць разнастайнай экспазіцыі стала шыкоўная сукенка чорнага аксаміту са срэбным шыццём — касцюм удавы Кульшы з фільма "Дзікае паляванне караля Стаха" (1979, аўтар — Э. Сямёнава). Увогуле, выстава амаль цалкам была прысвечана касцюму гістарычных кінастужак, але тут можна убачыць і касцюм Сталіна для фільма "У жніўні 44-га..." (2000), і нават стыльную чорную сукенку, якая выкарыстоўвалася ў здымках відэакліпа Філіпа Кіркорава (2001). Значная частка прадстаўленых элементаў касцюма — самыя сапраўдныя рэчы мінулых стагоддзяў: веер канца XVII стагоддзя, візітныя лайкавыя пальчаткі, ларнет, цыліндр з кацялком, жаночыя чаравічкі, разлічаныя, здавалася б, толькі на Папялушкаву ножку. З аўтэнтычных рэчаў звярнула на сябе ўвагу жаночая вясельная сукенка 1904 года, якая некалі належала маці рэжысёра-аператара А. Булінскага. Менавіта яна была крыніцай творчага пошуку мастакоў па касцюмах фільма "Збянтэжанасць" (1970).**

**У некаторых з прадстаўленых касцюмаў доўгае кінажыццё — яны "вандравалі" з адной здымачнай пляцоўкі на другую, упрыгожваючы не адну зорку айчыннага кінематографа. Напрыклад, жаночая чорная накідка "здымалася" ў такіх фільмах, як "Першыя выпрабаванні" (1960), "Масква-Генуя" (1960—1961), "Бронзавая птушка" (1974).**

**Выстава кінакасцюма — гэта небанальны спосаб пазнаёміцца з гісторыяй беларускага кінематографа калі не ў "асобах", дык у рэчах. Яна працуе апошнія дні. Спяшайцеся!**

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

# МЭБЛЯ — ЛЮСТЭРКА ЧАЛАВЕКА

**Ні адзін прадмет побыту не цікавіў дызайнераў, архітэктараў і мастакоў так, як цікавіла звычайнае крэсла. Крэсла, лічаць яны, мае падабенства з чалавекам, яно з'яўляецца адбіткам ягонага цела, мае "рукі", "ногі", "спіну". У гісторыі дызайну крэслу, як аб'екту эксперымента, адведзена ці не цэнтральная роля. Яно даўно ператварылася са звычайнага прадмета побыту ў мастацкі сімвал.**

**Безумоўна, толькі сапраўдны дызайнер можа са звычайнага стварыць нешта асаблівае, неверагоднае. Калекцыя менавіта такіх твораў прадстаўлена на выставе "Маштабы дызайну". Усе 100 экспанатаў гэтай выставы — мініяцюры крэслаў з калекцыі музея Vitra Design у Германіі. Крэслы выкананы ў маштабе 1:6 (прыкладна 10 см у вышыню), але ж цалкам паўтараюць свае арыгіналы, многія з якіх вырабляюцца і цяпер. На выставе прадстаўлены мадэлі такіх знакамітых дызайнераў, як Ле Карбюзье, Людвіг Міс ван дэр Роэ, Чарлз Р. Макінтош, Штэфан Вэвэрка і многія іншыя.**

**Калекцыя экспануецца ў музеі Беларускай акадэміі мастацтваў.**

**Экспанаты, сабраныя на выставе, прадстаўляюць розныя эпохі (XVIII—XX стст.), розныя стылі, пачынаючы з класіцызму і канчаючы мадэрнізмам. Тут ёсць дзіцячая мэбля, шырокія лавы, вялізныя шэзлонгі і зручныя крэслы-качалкі, сучасныя офісныя крэслы.**

**Некаторыя з прадстаўленых на выставе ўяўляюць сабою творы на мяжы дызайну і выяўленчага мастацтва. Напрыклад, крэсла — мадэль нашай зорнай сістэмы. Сядзенне — гэта Сонца, а дуга спінкі — арбіты планет. Самі ж планеты — гэта невялікія металічныя шарыкі. Ёсць крэслы ў выглядзе сэрца, жаночага цела, саксафона, выгнутай лесвіцы, у выглядзе павука. А адзін з экспанатаў нагадвае знакаміты "Чорны квадрат" Малевіча. Такое ўражанне, што да стварэння гэтага крэсла аўтара падштурхнула менавіта гэта карціна.**

**Для стварэння гэтай калекцыі майстрыдызайнеры выкарыстоўвалі традыцыйныя для мэблі матэрыялы. Гэта дрэва, скура, тканіна, метал, пластык. Але ж сустракаюцца і незвычайныя. Напрыклад, крэслы з цэменту, саломы, кардону, пластмасавых коркаў.**

**Выстава на прыкладзе аднаго прадмета адлюстроўвае розныя перыяды сусветнай мастацкай культуры.**

**Юлія ПАПОВА**



# ПРЫВІТАННЕ, ДОН КІХОТ!

***На Малой сцэне Палаца Рэспублікі некалькі разоў на месяц антрэпрызныя "Віртуозы сцэны" іграюць свой новы спектакль "...З прывітаннем, Дон Кіхот!". Гэты праект спалучыў у сабе драматычныя дыялогі і оперныя спевы, танцавальныя нумары і клаунаду. Атрымаўся вясёлы, каляровы, сакавіты спектакль не без прэтэнзіі на глыбокія філасофскія разважанні.***

Актыўная раскрутка на тэлебачанні і вялізныя рэкламныя шчыты ў пераходах метрапалітэна ўжо данеслі да сталічнага гледача асноўную інфармацыю пра гэты спектакль. Праект – беларуска-расійскі: стварылі "Дон Кіхота" масквічы, а іграюць беларусы. Прычым і першыя, і другія – людзі вядомыя. Зоркі. Чаго вартае хаця б імя рэжысёра-пастаноўшчыка спектакля Іосіфа Райхельгаўза, кіраўніка маскоўскага "Тэатра сучаснай п`есы". Дарэчы, "Дон Кіхот" у яго пастаноўцы некалькі год таму з поспехам ішоў на сцэне гэтага тэатра з удзелам знакамітых Альберта Філозава, Льва Дурава і Тацяны Васільевай. Апошняя нават атрымала за выкананне ролі Дульсінеі прэстыжную "Залатую маску". З беларускага боку ў спектаклі задзейнічаны таксама прафесіяналы – набыўшыя папулярнасць пасля серыялу "Паскораная дапамога" Алег Акуліч і Эвеліна Сакура, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржпрэміі Аляксандр Ткачонак, акцёры Тацццяна Булгакава і Анатоль Голуб, а таксама "іграючы" прадзюсер "Віртуозаў" Уладзімір Ушакоў.

Хто толькі ні звяртаўся да гісторыі пра высакароднага ідальга, што, начытаўшыся рыцарскіх раманаў, паўстаў на ахову сусветнай справядлівасці, пра ягонага камічнага шэльму-збраяносца Санча Пансу і чароўную даму Дульсінею Табоскую... Булгакаў, Набокаў, Шварц, Валодзін, Луначарскі, нямецкія паэты і празаікі, ну і, вядома, сам Сервантэс, які і выправіў свайго небараку-героя ў падарожжа, што цягнецца ўжо чатыры стагоддзі. Цытаты з твораў усіх гэтых аўтараў сталі тымі кавалачкамі, з якіх складаецца спектакль. Рэжысёр не стаў назаляць публіцы пераказам падзабытага са студэнцкіх часоў рамана. Але першую частку першага акта ён пакінуў у форме традыцыйнага драматычнага дыялога – тут могуць адвесці душу інтэлектуалы, прыхільнікі пошукаў сэнсу. Пад нетаропкі стук капытоў драўлянага каня добра разважаецца пра зачараваны свет, дзе злыя чараўнікі ператвараюць млыны ў веліканаў, а высакародных дам – у свінарак. Але і тут знаходзіцца месца дасціпным жартам Санча Пансы і камічнасці Дульсінеі-Альдонсы. Так што сумаваць, назіраючы за падарожнымі зборамі рыцара і яго збраяносца, за слыннай бойкай з ветракамі і першай сустрэчай героя з "задужа зачараванай" дамай сэрца, не даводзіцца.

Калі першая частка спектакля адрасавана аматарам традыцыйнага драматычнага тэатра з сюжэтам і дыялогам, дык астатняя – опера, балет, клаунада – становіцца сапраўдным святам акцёрскай гульні, весялосці і акцёрскага запалу. Яны нагадваюць вялікі акцёрскі капуснік, які ў сучасным тэатры, на жаль, пацяху вымірае як жанр. І хай драматычным акцёрам не хапае грацыі балетных танцоўшчыкаў ці пастаўленых галасоў оперных спевакоў – усё гэта яшчэ больш узмацняе камізм іх феерычнага прадстаўлення. Як ужо было ў адным са спектакляў "Віртуозаў сцэны" – "Ботах на тоўстай падэшве", драма ўрываецца ў зусім, здавалася б, чужы "манастыр" і з трыумфам выносіць адтуль сваю здабычу ў выглядзе месцамі традыцыйных, а месцамі і арыгінальных нумароў клаунады і пантамімы. Праўда, часам, рэжысёр з акцёрамі быццам заігрываюцца, і складаецца ўражанне, што на сцэне акцёрам весялей, чым гледачам у зале.

Цяжка дадаць нешта новае да вобраза высакароднага ідальга, якім стварыў яго геній Сервантэса і намалявалі таленавітыя мастакі розных часоў. Трэба толькі вымавіць "Дон Кіхот", і быццам бачыш хударлявую постаць з недарэчным тазікам для галення замест шалома і іспанскай бародкай на асветленым высокімі марамі твары. Абодва выканаўцы гэтай ролі – Алег Акуліч і Аляксандр Ткачонак – здолелі ажывіць гэты партрэт са старонак рамана Сервантэса. Санча ў выкананні Анатоля Голуба і Уладзіміра Ушакова таксама традыцыйны. Са сваёй жыццёвай кемлівасцю, прыземленасцю, вострым языком ён – вечны антыпод свайму гаспадару і вечны яго паплечнік. Але ў спектаклі Санча Панса быццам адсунуты на другі план. Яго засланяе – не толькі раскошным бюстам, але ў першую чаргу непаўторным дарам камічнай актрысы Эвеліна Сакура, якая выконвае ролю Дульсінеі-Альдонсы (другую выканаўцу, Тацццяну Булгакаву, мне пабачыць, на жаль, не пашчасціла). Рэжысёр у гэтым вобразе быццам спалучыў дзвюх гераінь рамана Сервантэса – даволі статычную Дульсінею, што служыць толькі аб`ектам пакланення, і служанку Марыторнес, ахвочую да любоўных забаў.

Маскоўскі мастак Барыс Лысінкоў абнёс месца дзеяння драўлянай канструкцыяй, гранічна простай і адначасова вельмі функцыянальнай. Яна ўвесь час трансфармуецца – з`яўляюцца нябачныя спачатку дзверы, вокны, лесвіцы. Тут жыве, весяліцца, спявае, выконвае незвычайныя пластычныя нумары масоўка – сяляне, катаржнікі, гарэзлівыя сіньярыты з пастаялага двара. (Іх выканаўцы добра спяваюць і рухаюцца – гэта было крытэрыем



# ПОЛЬСКІ ТЭАТР — СЁННЯ

***Напрыканцы восені ў Мінску ў памяшканні Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі прайшоў Фестываль сучаснай польскай драматургіі.***

***Сталічнай тэатральнай грамадскасці былі "прэзентаваны" сцэнічныя ўрыўкі з васьмі сучасных польскіх п'ес. Спектаклі "Мухі" А. Стасюка, "Нязломны рыцар", "Жалезная канструкцыя" М. Вайтышка, "Што ж мы? Мы тут толькі госці" М. Дзедушыцкай, "Ноч Гельвера" І. Вільгіста, "Скарб" В. Такарчук, "Тэндэр" М. Масакоўскага, "Пагаворым пра жыццё і смерць" К. Бізё былі пастаўлены беларускімі рэжысёрамі В. Грыгалюнасам, Д. Саладухам, М. Паніматчанкам, А. Ільіных і разыграны нашымі акцёрамі.***

***Пра "Сітуацыю ў сучаснай польскай драматургіі", а таксама пра польскі драматычны тэатр — сёння расказаў мастацкі дырэктар "Тэатра Польскага" (Познань) Марэк РАДЗІВОН.***

**— Пан Марэк, якія тэмы хвалююць сёння польскіх рэжысёраў?**

— Ёсць група рэжысёраў, якія займаюцца класікай. Гэта найперш Крысціян Люпа і Ежы Яроцкі. Апроч гэтага цягам апошніх дзесяці гадоў назіраецца «атака» рэжысёраў маладога пакалення, галоўным чынам з Кракаўскай тэатральнай школы. Тут варта ўзгадаць Кшыштафа Варлікоўскага і Гжэгажа Яжыну: абодвум па трыццаць гадоў, абодва ставяць выключна сучасную драматургію – я маю на ўвазе англійскіх «грубіянаў», у прыватнасці Сару Кэйн, Марка Равэнхіла.

З маладых рэжысёраў самай вялікай папулярнасцю карыстаецца адзін з тых, што закончылі тэатральны інстытут двагады таму і плённа працуюць над сцэнічным увасабленнем аўтарскай ідэі — Лукаш Кос. У новым тэатры ў Лодзі ён, па большай частцы, таксама ставіць сучасную драматургію.

Адрозненні ў звароце да тых ці іншых тэм, на маю думку, хаваюцца ва ўзросце. Такія рэжысёры, як Варлікоўскі ці Яжына гавораць перш за ўсё пра свае пакаленне, пра людзей свайго ўзросту. Невыпадкова яны і звяртаюцца да тэкстаў сваіх аднагодкаў-драматургаў. А калі яны ставяць, напрыклад, англійскую ці нямецкую сучасную драматургію, дык разважаюць пра тое, пра што зараз у Польшчы памалу ўжо ўсе пачынаюць разважаць. У нас з'яўляюцца грошы, але што з імі рабіць, як выкарыстоўваць, каб не атрымалася так, што ў старасці мы проста адыдзем у лепшы свет багацейшымі — усяго толькі.



Вось менавіта гэту тэму і закранае сучасная драматургія. Але я хацеў бы таксама сказаць пра тэмы, якімі занятыя рэжысёры старэйшага пакалення. Напрыклад, Люпа не так даўно паставіў спектакль па п'есе Томаса Бернхарда «Ліквідацыя». Гэта аповед пра чалавека пасляваеннага лёсу. Гаворка не пра фашызм, а пра тое, у якой ступені мы здатныя ўспрымаць сябе крытычна, убачыць, так бы мовіць, бервяно ў сваім воку.

**— Ці падтрымлівае дзяржава нацыянальны тэатр, увогуле, як ён цяпер фінансуецца?**

— Фінансаванне ажыццяўляецца трыма шляхамі. Два тэатры – «Нарадовы тэатр» і Стары тэатр у Варшаве, які таксама мае статус нарадовага, г.зн. нацыянальнага – фінансуе дзяржава. Ёсць вялікая група тэатраў, якія фінансуюцца з мясцовага бюджэту, напрыклад, ваяводскага. Дырэктары тэатраў у такіх выпадках залежаць толькі ад мясцовага кіравання. Жыхары Познані, да прыкладу, самі вырашаюць, падабаецца ім тэатр ці не. Калі яны незадаволены, дык могуць звольніць дырэктара, абвясціць конкурс на абранне нова-

адбору на спецыяльным кастынгу сярод маладых тэатральных акцёраў). У блакітным небе над драўлянымі сценамі махае крыламі смяротны вораг высакароднага ідальга – той самы млын, увасабленне злых сіл. Мастак па касцюмах, таксама масквіч Віктар Сеўрукоў, напэўна, улічыўшы, што Дон Кіхоту будзе цяжкавата танцаваць і скакаць нават у муляжных даспехах, прыдумаў для герояў простыя і разам з тым адметныя касцюмы з натуральнага льну, скуры, ваўняных нітак. Такому "натуральнаму" касцюму вельмі пасуе таксама "натуральная", жывая музыка ў выкананні духавога квартэта. Пры размове аб пастановачнай камандзе, якая працавала над спектаклем, нельга таксама не ўзгадаць, што ў ёй былі задзейнічаны такія знаныя прафесіяналы, як балетмайстар Марына Дударава, хормайстар Аляксандра Сандлер. Вынік іх працы – зладжаныя, арыгінальныя танцавальныя нумары і прыстойны для драмы вакал.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.*

**Фота К. ДРОБАВА**



га кіраўніка. Існуе таксама трэцяя група тэатраў: галоўным чынам, гэта студэнцкія калектывы, калектывы «офф», якія атрымліваюць грошы з розных фондаў, але не на заробак, а на канкрэтныя праекты.

**— Я ведаю, што ў Польшчы выходзіць часопіс "Дыялог", які штомесяц друкуе на сваіх старонках хаця б адну польскую п'есу!**

— Гэта так, але шмат якія тэатры арганізуюць самастойнае чытанне драматургіі. Некаторыя тэатры выдаюць брашуры для ўсіх тых, хто цікавіцца тэатральным мастацтвам. Апроч таго, у Варшаве і Кракаве працуюць два-тры выдавецтвы, якія выпускаюць сучасную літаратуру, у тым ліку і сучасную драматургію. Але гэта не тая галіна, дзе выдаўцы могуць добра зарабіць, таму яны і самі часцяком звяртаюцца па падтрымку да розных фондаў.

**— Які, на вашу думку, стан беларуска-польскіх тэатральных стасункаў сёння!**

— Мяркую, міністры і паслы не заўсёды патрэбныя для таго, каб сустракаліся людзі тэатра. Дастаткова, каб хто-небудзь з польскіх крытыкаў ці рэжысёраў заўважыў штосьці цікавае ў Мінску і прыехаў сюды. Пажадана, каб дырэктары мінскіх тэатраў і мінскія рэжысёры не чакалі, пакуль міністэрства наладзіць якісьці семінар ці сустрэчу, а самі дасылалі лісты на польскія тэатры і падумалі пра магчымасць узаемаабмену, паслалі некалькі самых лепшых, на іх думку, беларускіх тэкстаў, каб польскі бок зрабіў тое самае ў адказ. Гэта яшчэ не гарантыя таго, што нашы тэксты спадабаюцца тут, а вашы там, але гэта ўжо добрая нагода для сустрэч накшталт сённяшняй. Я часта наведваю міжнародны фестываль "Кантакт" у Торуні — гэта адзін з самых прэстыжных польскіх фестываляў. Ён быў арганізаваны ў 1990 годзе менавіта з мэтай наладзіць глабальны кантакт з беларусамі, украінцамі, літоўцамі, з тымі рэгіёнамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, з якімі раней мы мелі толькі афіцыйныя кантакты і не ведалі, чым рэгіёны адрозніваюцца адзін ад аднаго. Два ці тры гады таму я на фестывалі заўважыў гасцей з Беларусі, але гэта былі не артысты, не рэжысёры, а чыноўнікі з міністэрства. Можа, праз гэта і ёсць нейкая вялікая карысць для беларускага тэатра, але, відаць, было б цікавей, калі б на такі фестываль прыехалі маладыя беларускія артысты?

**Гутарыла Марыя РУДОВІЧ**

*НА ЗДЫМКАХ: Марэк РАДЗІВОН; сцэна са спектакля "Тэндэр".*

**ФОТА К. ДРОБАВА**

**ГАСЦЁЎНЯ**

## Юлія ДЗЯТКО, Канстанцін КУЗНЯЦОЎ:

# «НАМ ЗАЎСЁДЫ ЦІКАВА РАЗАМ»

***На рахунку гэтай цудоўнай балетнай пары ўжо дванаццаць удалых выступленняў на міжнародных конкурсах. Яны былі першымі танцоўшчыкамі Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра, якіх запрасілі выступаць у спектаклях Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета. Іх тэхніка захапляе, а вобразы — зачароўваюць. Прыгожыя і маладыя Юлія ДЗЯТКО ды Канстанцін КУЗНЯЦОЎ — госці "ЛіМа".***



**— Ці даўно вы пазнаёміліся!**

ЮЛІЯ. Гэта доўгая гісторыя. У 1984 годзе мы абое паступілі ў харэаграфічнае вучылішча. Але, канечне, тады нават не здагадваліся, што будзем танцаваць разам, што станем мужам і жонкай.

**— Юлія, чаму менавіта балет!**

Ю. Да гэтага я сем гадоў займалася фігурным катаннем. І мая настаўніца харэаграфіі прапанавала пайсці ў балет. Да таго ж, у мяне бабуля з дзядулем працавалі ў оперным тэатры, я пастаянна бывала на спектаклях, і асабліва мне падабаўся балет.

**— Цяжка было паступіць у харэаграфічнае вучылішча!**

КАНСТАНЦІН. Так, на той час быў дастаткова вялікі конкурс — 12 чалавек на месца. Набіралі 18 дзяцей: палову хлопцаў, палову — дзяўчат. Цяпер вучылішча зрабілася каледжам, і педагогі вымушаны павялічваць набор. Але ж харэаграфія — справа індывідуальная, трэба ўдзяляць увагу кожнаму вучню. І, на жаль, не заўсёды іх колькасць пераходзіць у якасць.

**— Вы — вельмі прыгожая пара...**

Ю. Калі нас пачалі ставіць разам у дуэтных танцах, мы прыглядзеліся адно да аднаго больш уважліва... І на адной навагодняй вечарыне прызналіся ў каханні. А ўвогуле, наш клас быў вельмі дружны, мы не разбягаліся пасля заняткаў, а кудысьці разам ішлі: у кіно, на дыскатэку...

**— Дарэчы, як класічныя танцоўшчыкі ставяцца да дыскатэк!**

Ю. Я — вельмі люблю. Танцую з задавальненнем.

К. А я з цяжкасцю пераношу сучасную музыку. Хаця пад добрую песню мне танцаваць падабаецца. Аднойчы ў Варшаве мы з двума калегамі пайшлі на дыскатэку. У выніку атрымалася так, што танцавалі толькі мы чацвёра, а астатнія проста на нас глядзелі.

**— Як складваецца працоўны дзень артыста балета!**

Ю. Ён у нас, канечне ж, ненармаваны. Працуем столькі, колькі трэба. А 10-й гадзіне раніцы пачынаецца ўрок, дзе мы выконваем набор абавязковых фізічных практыкаванняў, гэта штодзённы трэнінг. Праз гадзіну пачынаюцца рэпетыцыі. Калі прыязджае Раду Паклітару (гэта малады таленавіты харэограф з Малдовы, вучань Валянціна Елізар'ева), рэпеціруем амаль цэлы дзень. Вечарам — спектакль.

Стамляемся, вядома, але гэта стомленасць прыемная.

К. Бывае, наадварот, пасядзіш, не танцуючы, два тыдні — і пачынаеш рыпець, як стары зэдлік: і тут баліць, і там коле... Таму што наш арганізм настроены на нагрузкі. Вядома нават, што артысту балета нельга рэзка кідаць танцаваць. І нават калі ты трошкі захварэў, лепш прыйдзі, пазаймайся — і ўсё пройдзе!

**— Ці прытрымліваецеся вы дыеты!**

Ю. Калі многа працуеш, яна непатрэбная. Хіба што пасля летняга адпачынку можна есці трошкі менш — не абмяжоўваць сябе ні ў чым, але есці патрошку.

**— Можа, ёсць у вас нейкія сямейныя традыцыі!**

К. У нас ёсць добрая сямейная традыцыя: хадзіць разам на працу.

Ю. Проста усё наша асабістае жыццё завязана на працы. Нават дома за вячэрай мы гаворым пра рэпетыцыі і спектаклі.

К. Юля добра гатуе, я... добра ем!

Ю. Мы ўсё робім разам — нават прыбіраем удваіх.

К. Снеданне гатую я, бо прывык уставаць рана, а вячэра — гэта Юліна прэрагатыва.

**— Калі вы сварыцеся, хто першы саступае!**

К. Саступаю я.

Ю. Бо, напэўна, я больш наравістая.

К. Мы ўвогуле паводле гараскопа несумяшчальныя: я — Рак, Юля — Авен. Ды і натуры ў нас розныя. Я — песіміст, Юля — аптымістка. Але гэта зусім не страшна. Мы прывыклі да сваёй асабістай манеры зносін — напаўжартоўнай. Любім адно аднаго "падкалоць". Нам заўсёды цікава разам.

**— Як вы змагаецеся з дэпрэсіяй!**

Ю. З дапамогай працы. Дэпрэсія з'яўляецца тады, калі работы няма.

К. Бывае, прыедзеш з гастроляў ці з конкурсу — і крылы за спіной. "Давайце мы будзем працаваць!" А гэта нікому больш не трэба. Вось тады пачынаецца дэпрэсія. Але наш галоўны балетмайстар Ніна Мікалаеўна Дзьячэнка не дае нам расслабляцца. І ў многім дзякуючы ёй, наша трупа існуе. На харэаграфічныя спектаклі нашага тэатра гледачы ходзяць з задавальненнем, нават не горш, чым у Нацыянальны тэатр балета. У нашым рэпертуары ёсць 10 паўнавартасных спектакляў, ды і канцэрты мы можам пастаянна рабіць новыя. Мы рэгулярна ездзім на гастролі за мяжу — а гэта вельмі добры паказчык. У нас унікальная трупа! На жаль, гэта разумеюць не ўсе. Канешне, у любы момант можна перайсці ў іншую трупу, аднак мы аддалі гэтаму тэатру 10 гадоў і жадаем працаваць тут. Але ў добрых умовах.

**— Сёлета вы паступілі ў Беларускую акадэмію музыкі на курс Елізар'ева. Чыя гэта была ідэя!**

Ю. Мая. Шкада толькі, што ў гэтым годзе не набіралі балетмайстраў — я б паспрабавала.

**— Канстанцін, а што сімвалізуюць чатыры вашыя завушніцы!**

К. Аднойчы мне захацелася радыкальна змяніць імідж, але артыст балета не можа пафарбаваць валасы ў яркі колер ці зрабіць экстравагантную прычоску. Таму я прабіў сабе вушы. Спачатку думалі: колькі конкурсаў, столькі завушніц... На чатырох спыніліся. Хачу павесіць яшчэ адну, але ж гэта цэлы рытуал, трэба настроіцца.

Ю. Мужчынам здаўна было ўласціва насіць завушніцы. Прыгадайце гістарычныя фільмы ці карціны. Прычым, раней мужчынскія завушніцы былі больш экстравагантныя.

**— Ці не раскажаце пра які-небудзь смешны выпадак, што здарыўся з вамі на сцэне!**

Ю. Гэта было на спектаклі "Шахеразада" ў эпізодзе, калі Джын павінен праляцець над сцэнай з адной кулісы ў другую, канечне ж, з дапамогай рабочых сцэны. Аднойчы для спектакля, які быў напярэдадні, пасярэдзіне сцэны наверсе павесілі нейкую заглушку, а перад нашым спектаклем не знялі. Таму Джын, калі ляцеў над сцэнай, зачапіўся за гэтую заглушку, павіс пасярэдзіне і стаў пагойдвацца. Раптам рабочы сцэны пачаў апускаць яго ўніз... А там Косця круціць гран-піруэт! Джына апусцілі амаль што яму на галаву. А калі Джын пачаў адыходзіць за кулісы, яго ізноў узнялі... Увогуле, смешныя выпадкі — не рэдкасць у акцёрскай прафесіі.

**Гутарыла Вольга НАВАЖЫЛАВА**

*НА ЗДЫМКУ: заўсёды разам — Юлія ДЗЯТКО ды Канстанцін КУЗНЯЦОЎ.*

**ФОТА В. СТРАЛКОЎСКАГА**

# ТВОРЧАСЦЬ+ТЭХНАЛОГІЯ

***Ёсць у Злучаных Штатах, у Каліфорніі горад Бэрклі. А ў горадзе Бэрклі — мастацкі інстытут KALA, павучыцца, папрактыкавацца ў якім лічаць за гонар мастакі-графікі ўсяго свету. З 1 па 26 лістапада, у нашым Нацыянальным мастацкім музеі працавала выстава пад назваю "KALA ў Беларусі".***




**Інстытут KALA існуе амаль тры дзесяцігоддзі. Ён прадастаўляе прафесійныя ўмовы для працы амерыканскім і замежным мастакам, што працуюць у галіне традыцыйнага эстампа (афорт, літаграфія), фатаграфіі, кніжнай аздобы, а цяпер яшчэ і ў галіне новых (лічбавых) тэхналогій. Не будзе памылкаю назваць KALA творчай лабараторыяй і інстытутам удасканальвання майстэрства. Само ж слова KALA — шматсэнсоўнае. Яно ёсць у мовах шэрагу народаў свету, і паўсюль азначае нешта прыемнае — мастацтва, неба, сонца, грошы і гэтак далей.**

**Ініцыятарам гэтай мастацкай акцыі стаў беларускі мастак Канстанцін Селіханаў, які ў 1999 годзе працаваў у KALA і здолеў зацікавіць кіраўніцтва інстытута і мастакоў ідэяй выставы ў Беларусі. У экспазіцыі прадстаўлена каля 50 твораў дваццаці сямі мастакоў са Злучаных Штатаў і шэрагу іншых краін. Гэта калейдаскоп нацыянальных менталітэтаў, творчых тэмпераментаў, мастацкіх тэхналогій, "традыцыі" і "авангарда". Выстава, безумоўна пашырае нашы веды, удакладняе нашы ўяўленні аб Амерыцы, амерыканцах і аб тым, як амерыканцы разумеюць свабоду творчасці. Выстава зарыентавана найперш на мастакоў-прафесійнікаў і дасведчаных аматараў мастацтва. Для тых, каму цікава не толькі тое, што намалявана, але і тое, як намалявана.**

**Паслухаўшы размовы ў час вернісажу, магу зрабіць выснову, што ў прыгаданых катэгорыяў гледачоў выстава насамрэч мае поспех. Праўда, адназначнай ацэнкі твораў экспазіцыі няма. Адны кажуць, што нашым мастакам ёсць чаму тут павучыцца, іншыя пярэчаць — у нас і так школа графікі адна з лепшых у свеце, і мы добра абыходзімся і без гэтых тэхналагічных "наваротаў". А то, маўляў, набыў камп'ютэр — і ты ўжо мастак!.. Мяркую, ісціна недзе пасярэдзіне: толькі засвоеная школа дае права звацца прафесійнікам, а добраму прафесійніку камп'ютэр не пашкодзіць.**

**Дарэчы, гэтая выстава не адзіны прыклад культурніцкага супрацоўніцтва Беларусі і Злучаных Штатаў. Дзякуючы падтрымцы Амбасады ЗША пабачыў свет каталог твораў Марка Шагала, створаны "амерыканскі куток" у Пушкінскай бібліятэцы Мінска, ладзіўся тыдзень амерыканскай культуры ў Маладзечне, у Нацыянальнай бібліятэцы створана лабараторыя для пераводу грамзапісаў у лічбавы фармат, ладзіліся выставы, гастролі, канцэрты.**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

ЛІМ-ЧАСАПІС

# ГАСЦЯВАЛІ Ў ТУРАВЕ

**Дарагі зямляча! Жывеш ты нялёгка, у паўсядзённых клапатах пра існаванне: капаеш бульбачку, якая не вельмі радуе сёлета ўраджаем, прыбіраеш з поля моркаўку, буракі, капусту, прыпасы на зіму гатуеш, няма калі дыхнуць, што й казаць.**

**І ўсё ж, калі-нікалі параіла б табе звярнуць увагу на аб'явы, якія час ад часу з'яўляюцца ў цэнтры нашага Турава, каб потым не пашкадаваць, што застаўся ў баку ад цікавай падзеі, якая адбылася ў родным куце.**



**Сведчаннем таму нядаўні прыезд у Тураў маладога мастака, пісьменніка Юрыя КУР'ЯНОВІЧА, паэткі-песенніцы Валянціны ПАЛІКАНІНАЙ, дарэчы, яны другі раз за кароткі прамежак часу наведалі Тураў, і паэта-барда Валерыя ПАЗНЯКЕВІЧА.**

**Святочная сустрэча з гэтымі людзьмі адбылася ў Тураўскім гарадскім доме культуры. Я думаю, каму пашчасціла прысутнічаць на сустрэчы — не пашкадаваў, бо хвіліны, праведзеныя побач з гэтымі людзьмі, былі сапраўдным святам душы, гаючымі лекамі для яе.**

**На пачатку вечарыны, якую адкрыла вядучая, наша тураўская прыгажуня Аксана Блоцкая, колькі слоў сказаў пра сваю ўлюбёнасць у Тураў Юрый Кур'яновіч. Валянціна Паліканіна, калі даведалася, што Юрый арганізуе паездку, вырашыла: "Абавязкова паеду. Там жа пры храме Усіх Святых чакаюць абяздоленыя дзеці, а сярод іх маленькі Марцін, якога часта ўспаміналa, бачыла ў снах". Прыехала не з пустымі рукамі, прывезла невялікую гуманітарную дапамогу для храма, а Тураву — вершы цікавыя і змястоўныя.**

**Змяняе Валянціну на сцэне паэт-бард Валерый Пазнякевіч. Шчаслівыя былі тыя хвіліны.**

**Напрыканцы вечарыны маленькія тураўчанкі, магчыма будучыя артысткі, Маша Клаўс, Даша Катлярчук, Яна Радзіёнава ўручылі гасцям кветкі, а народныя ансамблі "Ярок" і "Прыпяць" парадавалі гасцей цудоўным, вабным выступленнем.**

**Кацярына ПАПОВА,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры, г.п. Тураў**

*НА ЗДЫМКУ: вершы чытае Валянціна ПАЛІКАНІНА*

ЛЁСЫ

***Ягонае імя нічога не скажа беларускаму чытачу. Але ж я хачу вас пазнаёміць з ім. Гэта вельмі цікавая асоба. Амерыканец. Нарадзіўся ў Славеніі. Працуе ў Кліўлендзе (штат Агаё). Улюбёны ў Беларусь, якую... ніколі не бачыў!***

***Ягонае жыццё — шэраг небяспечных прыгод. Шчыры. Рамантычны. Ён належыць да тых людзей, якія рупяцца нешта зрабіць для другіх, і толькі тады радасць апануе іх душу. Ён належыць да тых людзей, якія ніколі не шкадавалі сябе. Ніколі не збіралі грошы для сваёй асабістай асалоды. "Будзьце, як дзеці" — сказаў Гасподзь. І ягоныя дзіцячыя вочы пакідаюць светлы след у сэрцах тых, хто калі-небудзь сустракаўся з ім. А вочы, кажуць, — адлюстраванне душы...***

***Адным словам, Марыя Кавсык заслугоўвае таго, каб расказаць пра яго больш падрабязна.***

# ЗНАЁМЦЕСЯ – МАРЫА КАВСЫК

Больш за 6 гадоў у ЗША працуе дабрачынны фонд "Этнічныя галасы Амерыкі".

За гэты час, дзякуючы гэтай арганізацыі пабывалі ў шматлікіх еўрапейскіх краінах і папраўлі свае здароўе больш за 5 тысяч беларускіх дзяцей. Дзякуючы гэтай арганізацыі атрымаў дарагое лячэнне беларускі хлопчык хворы на гемафілію.

Дзякуючы гэтай арганізацыі некалькі разоў пабывала ў ЗША вядомая ў Беларусі Сашанька Гушча, якая атрымала магчымасць лячыцца ў лепшым шпіталі Амерыкі і мела 34 аперацыі.

Дзякуючы гэтай арганізацыі хворыя беларускія дзеці знайшлі надзею на паляпшэнне здароўя...

Сёлета гэта арганізацыя стала спонсарам вядомай у Беларусі дзесяцігадовай "Міс свету" Сашанькі Шкурдоды.

Але вернемся да галоўнага.

Пра старшыню арганізацыі "Этнічныя галасы Амерыкі" "ЛіМ" ужо пісаў.

Цяпер прыйшоў час пазнаёміць з чалавекам, які добраахвотна ўкладае свае сілы, здароўе, розум а, галоўнае, любоў у справу беларушчыны:

— Я люблю тое, што раблю і таму маю задавальненне ад сваёй працы. Мне хораша думаць, што нехта ў далёкай, але дарагой майму сэрцу Беларусі, у якой я ніколі не быў, адчувае плён маіх намаганняў. Я шчаслівы ад таго, што дзіцячы смех рассыпаецца па краіне, дзе я правёў свае дзяцінства, у Славеніі, — ціха распавядае мне амерыканец Марыа Кавсык, і працягвае:

— Я меў шчасце нарадзіцца ў адной з найпрыгажэйшых краін свету. У Любляне. Паўстагоддзя назад. Пражыўшы там 17 гадоў, я развітаўся са сваімі бацькамі і крэўнымі і эміграваў у Італію. У Рым. Пражыў там адзін год і зразумеў, што работу я не знайду, а жыць на дзяржаўныя падачкі сэрца мне не дазваляла. Я вымушаны быў выехаць куды-небудзь. ЗША прынялі мяне. Тут я знайшоў сябе. Спачатку працаваў на фабрыцы, потым пайшоў у марскі флот. Служыў на Атлантычным акіяне. Скончыўшы службу, вярнуўся ў Клііўленд і пачаў працаваць на радыё. Працаваў 17 гадоў. Гэта быў час халоднай вайны. Гэта быў час даволі цяжкі для славянскіх краін.

Я запыталася ў спадара Марыа ці была ў яго магчымасць калі-небудзь вярнуцца дамоў ужо як у амерыканца.

— О, так, — сумна адказаў ён мне, — такая магчымасць у мяне была і... прыгоды былі даволі небяспечныя. У 1969 годзе мая хворая маці хацела пабачыць мяне. Мая сястрычка Станіслава пазваніла мне з Любляны і папрасіла прыехаць. Мама сказала, што адчувае, што хутка памрэ... Я разумеў, што калі я паеду, то буду арыштаваны, бо мае праграмы на радыё былі накіраваны супраць югаслаўскага ўрада, з палітыкай якога я і большасць маёй роднай Славеніі не пагаджаліся.

Але жаданне пабачыць маму перасіліла мой страх быць арыштаваным, і я вырашыў ехаць дамоў. Атрымаўшы візу, накупляў падарункаў маім родным і блізкім і накіраваўся ў Славенію. Пры пашпартным кантролі, паліцэйскі ўважліва разглядаючы мой амерыканскі пашпарт, сказаў: "Ты больш ніколі не пабачыш яго!.." Пасля некаторых непрыемных прыгод, я вярнуўся ў ЗША.

У 1982 годзе памёр Броз Ціта, і ўсё змянілася. Людзі атрымалі магчымасць ездзіць за мяжу. І я рызыкнуў ізноў паехаць у краіну свайго дзяцінства. А, галоўнае, мне хацелася памаліцца над магілкай маці, пабачыць бацьку і сястру.

Калі я прыехаў дамоў, то нейкія камуністы прыйшлі да нас, каб папрасіць прабачэння. Прабачэнні я прыняў, але чамусьці ніколі не забыўся пра той жаль і боль, які засеў у маёй душы пасля таго, як мяне не пусцілі да паміраючай маці.

...Каб неяк перабіць сумныя думкі Марыа, я запыталася ў яго, чаму ён вырашыў дапамагаць менавіта беларускім дзецям. Што лучыць яго з Беларуссю?

Ён адразу ж адказаў:

— Мы — славяне. Мы славянскія народы, нягледзячы якой мовай карыстаемся, якую рэлігію спавядаем. І калі мы, славяне, аб'яднаемся, мы будзем шмат мацнейшыя чым цяпер, але гэта шмат каму не падабаецца і нас працягваюць сварыць рознымі метадамі...

Што лучыць мяне з Беларуссю? Аднойчы я пазнаёміўся са спадарыняй Ірэнай Калядой, амерыканкай беларускага паходжання. Вось яна і распавяла мне пра праблемы беларускіх чарнобыльскіх дзяцей і натхніла ўзяцца за працу. Яна вельмі адданая сваёй справе. Натхніла не толькі мяне аднаго, але й свайго мужа, сваіх сяброў і, нават... кітаянку Джуды Вонг, якая, наогул, нічога са славянамі агульнага не мае. Так што дзякуючы спадарыні Ірэне, наша шматнацыянальная арганізацыя працуе даволі плённа і мы маем неблагую магчымасць дапамагаць беларускім хворым дзецям. А мая краіна, Славенія, ляжыць на беразе Адрыятычнага мора і сам Бог паслаў



яе беларускім дзеткам на аздараўленне. І я лічу, што маю права ганарыцца, што частка і майго намагання, маёй працы адгукнецца здароўем, добрым настроем незнаёмых, але такіх дарагіх майму славянскаму сэрцу беларускіх дзетак. Бо сказаў Гасподзь: "Усё тое, што вы робіце для гэтых малых, вы робіце дзеля Мяне". А я — каталік. І стараюся ісці па шляхах Госпада Ісуса Хрыста і таму беларускія дзеткі, дзеля якіх я і мае супрацоўнікі працуем восьуж 7 гадоў, з'яўляюцца і маімі дзецьмі, бо сваіх дзетак я пакуль што не маю, затое маю дарагую краіну Беларусь і спадзяюся яе калі-небудзь пабачыць не толькі ў сваіх снах, але і насамрэч.

Карыстаючыся магчымасцю хачу, пажадаць беларускім дзецям здароўя, а тым дзецям, якія купаюцца ў Адрыятычным моры ў Славеніі, панесці і маю краіну ў сваіх сэрцах так, як я нашу Беларусь у сваім сэрцы.

**В. ВЯРБОЎСКАЯ,**
**карэспандэнт "ЛіМа" ў ЗША**

ВЫДАННІ

# «ТЭРМАПІЛЫ» ПРАЦЯГВАЮЦЦА...

Выйшаў у свет чарговы, шосты па ліку нумар літаратурна-мастацкага і беларусазнаўчага часопіса "Тэрмапілы" (грэц.: Гарачыя вароты), які выдае Беластоцкае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа".

У свой час, прэзентуючы першы нумар новага выдання, яго заснавальнік і галоўны рэдактар Ян Чыквін пісаў: "Наш беларускі літаратурны рух у Польшчы набывае з гэтым выданнем новыя магчымасці — найперш для публікацый "даўжэйшых" жанраў прозы, эсэ, сцэнічных твораў, крытычных артыкулаў, рэцэнзій. Хочацца спадзявацца, што ад самага пачатку часопісу будзе ўласціва формула адкрытасці ў тым сэнсе, што ён стане месцам сустрэчы для ўсіх, хто хоча творча займацца беларускім прыгожым пісьменствам, беларускаю культураю і іх даследаваннем, як у нас, так і па-за межамі "Польшчы".

Гэта былі добрыя словы і словы, як кажуць, у час сказаныя. Наступныя нумары "Тэрмапілаў" паказалі, што перыёдык спраўджваецца паводле задумы яго заснавальніка. Пра гэта пераканаўча гаворыць і шосты нумар, надзвычай разнастайны і насычаны як у тэматычных, так і ў жанравых адносінах. Адкрываецца ён новымі вершамі Анатоля Вярцінскага. Друкуюцца таксама вершы Галіны Дубянецкай і пераклад Ніны Мацяш паэмы "Зіма" знакамітага бельгійскага франкамоўнага паэта Франсуа Жакмэна. З прозы ўвазе чытача прапануецца спозненая на паўвека публікацыя першай часткі аповесці пісьменніка-эмігранта Янкі Юхнаўца "Яно". Істотна дапаўняюць гэты раздзел псіхалагічнае эсэ Міхася Андрасюка "Кіно "Ілюзіон" і дакументальныя нататкі Янкі Жамойціна "Лёсы іх сышліся ў Спаску". Пад рубрыкай "Культура" змешчана (на польскай мове) даследаванне Валенты Пілата "Культурна-асветніцкая дзейнасць у польска-беларускіх вёсках Віленшчыны ў міжваенным двацццігоддзе". Літаратуразнаўчую рубрыку складаюць артыкулы: Арнольда Макміліна "Міхась Стральцоў — паэт у прозе і паэзіі", Алы Петрушкевіч "У перакуленым свеце" (новае прачытанне рамана Змітрака Бядулі "Язэп Крушынскі") і Анатоля Раманчука "Душы нястрымнае імкненне (некалькі думак пра паэзію Міхася Шаховіча)". Свае мемуары друкуюць Арсень Ліс "На разломе эпохі" (штрыхі да партрэта Максіма Танка), Алена Анішэўская "Трымаючы ў руках паходню" (згадкі пра Масея Сяднёва) і Тамара Лаўранчук "Успамінаючы Настаўніка..." (тэкст і фотаілюстрацыі, прысвечаныя памяці Уладзіміра Калесніка).

Прадстаўлены ў нумары і такія традыцыйныя для часопіса рубрыкі; як "Varia" і "Сярод кніг". У сваім эсэ "Рыцар Даждджу" Л. Сільнова піша пра паэзію Ю. Голуба. Я. Жамойцін дзеліцца сваім роздумам над старонкамі паэтычнай кнігі "Ускраек тысячагоддзя" Г. Тварановіч-Сяўрук. Аб паэтычным светасузіранні, ідэйных і духоўных пошуках Я. Чыквіна, у прыватнасці аб яго новым зборніку "Крэйдавае кола" разважаюць у сваіх грунтоўных даследаваннях Л. Зарэмба ("Акрамя жыцця на свеце больш няма нічога") і Г. Тычка ("О, гэта боская формула жыцця"). Тут жа змешчана яшчэ і падборка рэцэнзій.

**Уладзімір РАВІЧ**

**БЛІЦ-ІНТЭРВ'Ю**

Вольга КУРТАНІЧ:

# ХАЧУ ЛЮБАВАЦЦА ЛІЛЕЯМІ

**— Працуючы шмат гадоў рэдактарам, прыйшоў да думкі, што не заўсёды на карысць справе, калі,скажам, літаратурны твор паэткі рэдагуе паэт. І наадварот... А як на вашу думку?**

— Слушна. Не ведаю, як у свеце, а мы,беларускія пісьменнікі,яшчэ не навучыліся паважаць творчасць адзін аднаго. Гэта па-першае; па-другое: (тое,што вы і хочаце пачуць) жаночая і мужчынская псіхалогія абсалютна розныя. І я нават пагаджуся з тым, што хутчэй жанчына зразумее ўсе нюансы творчасці свайго калегі процілеглага полу, чым гэта зробіцьмужчына. Пэўна,з-за таго,што ў апошніх больш амбіцый.

Хочаце пераканацца на простым прыкладзе? Не так даўно давала інтэрв'ю адной паважанай газеце. Але яно было б надрукавана раней, калі б не ўпартасць? зайздрасць? пыха? (што яшчэ?) аднаго журналіста-публіцыста і, між іншым, калегі-пісьменніка, назавем яго К., які сказаў: "У друк — толькі праз мой труп. Такіх разумных пісьменніц-жанчын не бывае. І наогул, на Беларусі толькі адзін пісьменнік і публіцыст- гэта я." Давялося счакаць, покульён сыдзе ў адпачынак... Якая павага можа ў мяне ўзнікнуць да гэтага пісьменніка, які мне падаваўся вельмі шчырым і добразычлівым у сваіх газетных артыкулах?

**— Наша гутарка, як бачыш, скіравалася да дзіўнаватага аспекта літаратурнага жыцця. Нярэдка літаратар у сваіх творах выглядае адным, а ў жыцці — зусім іншым. Ведаю, менавіта з-за гэтага некаторыя з маладых ды здольных, аднойчы "апёкшыся", пераставалі зазіраць у рэдакцыі да і наогул, пісаць...**

— Думаю, вы самі азначылі ўсе аспекты: лепш чытацьтворы і не цікавіцца асабістым жыццём творцаў. А калі "апёкшыся", нехта перастае пісаць, значыць і таленту там ніякага не было, — так, памкненні.

**— Давяраеш думкам сваіх сяброўкалег, калі яны даюць ацэнку тваім творам!**

— Яны не вешчуны,да таго ж я не магу дазволіць сабе такую раскошу: знаходзіцца ўвесь час у патаемных думках хто і ў чым мае рацыю. Удзячна лёсу,што на пачатку творчага шляху ў мяне былі выдатныя і жорсткі крытык. Што яшчэ? Магу быць удзячная таленавітаму рэдактару.

**— Усе ведаюць цябе як беларускамоўнага літаратара, і раптам — выходзіць кніга арыгінальнай паэзіі на рускай мове "В блистании строк...".**

— Гэтая кніга нарадзілася пасля смерці маёй сяброўкі Любові Шэлег, якая пісала па-руску выдатныя вершы. З кнігай звязана містычная гісторыя. Але нічога не буду тлумачыць. Пасля яе з'яўлення мае сябры казалі: у табе прачнулася генная памяць,таму што зроблена яна на высокім літаратурным узроўні, выдатнай рускай мовай. Можа й так; я ж нарадзілася на Урале і беларускіх каранёў не маю.

Але... Калі мае калегі пачалі мяне дакараць за гэты зборнік, прыйшло новае разуменне: Беларусь можна любіць на дзвюх мовах; так склаліся абставіны. Больш за ўсё мяне здзіўляе тое, што калі літаратары, да прыкладу, згадваюць Дастаеўскага, які пісаў па-руску, дык абавязкова падкрэсліваюць яго тутэйшае паходжанне. Мы можам назваць "беларускім пісьменнікам" курда, які нічога па-беларуску не напісаў і друкуецца толькі ў перакладах (гэта не абраза,я не маю права адмаўляць чалавеку ў таленце), але ж здарыцца адмаўляему прыналежнасці да айчыннай літаратуры тым, хто таленавіта піша па-руску. У гэтым плане музыкам і мастакам значна прасцей,ніхто не скажа,што ты не беларускі кампазітар, таму што ствараеш (польскія, рускія, украінскія...) творы. Пытанне пра нацыянальную літаратуру ўжо ляжыць значна глыбей моўнай праблемы. І ў гэтым ёсцека парадокс, але парадокс, прыналежны толькі да нашай, асобна ўзятай дзяржавы.

**— Зараз шмат спрачаюцца, маўляў, беларуская літаратура — якая, якога ўзроўню, для каго...**

— Няхай спрачаюцца. Што тычыцца мяне,дык упэўнена. Не трэба пісаць для "агульнай і без свайго аблічча масы". Чытач гэтага не прабачае. Твор павінен валодаць уласцівасцю быць чытаным ва ўсе часы...

**— Ці могуць нашы пісьменнікі быць запатрабаванымі ў нашым часе!**

— Адкажу ў рамках літаратурнага працэсу. Калі яны будуць самі (!) здольныя сілкаваць знікаючую цікаўнасць да жыцця. А яшчэ: калі здолеюць перамагчы страх за будучыню. (Кажу гэта і для сябе самой.) Дадам, што, на жаль, часцей за ўсё мы становімся відушчымі ўжо пасля адыходу творцы і тады робіцца абыякавым: працаваў ён у апошнія гады, ствараў творы ці не. Проста ягоная асоба бачыцца ўжо ў іншым свеце, праз іншыя параметры і мы аддаем павагу таленту.

**— Як я заўважыў па тваіх творах, ты часта пішаш ад першай асобы.**

— Слушна, можаце наватсказаць,што ў гэтым ёсць нейкі мазахізм (жартую). Так, мне ўдаецца шчыльна пераплесці асабісты вопыт і прыдуманае, каб цяжка было адрозніць: дзе праўда, дзе выдумка. Мне ўдаецца лепш перадацьпсіхалагічны партрэт гераіні, калі пішу ад першай асобы; нават калі гэтая гераіня не мае да мяне ніякага дачынення. І тут я дзейнічаю, як акторка, толькі мая сцэна — белы аркуш паперы. Па шчырасці, не хачу, каб маю творчасць называлі спавядальнай.

**— А зараз, мабыць, самае традыцыйнае і разам з тым, ці не правакацыйнае пытанне: мастацтва павінна ствараць для мастацтва або!..**

— Выдатная тэма для развагі. Да прыкладу, вялікі Лорка быў упэўнены, што ідзя мастацтва для мастацтва — бесчалавечная. Наш час поўны трагедый, — лічыў ён, — і таму творца павінен быць побач з народам, які загруз у брудзе, каб смяяцца і плакаць разам з ім. Карацей, даволі захапляцца лілеямі, трэба дапамагаць народу шукаць гэтыя лілеі... Цікавая думка? Дык вось, мне б хацелася зрабіць наадварот: захапляцца, любавацца чароўнымі лілеямі. І каб ніхто гэтаму працэсу не перашкаджаў! А ўжо хто хоча — хай далучаецца.

**— Асабістае жыццё выносіш на публіку!**

— Засведчу, што я вельмі шчаслівы чалавек. Але той, хто скажа: "я зраблю гэта для вас", — мае шанц стаць абраннікам майго сэрца.

**Пытанні задаваў
Уладзімір САЛАМАХА**

*13-га снежня ў Чырвоным касцёле ў 19.00 адбудзецца мая творчая вечарына. У ёй прымаюць удзел: ансамбль "Харошкі" і актрыса Алена Дуброўская. Запрашаю ўсіх жадаючых.*

**Вольга КУРТАНІЧ**

# А ПЕСНІ... ЗАСТАНУЦЦА?

**(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1)**

Той непаўторны (бо адзіны,першы ды апошні) сеанс кінатэатр "Масква" надзіў з нагоды юбілею двух беларускіх класікаў,да ўсяго — нездарма песнярамі завуцца! — выдатных песенных паэтаў.



Кампазітар Эдуард ЗАРЫЦКІ

Многія вершы Янкі Купалы ды Якуба Коласа гучаць музыкай, пачуўшы якую, злучалі іх з нотнымі радкамі, перастваралі ў спеўных інтанацыях кампазітары ўсіх пакаленняў. Класічная беларуская паэзія набыла новае жыццё ў оперных арыях, кантатах і хорах, вакальных цыклах, лірычных песнях, жартоўных эстрадных шлягерах. Такіх разнажанравых вакальна-паэтычных твораў, усялякіх і добрых, багата напісана. Можна ўявіць, які пакутлівы і строгі адбор правялі стваральнікі новай праграмы Дзяржаўнага канцэртнага аркестра на чале з М. Фінбергам. Атрымалася своеадметная анталогія — "Песняй мой дух маладзіцца", пра якую чытач "ЛіМа" ўжо інфармаваны.

У яе 1-м аддзяленні (і на самым пачатку 2-га) былі лепшыя песні І. Лучанка, У. Мулявіна, І. Паліводы, Р. Пуксты ды інш. Знаёмыя, любімыя, абноўленыя сучаснымі аранжыроўкамі, свежымі галасамі. Тут і лірычны зварот да роднай старонкі: "Пакажыся свету!" І замілаванне дзяўчынай, якую "не змалюеш, не спішаш пяром". І каларытная замалёўка з "кепскага жыцця", у якім "калі хлеб ёсць, няма сала, хоць гарэлкі дык даволі". Тут і падтрыманыя публікай з першых фраз "Марыся", "Спадчына", "Мой родны кут"...

Прэм'ерай у прэм'еры сталася выкананне новага цыкла песень Э. Зарыцкага на вершы Якуба Коласа, чыёй паэзіі на сучаснай песеннай эстрадзе пашанцавала куды менш, чым Купалавай. Нібы другое нараджэнне зведалі ў той вечар Коласавы строфы, апранутыя ў рытмы вальса, боса-новы, у карункі пазнавальных інтанацый сённяшняга гукавога асяроддзя. Асабліва ўразіў хрэстаматыйны верш "Люблю я прыволле", больш чым паўстагоддзя таму скарыстаны А. Багатыровым для сурова-стрыманай арыі Кузьміча з оперы "У пушчах Палесся", —ператварыўшыся ў жыццярадасную дзявочую песеньку. А пачуўшы: "Белым снегам замятае" з імклівым прыпевам "Гэй, вы, коні...", запал з гэткім энтузіязмам падтрымала выканаўцаў, нібыта ўбачыла ў песні прэм'еру... будучага навагодняга шлягера! Ды толькі хто яе "раскруціць"?

Аркестр удзячны дырэкцыі кінатэатра "Масква" за магчымасць выступіць. А вось публіка, таксама ўдзячная, паспачувала музыкантам, якія прытуліліся са сваёй прэм'ерай у месцы, не прыдатным для такой імпрэзы. Статус юбілейнай праграмы, на падрыхтоўку якой былі вылучаныя сродкі са Спецыяльнага фонду Прэзідэнта, кваліфікацыя яе стваральнікаў, узровень іх папулярнасці вымагалі адпаведнай канцэртнай залы (такія, нягледзячы на рамонт сталічнай філармоніі, у цэнтры горада ёсць).

"Такія вершы прападалі!" — як цяпер чую нейчы ўздых-замілаванне ад новых твораў Э. Зарыцкага, які раскрыў песенную прыроду многіх Коласавых радкоў. І дадаю наўздагон, з надзеяй: "Не прапалі б песні..."

**С. БЕРАСЦЕНЬ
Фота К. ДРОБАВА**

**ЛІМ-ЧАСАПІС**

## НА ЗЯМЛІ КОЛАСА

**Нягледзячы на тое, што сёлета Стаўбцоўшчына шырока адзначыла 120-годдзе з дня нараджэння свайго знакамітага земляка рэспубліканскім святам паэзіі загадзя, у адзін з цёплых восеньскіх дзён, сапраўныя прыхільнікі ягонай творчасці не сталі парушаць даўнюю традыцыю і напярэдадні юбілейнай даты зноў сабраліся ў родным куце пісьменніка на 18-я па ліку "Каласавіны".**

**Паэты і пісьменнікі, супрацоўнікі дзяржаўных музеяў краіны свой "шлях да Коласа" распачалі з невялікай вёскі Ручын, што непадалёк ад Рубяжэвіч. Менавіта адсюль паходзіць і Купалаў радавод: у Ручыне (раней гэта вёска называлася Няшота) нарадзілася яго маці, на пачатку мінулага стагоддзя тут у сваіх родзічаў гасцяваў і сам паэт.**

**Пасля Ручына і Рубяжэвічаў маршрут каласавінцаў пралёг у Акінчыцы, дзе госці наведалі былую леснічоўку, у сценах якой 120 гадоў назад з'явіўся на свет будучы народны паэт Беларусі Якуб Колас.**

**Галоўная ж дзея Коласаўскага літаратурнага свята адбылася ў вёсцы Мікалаеўшчына. Ля ўстаноўленага побач з будынкам мясцовага сельсавета помніка паэту сабраліся многія вяскоўцы, вучні Мікалаеўшчынскай сярэдняй школы, якая носіць імя песняра, прадстаўнікі раённых улад. Спецыяльна прыехалі сюды, каб далучыцца да свята, і школьнікі з Шашкоўскай СШ Стаўбцоўскага раёна, а таксама іх равеснікі з Уздзеншчыны і Смалявіччыны, горада Бярозы Брэсцкай вобласці. Слова пра свайго знакамітага земляка гаварылі намеснік старшыні Стаўбцоўскага райвыканкама Наталля Лапко і загадчык аддзела культуры Анатоль Грэкаў, а таксама іншыя ўраджэнцы стаўбцоўскай зямлі — дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская, пісьменнікі Алесь Рыбак і Алесь Гара, артыст тэатра імя Якуба Коласа Валянцін Салаўёў, паэт Алесь Камароўскі... А на заканчэнне ўсіх, хто пажадаў далучыцца да свята "Каласавін" у Мікалаеўшчыне, прывітаў меладычнымі песнямі мясцовы народны фальклорны калектыў "Коласавы землякі".**

**Сяргей ГАЛОЎКА**

## ТЭАТР «ЗЬНІЧ» НА ЛЕПЕЛЬШЧЫНЕ

**Паспяхова прайшлі нядаўна гастролі паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч" (мастацкі кіраўнік і выканаўца Галіна Дзягілева) на Лепельшчыне. Лепель, Заслонава, Бароўка, Камень, Баброва — такі быў іх маршрут. Паколькі гастролі прысвячаліся 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, то ў залах дамоў культуры і школьных памяшканнях гучалі найперш творы класікаў — урыўкі з монаспектакляў "Сны аб Беларусі" і "Дарога ў Вільню" (прэм'ера паводле "Новай зямлі" Якуба Коласа). У спектаклях-сустрэчах браў удзел Анатоль Вярцінскі, які распавядаў сваім землякам пра жыццёвы шлях і духоўнае значэнне для народа Купалы і Коласа, пра сучасную беларускую літаратуру, а таксама пра гісторыю стварэння і творчыя набыткі тэатра "Зьніч".**

**Не былі абмінутыя і маленькія лепяльчане. Для іх акцёр Вячаслаў Шакаліда ладзіў цікавае, вясёлае відовішча — лялечны спектакль "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага і Заблоцкага" па п'есе П. Васючэнкі і С. Кавалёва.**

**Поспеху гастроляў спрыяла арганізацыйная і маральная дапамога з боку намесніка старшыні гарсавета В. Закрэўскай, дырэктара РДК Т. Харкевіч, кіраўніка літаратурна-музычнага клуба "Выток" В. Казаковай,намесніка дырэктара Баброўскай сярэдняй школы, пачынаючай паэтэсы Н. Мароз, паэтэсы і журналісткі Л. Барадзейкі, евангельскага пастара, даследчыка творчасці Васіля Цяпінскага Г. Салаўёва і інш. За што калектыў тэатра выказвае ім вялікую падзяку.**

**Марына СЛАВА,
галоўны адміністратар тэатра "Зьніч"**

ЛІМ-ЧАСАПІС

## ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКАМУ — 135

**Сёлета М. Доўнар-Запольскаму — беларускаму гісторыку, этнографу, фалькларысту, заснавальніку беларускай гістарычнай навуковай школы споўнілася 135 год. У філіяле літаратурнага музея М. Багдановіча "Беларуская хатка" 12 лістапада з гэтай нагоды адбылася сустрэча з навукоўцамі, якія займаюцца вывучэннем дзейнасці Доўнар-Запольскага.**

**Фалькларыст, літаратуразнаўца, краязнаўца, доктар філалагічных навук А. Ліс — акрэсліў ролю Доўнар-Запольскага ў станаўленні беларускай нацыянальнай навукі, яго шматгранную дзейнасць. Грунтоўным быў выступ выкладчыцы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта В. Лебедзевай. Вялікую цікавасць у прысутных на вечарыне выклікала паведамленне гісторыка і літаратуразнаўца В. Скалабана пра тое, што ў выдавецтве "Беларусь" рыхтуецца да друку "Гісторыя Беларусі" Доўнар-Запольскага. Над выданнем працавалі супрацоўнікі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта і Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Падрабязна пра ініцыятыву стварэння першага універсітэта на Беларусі і мінскую інтэлігенцыю пачатку XX стагоддзя, якая гуртавалася вакол гэтай ідэі, расказаў навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН РБ, вядучы супрацоўнік Нацыянальнага архіва РБ У. Ляхоўскі. Пра банкаўскую дзейнасць М. Доўнар-Запольскага прысутныя даведаліся з выступлення старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі НАН РБ А. Кіштымава.**

**І. ШАБУНЯ,**
**студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта**

## КНІГА ДУБОЎКІ

**У серыі "Беларуская паэзія XX стагоддзя" выйшла доўгачаканая кніга Уладзіміра Дубоўкі, самабытнага майстра паэтычнага беларускага слова. У яе ўвайшлі вершы, якія раней друкаваліся ў зборніках "Строма" (1925), "Credo" (1926), "Наля" (1927) і ў іншых, у "Палескай рапсодыі" (1961) і двухтомніку "Выбраных твораў" (1965). Увайшлі ў яе таксама два вершы, якія да гэтага былі апублікаваны толькі ў перыёдыцы. Складальнікі кнігі — Дзмітрый Давідоўскі, аўтар лімаўскай публікацыі пра сваю знаходку аднаго з такіх вершаў у сярэдзіне 1990-х гг., і Зінаіда Пазняк. Апошняя ўклала для беларускамоўных чытачоў санеты Шэкспіра ў перакладзе Дубоўкі. Шкада толькі, што кнігу можна набыць пакуль толькі ў цэнтральных кнігарнях нашай сталіцы. Афармлена яна надзвычай прыгожа, як і ўсе выданні гэтай серыі. На ёй змешчаны фрагмент карціны В. Цвіркі "На возеры Свір" з вялікім ружовым кустом шыпшыны каля плоту. "О, Беларусь, мая шыпшына..." — лірычны выгук, марка і брэнд Дубоўкі, лагічная назва новага зборніка яго паэзіі.**

**Л. СІЛЬНОВА**

## СУСТРЭЧА Ў ГІМНАЗІІ

**"Прынцэса з тусоўкі" — так называецца аповесць Яўгена Хвалея, якая выйшла ў серыі "Школьная бібліятэка" ў 2000 годзе ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя". За гэтыя два гады, што прайшлі з часу выдання кнігі, аўтар атрымаў больш за 50 запрашэнняў на творчую сустрэчу з боку школ і дзіцячых бібліятэк рэспублікі.**

**І вось нядаўна адбылася чарговая сустрэча з аўтарам у гімназіі № 4 г. Мінска што ў мікрараёне "Кунцаўшчына". Я.Хвалей прыехаў не адзін, а з супрацоўнікам выдавецтва "Кніга" Л. Несцяровіч.**

**Школьнікі і настаўнікі не проста прыйшлі на сустрэчу з аўтарам, яны скрупулёзна падрыхтаваліся, прачытаўшы кнігу і вывучыўшы анкету-апытанне па аповесці, змешчаную ў часопісе "Бібліятэка прапануе", заснавальнікам якога з'яўляецца Беларуская бібліятэчная асацыяцыя і Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк г. Мінска.**

**В. ВІЛЬТОЎСКІ**

ЗГАДКІ

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# ПОМНЮ ЎРОКІ КЛАСІКАЎ...

На працягу майго доўгага жыццёвага і творчага шляху лёс зводзіў мяне з мноствам самых розных людзей. Адны проста засталіся ў памяці — былі, ёсць — другія сталі дарагімі і блізкімі назаўжды — паўплывалі на жыццё і творчасць,— трэцім жа, думаю, і я, як чалавек і пісьменнік бескарысліва і шчыра дапамагаў, як мог, словам, усё маё жыццё, уся мая праца — з людзьмі і між людзей. І ў далёкія перадваенныя жахлівыя для майго пакалення гады, што выпалі на пару майго станаўлення, і ў трагічныя часы вайны, калі мы змагаліся з ворагам, і ў няпростую пару мірнага аднаўлення, ды і ў многім складаную і супярэчную пару сённяшнюю.

І хочацца мне, калі ўжо так, успомніць як некалі я і мае таварышы ішлі ў літаратуру. А дакладней, як вялі ў яе нас і старэйшыя пісьменнікі, і амаль нашы аднагодкі, тады ўжо вядомыя майстры нацыянальнага слова, кіраўніцтва даваеннага пісьменніцкага саюза.

А таксама, хочацца расказаць маладым, якіх сёння ў СБП вельмі шмат, ды і ўсім, хто маладзейшы за маё пакаленне, якія былі ўзаемаадносіны між членамі (зараз сябрамі) нашай творчай арганізацыі. Бо сёння, на жаль, з гэтым у нас не ўсё годна...

Дык вось, у тыя далёкія 30-я гады, бліжэй да 40-х, сярод нас, будучых членаў Саюза беларускіх пісьменнікаў было шмат студэнтаў тэхнікумаў, ВНУ. Зрэшты, так было заўсёды, так і зараз — у студэнцкім асяродку, тым больш на філфаку БДУ, педуніверсітэта імя М. Танка, абласных педуніверсітэтаў, мазырскага, іншых ВНУ творча здольнай моладзі нямала. І, ведаю, выкладчыкі кафедраў роднай мовы і літаратуры, могуць спрыяць яе творчаму росту. Дзякуй ім за гэта...

Але вярнуся ў сваю маладосць. Памяшканне інстытута журналістыкі знаходзілася на вуліцы Карла Маркса. Амаль побач з двухпавярховым драўляным домікам, у якім размяшчаўся Саюз пісьменнікаў — на рагу Савецкай і Камсамольскай вуліц.

Сюды, у саюз, супрацоўнікі яго апарата, нас, студэнтаў запрашалі часта. На сустрэчы з вядомымі літаратарамі, на чытацкія канферэнцыі, што праводзіліся ў пісьменніцкай бібліятэцы, якая лічылася адной з лепшых у сталіцы, на іншыя творчыя мерапрыемствы. А таксама — на нарады маладых пісьменнікаў, на якія мы хадзілі, як на своеасаблівыя святы творчасці. Тут, у саюзе, мы, маладыя, абмяркоўвалі толькі што прачытаныя літаратурныя творы. Ды і мы самі, не чакаючы запрашэнняў, цягнуліся да пісьменніцкага саюза. Там у адным з кабінетаў працавалі літаратурнымі кансультантамі ўжо тады шырока вядомыя пісьменнікі Кузьма Чорны, Аркадзь Куляшоў, Анатоль Астрэйка, Эдзі Агняцвет. Ён так і называўся — кабінет маладога аўтара. Добра помню, як сюды прыходзілі са сваімі творамі студэнты Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага Анатоль Вялюгін, Мікола Аўрамчык, Уладзімір Кандраценя, а з нашага інстытута — Аляксей Пысін, Авяр'ян Дзеружынскі і, безумоўна, я. Ніхто з нас маладых, не заставаўся без ўвагі знакамітых пісьменнікаў. Кожны з нас мог атрымаць вусную альбо пісьмовую літаратурную кансультацыю. Тут жа, у Доме пісьменніка, знаходзілася рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва". Амаль у кожным яе нумары змяшчаліся творы пачынаючых пісьменнікаў. Калі твор нельга было друкаваць, аўтар абавязкова атрымліваў пісьмовы адказ за подпісам або кансультантаў саюза альбо супрацоўнікаў рэдацый газет, часопісаў, у прыватнасці, вельмі папулярнага тады "Полымя рэвалюцыі".

Аднойчы і я атрымаў пісьмовы адказ ад Кузьмы Чорнага на сваю невялікую п'есу, якую напісаў яшчэ, калі вучыўся ў сёмым класе. П'еса пісалася па "Аповесці будучых дзён" Янкі Маўра. У ёй расказвалася пра хлопчыка, які прыехаў жыць з Заходняй Беларусі ва Усходнюю. Тады гэта была вельмі актуальная тэма і мяне, "пісьменніка", які ўжо друкаваўся ў раённай газеце і ў "Чырвонай змене", кіраўнік школьнага драматычнага гуртка папрасіў напісаць п'есу па творы пісьменніка: Маўра любілі чытаць усе ў Беларусі, асабліва захапляліся яго творчасцю школьнікі.

І вось сам Кузьма Карлавіч прачытаў маю п'есу і прыслаў адказ. Цытую даслоўна:

"Паважаны Пятрусь Прыходзька!

Прачытаў я Вашу п'есу. Скажу шчыра, яна атрымалася ў Вас яшчэ вельмі слабай. У ёй паны гавораць такой мовай, якой, скажам, гавораць местачковыя сяляне. Трэба ж, каб кожны персанаж у творы меў свае асаблівасці — сацыяльныя і індывідуальныя.

Чытайце больш мастацкай літаратуры, асабліва сучаснай беларускай.

Гэта дапаможа Вам і ў творчасці і наогул у вашым жыцці.

Са шчырым прывітаннем Кузьма Чорны."

Вось так выдатны майстар роднага слова вучыў юнага студэнта, як трэба ставіцца да творчай працы, да выбару свайго жыццёвага шляху.

Дом пісьменніка ў Мінску ў даваенныя гады быў сапраўды родным домам для ўсёй тагачаснай літаратурнай моладзі. Тут мы, будучыя пісьменнікі, праходзілі сваю літаратурную школу. Тут выдатныя майстры слова давалі нам незабыўныя ўрокі роднай мовы. А да ўсяго — прыклады зычлівых адносін між старэйшымі і маладзейшымі літаратарамі, наогул нават між людзьмі.

У гэтым доме па рашэнні праўлення СП БССР кожны год наладжваліся курсы-канферэнцыі маладых пісьменнікаў. На іх запрашаліся найбольш здольныя маладыя аўтары з усёй рэспублікі.

Летам 1939 года на гэтых курсах давялося быць і мне разам з маімі землякамі Міколам Ткачовым, Эдуардам Валасевічам і Мікалаем Гарулёвым. З Гомельшчыны былі выкліканы Іван Мележ, Дзмітрый Кавалёў, іншыя пачынаючыя аўтары. А як жа праходзілі гэтыя курсы?

Перад намі з чытаннем сваіх твораў выступалі Кандрат Крапіва, Змітрок Бядуля, Міхась Клімковіч, Рыгор Мурашка, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка і іншыя пісьменнікі. Яны таксама дзяліліся сваім літаратурным вопытам. Кандрат Крапіва, напрыклад, нам, пачаткоўцам, чытаў сваю толькі што напісаную камедыю "Хто смяецца апошнім" — яна тады рыхтавалася для пастаноўкі ў Першым Беларускім драматычным тэатры ў Мінску. Тут, у гэтым Доме, таксама нам чыталі лекцыі па гісторыі, літаратуры і мастацтве вучоныя з Акадэміі навук, прафесары, дацэнты БДУ, іншых вышэйшых навучальных устаноў сталіцы. Вядомы ўжо тады скульптар Заір Азгур вадзіў нас у сваю майстэрню, паказваў свае работы. Народная артыстка БССР Ларыса Пампееўна Александроўская прыходзіла да нас у Дом пісьменніка, расказвала аб сваёй працы ў оперным тэатры, спявала свае любімыя песні.

І, відаць, самае галоўнае, што было на тых курсах-канферэнцыях, гэта зычлівае, шчырае абмеркаванне творчасці кожнага з нас. І мы, пачынаючыя творцы, абмяркоўвалі працу таварышаў. Помню, як Іван Мележ чытаў свае вершы, апавяданні (назвы забыліся), было прыемна ўсведамляць, як ён хораша пісаў возера, на хвалях якога калыхаліся белыя лілеі, а да іх па блакітнай, празрыстай вадзе падплывала чароўная, але дзяўчына-прыгажуня. Запомнілася яшчэ, як такі ж, як і мы малады Рыгор Бярозкін — ужо вядомы літаратурны крытык, чытаў нам лекцыю пра творчасць Уладзіміра Маякоўскага. Калі праходзіла тая нарада, Янка Купала быў у Ляўках і не змог прыехаць. А Якуб Колас па запрашэнні Міхася Клімковіча прыехаў са свайго лецішча з-пад Пухавіч, яно было ў вёсцы Балачанка па-над Свіслаччу. Пясняр расказваў нам пра ўсё, што мы хацелі ад яго пачуць, і ў творчасці і ў жыцці.

Але, усё гэта было ў нашым пісьменніцкім саюзе ў няпростыя, па сутнасці трагічныя часы, нашай гісторыі. У час, калі паўсюль ішлі рэпрэсіі. Яны, вядома ж, не мінулі і пісьменніцкай арганізацыі. Мы не ведалі за што арыштоўвалі і садзілі ў турмы беларускіх пісьменнікаў, якіх мы любілі, і творамі якіх мы зачытваліся. Гэта — Міхась Чарот, Платон Галавач, Андрэй Александровіч, Барыс Мікуліч, Сяргей Грахоўскі, Мікола Федаровіч, Алесь Звонак, Станіслаў Шушкевіч і многія іншыя, ні ў чым не павінныя людзі. Мы чулі пра ўсіх іх толькі два словы: "вораг народа", хоць не верылася ў гэта, шчыра кажу сёння. Але каму мы маглі выказаць сваё абурэнне, калі і бацькоў нашых, старэйшых братоў і сясцёр ні за што вывозілі на Салаўкі, у Сібір, саджалі ў астрогі. І вось у такіх абставінах тым не менш узрастала новае літаратурнае пакаленне. Кожны з нас быў упэўнены, верыў у тое, што Беларусь ніколі не загіне, будзе жыцьвечна як самастойная квітнеючая рэспубліка, са сваёй культурай, цудоўнай мовай, багатымі скарбамі літаратуры і мастацтва.

Не дарэмна, нібы ва унісон гэтым перакананням выйшла тады, у 1938 годзе ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве



першая кніга паэзіі Пімена Панчанкі — настаўніка Кіраўскай сярэдняй школы, але ўжо вядомага паэта, на вокладцы якой яркімі літарамі было напісана — УПЭЎНЕНАСЦЬ. Мы ўсе перачытвалі гэту кнігу, запаміналі вершы, у якіх "на полі ляжаць снапы, як рыжыя браты", "стаяла яблыня ля вёскі, як падарожнік між дарог". А ў адным з вершаў гучала споведзь тагачаснага маладога хлопца-патрыёта:

*Я спакойны юнак, можа нават*
*крыху сарамлівы,*
*Не пакрыўджу і птушкі, бо знаю —*
*ёй хочацца жыць.*
*Але тых, хто жадае напасці на край*
*мой любімы,*
*Я сваімі рукамі без жалю гатоў*
*задушыць.*

І вось пачалася Вялікая Айчынная вайна. Усе мы аказаліся на франтах альбо ў партызанскіх атрадах. Як пасля высветлілася, Анатоль Астрэйка нават выпусціў у варожым тыле ў падпольнай партызанскай друкарні кнігу вершаў "Слуцкі пояс", Антон Бялевіч у брыгадзе легендарнага Бацькі Міная напісаў паэму "Мой майстар", якая потым была надрукавана ў часопісе "Новый мир", перакладзеная на рускую мову Дзмітрыем Осіным. А мы з Піменам Панчанкам, Аркадзем Куляшовым і іншымі беларускімі пісьменнікамі аказваецца, былі на адных франтах — Бранскім і Цэнтральным Беларускім. Прымалі непасрэдны ўдзел у вызваленні роднай Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1944 годзе Пімена Панчанку, ваеннага карэспандэн-

та, лёс закінуў аж у Іран. Затым адтуль пасля вайны ён прывязе ў Мінск шмат новых вершаў, якія ў хуткім часе выйдуць асобнай кнігай пад назвай "Іранскі дзённік". Мне асабіста выпала шчасце прымаць непасрэдны ўдзел у вызваленні роднай Беларусі, Польшчы, Чэхаславакіі, дайсці да Берліна і да Прагі, якая была вызвалена войскамі нашага фронту пад камандаваннем маршала Конева пасля ўжо Дзевятага мая.

За гады рэпрэсій і вайны, ледзь не знікла ўся беларуская пісьменніцкая арганізацыя. Як цяпер ведае кожны з нас, яна страціла дзесяткі пісьменнікаў. Іх імёны напісаны на памятным стэндзе, які сёння вісіць на сцяне ў фае Дома літаратара. Але ніхто і нішто, як гаворыцца, не забыта. Творы амаль усіх паэтаў, празаікаў, якія загінулі на вайне, у прыватнасці Міколы Сурначова, Аляксея Коршыка, Хвядоса Шынклера, Рыгора Мурашкі, іншых белых пасля выйшлі кнігі: дзяржава паклапацілася пра гэта. Усе мы зараз чытаем і перачытваем гэтыя кнігі. А што сталася з тымі маладымі пісьменнікамі, якім пашчасціла застацца жывымі і вярнуцца з вайны дадому?..

Ніколі не забыць, як я, вайсковы капітан, у поўнай форме ў канцы мая 1945 года прыехаў з Прагі ў Мінск. Горад быў разбураны поўнасцю, ляжаў у руінах. Але непадалёку ад Дома Урада, які ацалеў (хоць быў замініраваны немцамі перад іх адступленнем), захаваўся драўляны двухпавярховы дом. У ім знаходзіўся Саюз беларускіх пісьменнікаў. І вось тут у адзін з цёплых, сонечных дзён я зноў сустрэўся з Анатолем Вялюгіным, Іванам Грамовічам, Усевaладам Краўчанкам, іншымі баявымі сябрамі, якіх добра ведаў яшчэ з часоў студэнцкай маладосці.

Саюз беларускіх пісьменнікаў, у якім заставаліся лічаныя яго члены (здаецца, не больш сарака чалавек), зноў пачаў папаўняцца: былыя франтавікі і партызаны вярталіся ў літаратуру. У першы ж год пасля вайны ў члены саюза былі прыняты Янка Брыль, Іван Мележ, Анатоль Вялюгін, Кастусь Кірэнка, Мікола Лупсякоў, Іван Шамякін і многія іншыя; адны ўжо выдалі першыя кнігі, другія прывезлі творы, напісаныя ў акопах і ў партызанскіх зямлянках.

Дайшла чарга і да мяне. Я працаваў у вайсковай газеце Мінскай ваеннай акругі (тады яна так называлася) "За радзіму". Па спецыяльным выкліку халодным зімовым днём я прыйшоў у Дом Урада, у цокальным памяшканні якога знаходзіўся Саюз пісьменнікаў, на пасяджэнне яго праўлення.

—Ваша пытанне будзе другім па парадку, падрыхтуйцеся, — сказаў мне сакратар саюза Павел Кавалёў. — А пытанне гэта значыла — прыём у члены Саюза пісьменнікаў.

Прызнацца, я вельмі хваляваўся, магчыма, больш чым перад атакай на фронце, калі быў палітруком роты. Ды дарэмна. Рэкамендацыю мне даў для ўступлення ў саюз (тады было дастаткова адной) Максім Танк. Ён жа быў і рэдактарам маёй першай кнігі вершаў "Голас сэрца", якая рыхтавалася да выдання ў Дзяржаўным выдавецтве. Добрую падтрымку аказаў мне і мой зямляк Аркадзь Куляшоў, якога я асабіста ведаў з гадоў свайго маленства.

І вось я падымаюся ва ўвесь рост у вялікім пакоі, у якім на пасяджэнні праўлення Саюза пісьменнікаў прысутнічаюць Якуб Колас, Янка Маўр, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Макар Паслядовіч, многія іншыя вядомыя ўсёй краіне пісьменнікі. Мяне просяць пачытаць што-небудзь са сваіх твораў. Ледзь стрымліваючы хваляванне, я пачынаю чытаць па памяці сваю франтавую паэму пра Героя Савецкага Саюза — аднапалчаніна Георгія Васільевіча Майсурадзе.

*У атаку я няспынна*
*Паскараю кожны крок.*
*Прыдняпроўская даліна,—*
*На зубах рыпіць пясок...*

Раптам чую чыйсці голас: "Хопіць чытаць. У мяне ў самога ажно заскрыпеў на зубах пясок. Ёсць прапанова — прыняць. Другой няма." Гэта, як потым я даведаўся, што так сказаў празаік Макар Паслядовіч.

Усе прысутныя аднагалосна прагаласавалі "за". Так я стаў членам Саюза пісьменнікаў. На гэтым жа пасяджэнні праўлення былі прыняты ў саюз Уладзімір Шахавец і Алесь Есакоў. Мы, безумоўна, скаліся адной кампаніяй і, як след, адзначылі гэта. З намі былі старшыня, сябры. Дабрыня і шчырасць у тагачасным саюзе запомнілася назаўжды.

**ПАМЯЦЬ**

# ЯГО ВЯЛІКАСЦЬ ЧАЛАВЕК

## да 90-годдзя паэта Аляксея РУСЕЦКАГА

Імя паэта Аляксея Русецкага стаіць у беларускай паэзіі як бы на водшыбе, у своеасаблівым адметным радзе. Сярод традыцыйнай плыні тагачаснай нашай літаратуры ён вызначаўся нефілалагічнай тэматыкай ды інтэлектуальным стылем пісьма і мыслення. Па сённяшнім часе гэта ўжо як бы й не выклікае "падазрэння" на "из ряда вон выходящее", а ў пасляваеннай паэзіі мінулага стагоддзя тое было не столькі незвычайнай, як надзвычайнай з'явай...

Ветурач-бактэрыёлаг — і паэт! Ну ні ў якія вароты не лезе... Аднак жа так. Я памятаю яшчэ як, жывучы ў вёсцы, пацеў над нязвыклай тады для мяне арыгінальнай вершаванай стылістыкай, чытаючы зборнік "Крокі сэрца", а пасля і ранейшыя кніжкі Аляксея Русецкага. Яго неардынарныя паэтычныя радкі абуджалі не толькі прыспаныя людскія эмоцыі і пачуцці, але і раскатурхвалі запраграмаваны партыяй чалавечы розум:

*Я гэту яву сабе нанова*
*У смутны,*
*пакутлівы дзень адкрыў,*
*і косназыкія болю словы*
*спякаліся ў даўкі нячутны крык.*
*І шастала поле маёй паперы,*
*і значыўся шлях*
*слупамі дат,*
*я ўбачыў, што час ідзе толькі*
*ўперад,*
*дарога ж можа ісці і назад.*

"Усведамленне адказнасці за лёс планеты, любоў да роднай зямлі, экалагічныя і многія іншыя праблемы сучаснасці асэнсоўваюцца ў філасофскім роздуме паэта, дзе на першым плане — "Яго Вялікасць Чалавек", чалавек як "сын бязмежнай матэрыі", як частка прыроды, адзінкавая праява пераемнасці жыццёвага вопыту ў непарыўным ланцугу людскіх пакаленняў" —

так вызначае даўгавечную аснову творчасці ПАЭТА Аляксея Русецкага крытык Любоў Гарэлік.

І гэта сапраўды так..

Спадзяюся, што малады чытач з цікавасцю прачытае тут, прапанаваныя нашаму тыднёвіку ягонай дачкой Ірынай, вершы з апошняга рукапісу паэта "На апошнім прыстанку", які быў падрыхтаваны ім незадоўга да смерці для выдавецтва "Мастацкая літаратура", і, магчыма, знойдзе ў дзевяностагадовым Аляксеі Русецкім блізкага сабе, па розуме і адчуваннях, сучасніка... А тыя, хто ведаў паэта асабіста, яшчэ раз ушануюць яго памяць у сваіх сэрцах...

**ЛеГал**


1940 год

### Аляксей РУСЕЦКІ

•

*Бывае, часам, з даўняй даўнасці*
*дыхнуць вясновыя вятры*
*пары трывожнай закаханасці,*
*спякотнай, хмельнае пары.*

*Крынічна чыстай і зіхоткаю*
*красою зноўку вабіш ты*
*і той хвілінаю кароткаю*
*сустрэча блюзніцца заўжды.*

*Ты пройдзеш міма, нечаканая,*
*не затрымаю твой пагляд*
*у месцы часу, непазнаны я;*
*о, вечны, сумны маскарад!..*

**1995**

### ВЫСЯЖАР

*Таемны родны Высяжар —*
*з далоню купка зоркаў сініх,*
*бліщчаў, як выкінуты жар,*
*на магілёўскім небасхіле.*

*Ягоны мерны рух не раз*
*сачыла юнае каханне,*
*на ганку вызначала час*
*аж да высокага світання.*

*Тады звінелі вечары*
*на пляцы ў зорнае надвор'е,*
*сягалі думкамі сябры*
*у свет з-пад сіняга сузор'я.*

*Праз колькі год, праз колькі ж год*
*уночы восеньскай бяссоннай*
*ягоны з бездані ўзыход*
*угледзеў з менскага балкона...*

*І памуцілася ўваччу,*
*сацьмеў нябёсны спадарожнік,*
*у цемры сцішанай адчуў,*
*што я цяпер — адзін з апошніх...*

*Раскручваю наш доўгі шлях,*
*бы плёнкі стогадовы скрутак,*
*відаць як набліжаўся крах*
*ачмураных з маленства люта.*

*Відаць, нарэшце, хто глуміў*
*зямлі бацькоўскай запаветы*
*і што рабілася з людзьмі*
*у часе каламутным гэтым.*

*Але хто здатны прадрачы*
*хаду й клопаты краіны —*
*мо геній у праблісках начы*
*або вяшчун з чуццём птушыным?*

*Няпэўна ўсё... Мне ж — лёсу дар:*
*ужо на менскім небасхіле*
*свяціцца будзе Высяжар...*
*на поўдні ад мае магілы.*

**1998**

### БІЯЛАГІЗМЫ ЛЁСУ

*Вапняк ейны цвёрды ў маіх касцях*
*І ейная соль у жылах;*
*Мяне да радзімай зямлі ў прасцяг*
*Цягнула нябачная сіла.*
*Мялоўка, Мелляўкоўка,*
*Белы Камень,*
*Бялынкавічы, Белая Дуброва...*
*З белявымі ўрадзіўся валасамі*
*у гэтым краі — чыстым*
*і здаровым.*

*А колеры ўсе паглынае шэры,*
*зямля ля "зоны" змоўкла,*
*пацямнела,*
*зыходзяць там цяпер пенсіянеры*
*у дол глыбокі ў арэоле белым.*

*Зямля здалёк турбуе чалавека,*
*бярэ за сэрца настальгічным*
*болем,*
*зрушае процьму генаў і малекул*
*мацней чым стрэлку*
*компасную полюс...*

*Амаль спасціг загадку*
*ўсю Скарына,*
*чым любыя людзям свае сялібы*
*і птушкам "свая гнёзды",*
*як звярыне*
*яры свае, "свая віры" ўсёй рыбе.*

*Вугор настырны з нарачанскай*
*хвалі*
*паўзе, плыве ў Амерыку, і бусел*
*ляціць з-за мора праз чужую далеч*
*зноў да гнязда свайго на Беларусі.*

*Яшчэ трымае свет сіне-зялёны*
*усё суладдзе, сонечную цэльнасць,*
*ды множацца атруты, "зоны",*
*войны,*
*і мроіцца мне мёртвая пустэльня.*

**1998**

### АПОШНІЯ РУЖЫ

*Са смуткам настальгічным*
*па мінулым*
*мігціць у змроку памяці святлом*
*і тое, што калісьці прамільгнула*
*і што нязменна ў кроках*
*сэрца йшло.*

*Шляхі, прыстанкі зноў перад*
*вачыма,*
*як гэты свой, нарэшце, мірны дом;*
*усё, дзе з імем свеціцца жанчыны,*
*цяпер здаецца мне й было жыццём.*

*Спатканыя, прымроеныя дзе ж вы,*
*адчутыя душою назаўжды,*
*прапраўнучкі цікаўнай, мілай Евы*
*з абліччамі гарэзаў ці святых?*

*Над галавой даўно віюцца сцюжы,*
*мне ж хочацца напрыканцы гадоў*
*паднесці вам апошнія ўжо ружы*
*або пакласці на журботны дол.*

**1996**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

Слухачы, якія далучаюцца да літаратурных перадач Беларускага радыё, прызвычаіліся ўжо да раскладу асноўных праектаў, які ўсталяваўся з 1 лістапада. Таму, у асноўным, іх цікавіць тое, што пачуюць у аўтарскіх праграмах, "Жывым гукам", "Кароткіх гісторыях".

**У аўторак, у 22.30 у праграме "Брама"** Навум Гальпяровіч будзе разважаць аб узаемаўплывах беларускай і іншых літаратур, аб беларускіх літаратарах, якія пішуць на розных мовах. Госць праграмы — паэт, празаік, перакладчык **Ганад ЧАРКАЗЯН.**

З навінамі тэатральнага жыцця знаёміць праграма Святланы Шалімы **"Авансцэна" ў гэты ж час у сераду**, а ў **чацвер** Галіна Шаблінская ў праграме **"Палітра"** будзе разважаць на тэму "Зямное і быцейнае, рацыянальнае і пачуццёвае ў творчасці мастака". У гасцях у "Палітры" будзе паэтка Галіна Булыка.

І завершыць цыкл аўтарскіх праграм у пятніцу Ірына Шаўлякова чарговым **"Сентыментальным паляваннем"**.

Штодзень, акрамя выхадных, пасля паўночы — "Кароткія гісторыі" — творы айчыннай і замежнай класікі.

Навіны літаратуры ў "Літаратурным праспекце" ў суботу, а ў той жа дзень — **"Жывы гук"**. У прамым эфіры чакаюцца сустрэчы з **Сяргеем Панізнікам і Дзмітрыем Строцавым.** З імі гутарыць **Маргарыта Прохар**.

У нядзелю ў праграме **"Радыёпарк"** — навіны сусветнай літаратуры ад Святланы Дзевяткавай і **"Канцэртная зала"** з **"Паэтычнай імпрэзай"**.

**КАНАЛ "КУЛЬТУРА"**

"Клуб дамаседаў". Працягваем чытаць разам раман **У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", панядзелак-аўторак 9—10 снежня ў 11.00. У сераду ў гэты ж час** — праграма М. Прохар **"Літаратурны клуб", а ў чацвер — "Натхненне"** В. Макарэвіча.

**"Літаратурны аўторак"** у "Сімфоніі дня" **10 снежня:** у **12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі,** у якой віншаванне Мінскага абласнога тэатра з юбілеем яго заснавальніцы артысткі Эме Ларыёнавай, у **14.40 — "Сугалоссе"** У. Дзюбы: пра творчасць Марка Шагала вачыма паэтаў — балгарына Хрыста Бекрыева і народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна, у **15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага**, у якіх — эпісталярная спадчына рускага класіка І. С. Сакалова-Мікітава, у **15.40** слухайце спектакль "Паміж усмешкай і слязой" паводле лірыкі паэткі **Н. Мацяш.** І завершыць **"Літаратурны аўторак"** на канале **"Культура"** праграма **Г. Шаблінскай "Гаспода"** — пачатак у **16.10.** Госць студыі жывога эфіру — **пісьменніца Н. Маеўская.** (Паўтор у суботу, 14 снежня, у **10.10.**)

**Н. К.**

